як параўнальную форму слова *рана*: “Сягоння раней я падняўся, як учора”. А для называння таго, што перад гэтым было, – слова *ўперад (упярод)* ужывалася.

Трэцяе паўзабытае агульнае – абласное слова *протар* (востры металічны пруток). Папраўдзе, калі б не натыкнуўся на яго ў запісах Рыгора Іванавіча, наўрад ужо калі-небудзь сам і ўзгадаў бы.

Яшчэ два вельмі характэрныя для некаторых мясцовасцей арэала нашага паўночна-ўсходняга дыялекту словы – *роўна* ў значэнні *аднолькава*, *гладка* – у значэнні *дазвання*.

Барадулін больш чым хто з беларускіх літаратараў здзіўляе адданасцю першавыткам слова. І наогул ён – узор шчаслівага спалучэння ў чалавеку абазнанасці прафесійнага філолага і прыроднай моўнай памяці, інтуіцыі, назіральнасці. Прычым не толькі ў сталыя гады, але і ў маладосці, калі і веды, і густ, і грамадзянская пазіцыя – усё ў стане фарміравання. Вартая ўвагі і павагі і няўразлівасць паэта да так распаўсюджанай у нас негатыўнай рэакцыі маладзейшых суайчыннікаў на ўжыванне старых словаў.

У Чорнага ў адным з апавяданняў: *нашто табе што*. Фразеалагічны выраз са значэннем непрыняцця збыткоўнасці чагосьці.

Пярліна ад Бечыка: *слоўная няўдобіца*.

У Рыбаках, бацькавай вёсцы на Мёршчыне: *кроху (троху)* у значэнні *крыху (трохі)*; *кулёк* – у значэнні *пінжак*. Назвы вёсак на *-і, -ы* ў месным склоне з канчаткамі *-ох, -ёх* вымаўляліся: у Рыбак*о*х, у Сташул*ё*х.

*Пушчэйшы* – параўнальная форма прыметніка *кепскі*, тое, што і *горшы* (пра хлеб, вопратку і г. д.).

*Няспрытна* – у значэнні *няёмка*. Ужо тое, на жаль, што без тлумачэння маладыя, нават дарэшты заанга-

жаваныя ў беларушчыне, не дадуць, напэўна, рады без слоўніка (калі яшчэ знойдуць яго там) зразумець.

Часам і ад мовы да ідэалогіі – адзін крок. У расейскай мове выраз *Святая Русь* – яскравы прыклад трансфармацыі міфалагемы ў ідэалагему.

З беларускай лексікі два нялюбыя мне словы – *гарбата* і *матуля*; з расейскай – на *-ик* назоўнікі: *налоговик, силовик, кадровик*.

*Гарбата* чужынскасцю чамусьці аддае, хоць баба і дзед заўжды яго ў размове са староннімі ды міжсобку ўжывалі; *матуля*, асабліва ў выглядзе наўпроставага звароту ўжытае, як і *налоговик* з *силовиком* – безгустоўнасцю нейкай унутранай, вульгарнасцю муляюць.

Нават і ўявіць не магу, каб прыйшло калі ў голаў у дзяцінстве або юнацтве гэтак звярнуцца да бацькоў: *матуля, татуля*. Самае ласкавае, што ў хаце прамаўлялася, – *мама, тата*. Моўныя сантыменты былі не ў пашане. Можа, таму так і рэжа слых у трамваі або аўтобусе голас саракагадовага бэйбуса, што на ўвесь салон крычыць у слухаўку тэлефона: *"Мамка!"*

З формаў словаў у множным ліку – не люблю *кнігаў*. Неяк надта ж ненатуральна гучыць, а ў чым ненатуральнасць палягае – і не растлумачу. Мабыць, як з нялюбым чалавекам: не любіш, а за што – і сам не ведаеш. Проста не любіш – і ўсё.

Землякі-міжрэчанцы дзівіліся: "У горадзе жывеш, а ніколі ад цябе расейскага слова не чулі. Няўжо не навучыўся па-гарадскому дэчыць[3]?" А я на той час якраз у школе расейскую ўжо ці не дзясяты год выкладаў. Але, што праўда, з вяскоўцамі ні разу сабе размаўляць не па-іхняму (не па-нашаму) не дазволіў. І не з ідэі нейкай ці ўпёртасці, што даволі часта мне беспадставна закідаюць. Проста вылучацца з роднага асяроддзя лічыў за негустоўнае. Яны па-беларуску

---

[3] Гаварыць (дыял.).

гаварылі б, я па-расейску – якая нясветная мешанка была б пры размове, які моўны дысананс. А хочацца ж хоць нарачча[4] – гармоніі. Асабліва калі ўсе сродкі, усе перадумовы для яе дасягнення – не на недасяжнай выспе за сямю морамі.

## 8.

З узростам гэтак з моваю атрымліваецца, як і з усім астатнім: усё радзей ды радзей хочацца пачувацца часткаю грамады, талакі, нейкага калектыўнага ўтварэння. І, бадай, не ў адным старэчым эгаізме тут прычына.

Мова – не проста асабістае. Яна, апроч таго, што з'яўляецца сродкам кантактавання, яшчэ і паказчык ступені даверу да іншага чалавека. Але чым менш застаецца нам часу на зямлі, тым менш жадання тым даверам сябе шторазу, асабліва калі гэта яшчэ і не ўзаемна, абцяжарваць. Калі гэта загана, то ці такая ўжо яна недаравальная?

Наогул стаўленне да мовы – не толькі паказчык узроўню самапавагі асобы, але і сведчанне наяўнасці ці, наадварот, адсутнасці ў ёй пачуцця самадастатковасці. у пэўным сэнсе стаўленне да мовы можна параўнаць са стаўленнем да веры. Чалавек, схільны тлумачыць сваё адступніцтва ад мовы пращчураў выключна нейкімі суб'ектыўнымі чыннікамі (дрэнны настаўнік у школе, негатыўны ўплыў асяроддзя, кепікі знаёмых і інш.), нагадвае верніка, што адвярнуўся ад Бога з-за таго, што яго калісьці пакрыўдзіў святар. І ў адным, і ў другім выпадку маем справу з адсутнасцю глыбіннага разумення сутнасці прадмета, стаўленнем да яго выключна на ўзроўні эмоцыі. А дзе эмоцыі буяюць, там, вядома, розум спіць.

Так уладкавана ў свеце: усё, што адмаўляе, куды лягчэй апаноўвае нас, чым тое, што сцвярджае. Гэта зразумела: сцвярджэнне, у адрозненне ад адмаўлення, грун-

[4] Зрэдку (дыял.).

туецца на ведах, а здабыццё іх — няпростая справа. Бо і фізічных высілкаў часам каштуе даволі значных, і адэкватнага прыняцця прынукі, без якой наогул, падобна, ніякае навучанне, асабліва ў маленстве, немагчымае. Чалавек, які адчувае незапатрабаванасць сцвярджальнага пачатку ў нейкай справе, лёгка і хутка знаходзіць апраўданне ўласнаму ў ёй няўдзелу.

Бабе Тэсьцы, швагравай цётцы, падчас нашага з ёю апошняга спаткання пад дзевяноста гадоў было. Мужык даўно памёр, адзіны сын, тэхнар-ракетчык, у блізкім замежжы, у Падмаскоўі дзесьці на сталае жыццё па сканчэнні інстытута з сям'ёй атабарыўся.

Вось сядзім са старой у чысцюткай кухні яе, размаўляем. Кабета дасведчаная: радыё, сваё і замежнае, слухае, кніжкі чытае. Колас на стале, Талстой, Прус, Ажэшка, яшчэ штосьці. Пра беларускія гурткі, што ў вёсках Якужы і Шальціны на Мёршчыне перад вайною існавалі, пра пастаноўку "Паўлінкі", польскімі паліцыянтамі ў дзень прэм'еры забароненую, апавядае.

Кніжачка невялічкая на стале — у чорнай вокладцы, з паўстлелымі ад часу старонкамі. Разгортваю: "Голас душы" — лацінкаю, 1937 года выданне. "Адкуль?" — пытаюся. — "Язэп Малецкі[5], сябрук школьны, — кажа, — прэзентаваў. З надпісам была, ды надпіс выдзерці, як другія Саветы прыйшлі, давялося: ці мала што? Хочаш — вазьмі сабе на памяць".

І зноў апавядае пра далёкае-перажытае — паважна, без каліва наракання на крыўды ды непамыснасці лёсу. Пра беларускае — ані слова. Быццам намякае: што языком дарма мянціць, мы адрабілі сваё, адбылі, ваша цяпер чарга, а нас больш неадкладная справа чакае.

---

[5] Аўтар кнігі "Пад знакам Пагоні. Успаміны" пра падзеі ў Беларусі ў 1930–1945 гг. (Таронта: Пагоня, 1976). Друк. у час-се "Спадчына" (1994, №№ 2–5).



# Выспа Літаратура

## 1.

Мой амаль трыццаціпяцігадовае даўніны зварот да літаратурнага занятку ў пэўнай ступені быў абумоўлены “радасцямі” педагогікі. Атмасферай тае цягамотлівае настаўніцкае будзёншчыны, адзіная магчымасць пазбавіцца ад якой – рашуча, аднойчы і назаўсёды, яе адрынуць. Варыянтаў зрабіць гэта праз кардынальную змену сферы працоўнае дзейнасці ў мяне, аднак, на тую хвіліну не было, таму доўга яшчэ давялося педагогіку і літаратарства сумяшчаць. Што ва ўмовах страшэннае загружанасці настаўніка рознымі не надта творчымі, як правіла, папяровымі, справамі надзвычай цяжка. Тым больш, калі сумяшчэнне расцягваецца на гады і ці блісне калі-небудзь у канцы тунеля прамень надзеі на перамены да лепшага – аднаму Богу вядома.

Паводле Камю, у літаратурнай сферы магчымыя два спосабы існавання і, адпаведна, дзве лініі паводзінаў літаратара. Першы, так званы амерыканскі, – шлях

адзінотніка, які рады ў гады ўзнікае з чарговым опусам прад вачыма патэнцыйнага спажыўца ягонае прадукцыі і тут жа, гнаны імпэтам да самоты ды свербам акунуцца ў новыя ўражанні і штодзённыя калізіі, зноў на колькі часу знікае ў жыццёвым віры. Найбольш яркім прадстаўніком такога кшталту літаратара быў у нас, напэўна, Мікола Купрэеў; не бракуе такіх, канечне ж, і сярод літаратараў сучасных.

Другі шлях, так званы французскі, наадварот, немагчымы без гуртавання творцаў і спадарожных яму гучных супольных акцый – прэзентацый, імпрэзаў, перфомансаў і г. д. Прыхільнікаў яго адвеку ў любой літаратуры шмат, і нашая тут таксама, вядома, не выключэнне.

Мой, паводле характару, безумоўна, – першы. Што таксама на варунках уваходжання пачаткоўца ў творчую сферу не адбіцца не магло. Наўзбоч суполак, наводшыбе ад гуртаванняў-літаб'яднанняў, з адсутнасцю прыяцельства з да сябе падобнымі – сітуацыя, на першы погляд, не з выгодных. Аднак, мабыць, менавіта яна і дазваляе маладому літаратару трымацца ў полі выключна ўласных памкненняў, не разбэрсваць эмоцый на нейкія неабавязковыя для яго творчага росту дэталі.

Не кожны такое зразумее, але больш як за чвэрць стагоддзя працы ва ўстановах адукацыі, і не ў адной, а як мінімум у шасці, што сведчыць пра імкненне да згаданых пераменаў хаця б праз змену дэкарацый, мне ні разу не прыйшло ў голаў размаўляць у тых установах з кімнебудзь на творчыя тэмы. Ні пра тое, што пішацца, ні пра тое, як пішацца, ні пра тое, як пры гэтым пачуваецца. Думаю, нават прыблізнага ўяўлення пра тое, чым займаюся ў літаратуры, мае калегі ў школе і ва ўніверсітэце не мелі.

Тое самае з суседзямі ў пад'ездзе дома. Тое ж – са сваякамі. З сябрамі з нелітаратурнае сферы – гэтаксама. Такое добраахвотнае знаходжанне ў цені не кожнаму проста даецца. Мне пашчасціла, бо і блізка ніколі не ўзнікала жадання перад кім бы то ні было

ў сваіх творчых прыхільнасцях ці здабытках-паразах спавядацца.

Такая адстароненасць (неістотна – наўмысная яна ці ненаўмысная) часта застаецца з чалавекам на ўсё жыццё, накладвае адбітак на ўсе яго ўзаемадачыненні і стасункі. Дастаткова сказаць, што і сёння, калі мне за шэсцьдзесят і сякі-такі досвед існавання ў творчай сферы маецца за плячыма, вакол мяне асобаў, якіх я згадзіўся б больш-менш грунтоўна ўпусціць у сваю творчую кухню, у параўнанні з тым часам, калі хаваўся ад усіх з друкаркаю ў школьным пакоі ваеннай падрыхтоўкі, – як па вясне саджанцаў у цыганскім гародзе. За выключэннем выпадковых слухачоў, з якімі лёс зводзіць калі-нікалі падчас мерапрыемстваў кшталту прэзентацыі чарговай кніжкі або з нагоды нейкай іншай літаратурнай імпрэзы. Гэткае неабавязковае, так бы мовіць, узаемадзеянне чынаў: сказаў ды і забыўся, было – і мінулася.

Але гэткае схімніцтва – не кара Божая, як можа камусьці падацца, а хутчэй – дар, што, безумоўна, адбіваецца і на ўчынках, і на ладзе жыцця ўвогуле. Прынамсі прылюдную расхрыстанасць пісьменніка, які вяшчае на ўвесь свет у “Фэйсбуку”: “Вось так выглядае мая новая кніжка”, мне ўзяць за прыклад паводзінаў цяжка. Зразумець матывы ўчынку калегі, нават прасякнуцца спачуваннем да яго клопату – калі ласка. Наследаваць жа аж гэткую ступень адкрытасці на ўвагу староннях людзей – наўрад. Некаторыя людзі схільныя бачыць у такіх паводзінах выдаткі савецкага выхавання, але з іх высноваю наўрад можна пагадзіцца. Замкнёнасць, як і яе антыпод – адкрытасць, – з катэгорыі рысаў характару хутчэй прыроджаных, а не выхаваных. А калі і не прыроджаных, а ўсё-такі набытых, то, канечне ж, не ў сталым веку.

Мае першыя літаратурныя крокі былі зробленыя падчас працы намеснікам дырэктара школы. Друкаваць тэксты не было на чым, таму кожнага разу, як толькі

набіраўся ладны кавалак рукапісу, трэба было звяртацца да сакратаркі дырэктара па ключ, каб зачыніцца ўвечары ў канцылярыі, дзе мелася друкарка. Балазе жанчына ставілася да патрэбы пачаткоўца прыязна, але не таму, што, можа, спачувала яго творчаму імпэту (яна папросту пра яго не ведала), а адзіна дзякуючы яго пасадзе, што ва ўстанове адукацыі з яе строгай іерархіяй — з'ява звычайная, шараговая. Так доўжылася з год, пакуль не надарылася нагода збегчы насуперак планам раённых чыноўнікаў ад адукацыі адправіць маладога літаратара на дырэктарства ў вёску, у абласны цэнтр. Дзе зноў педагогіка зацягнула яго на гады і дзе гульню ў хованкі з калегамі зноў давялося распачынаць нанова.

Адзінаццаць год, з дня ў дзень, — школа з яе неверагоднаю, нечалавечаю мітуснёй. Затым яшчэ сем год — гэткі ж калаўрот ва ўніверсітэце. Штотыдзень чатыры дні такое шалёнае фізічнае і маральнае нагрузкі, што на пяты, бывала, ляжыш пластом і толькі к вечару ледзь-ледзь дасі рады збольшага ачуняць ад стомы. Добра, як яшчэ вольныя дні паставіць запар дыспетчарка ў раскладзе заняткаў, тады два наступныя і на рукапісе можна больш-менш грунтоўна засяродзіцца, а не прыскакам, як звычайна, падсядаць да стала. І гэта пры тым, што працу педагагічную любіў і несур'ёзна ставіцца да сваіх настаўніцкіх-выкладчыцкіх абавязкаў ніколі сабе не дазваляў. Прынамсі за два дзесяцігоддзі на заняткі ў школу або ва ўніверсітэт ні разу не спазніўся. Як даваў рады існаваць у гэткім рытме — не разумею. Можа, таму гэткім сёння стомленым сябе адчуваю ды ад усяго, што ні прапануюць з грамадскіх нагрузак, адмаўляюся. Адмаўляюся і бачу, як дзівяцца людзі, не прымаюць на веру шчырасць такога нежадання актыўнічаць.

Як варам апякло: "Ягня ахвярнае"! Адкуль такі назоў? Аказваецца, твор такі калісьці напісаў. Падумаў міжволі: а ці трэба было?

А шчыраваць у школе ажно гэтак — да мятлікаў уваччу ды крыві з рота ў выніку рэцыдыву заробленай

у студэнцтве язвы, якою б і заняцца след, ды ўсё рукі з-за сшыткаў, планаў ды пазакласных мерапрыемстваў не даходзяць, – ці трэба было ў маладосці? Прыемна, калі былыя вучні праз колькі дзясяткаў год аклікаюць на двարэ, вітаюцца, удзячнасць выказваюць. Але ж ці так гэта важна з увагі на падарванае здароўе? На жаль, усяму вучаць ва ўніверсітэце, апроч галоўнага: разумна, з разлікам, што не сёння жыццё заканчваецца, размяркоўваць сілы ды энергію.

Як ні дзіўна, але, мабыць, нават доўгія гады настаўніцтва-выкладчыцтва з іх неадступнаю стомай не былі мне гэтак няўтульныя, як часам было няўтульным існаванне ў шэрагах сяброў творчага саюза. Заўсёды, нават падчас узначальвання абласной філіі СБП, – з адчуваннем, што для яго, саюза, афіцыёзу з яго расплывістымі крытэрыямі карпаратыўнасці ты калі і не зусім старонні, дык дакладна – не свой. Зрэшты, можа, так яно і лепш. Хаця б з тае прычыны, што нікому не застаешся абавязаным.

Падсвядомая здагадка, што буду займацца чымсьці, звязаным з творчасцю, суправаджала мяне з дзяцінства. А вось чым канкрэтна, дапамогло выявіць паступленне на філфак, калі, павагаўшыся паміж схільнасцю да матэматыкі і любоўю да моваў (да літаратуры я на той час быў зусім абыякавы), ужо выпускніком школы зрабіў выбар на карысць апошніх.

Мабыць, на філфаку літаратар упершыню ўва мне і прачнуўся. Між іншым, не дзякуючы, а, хутчэй, як яно і след у творчасці, – насуперак. Насуперак заахвочванням да вучобы выбітных навукоўцаў, якіх на той час у БДУ не бракавала: Паўленкі, Супруна, Гілевіча, Ларчанкі, Лойкі, Рагойшы ды шэрагу іншых.

Аддаючы належнае эрудыцыі і педагагічнаму таленту гэтых безумоўна выдатных людзей, і сёння над фактам, што гэтак бязбожна прапускаў іх лекцыі, усё-такі не каюся. Адзінае, у чым каюся, дык гэта ў тым, што, дзелячы час паміж паходамі ў бібліятэку і п’янымі

маладымі забавамі, так бессаромна мала дбаў у той час пра людзей, якія вучобу забяспечвалі, – бацькоў.

Мастацтвазнаўца Т. Катовіч лічыць, што запарука адпаведнасці ці, наадварот, неадпаведнасці асобы літаратара справе, якой ён займаецца, заключаецца ў тым ліку і ў яго прозвішчы.

Тае ж думкі прытрымліваецца і В. Бечык, які, напрыклад, піша пра рускіх пісьменнікаў: "Гісторыя, літаратура нібы падабралі прозвішчы, лепш за якія не ўяўляецца: Пушкін, Лермантаў, Гогаль, Някрасаў, Ляскоў, Дастаеўскі, Талстой, Чэхаў, Бунін... У саміх прозвішчах – дзівосная прыгажосць..."

А яшчэ ж, дадамо ад сябе, ёсць пазнейшага часу асобы – Ясенін, Блок, Цвятаева, Ахматава. Праўда, ёсць штосьці ад Божага провіду ў прыцягальнасці прозвішчаў згаданых творцаў XIX–XX стагоддзяў.

І як тут не парадавацца за сябе ды не лічыць за шчасце, што імпэтам да вершаскладання Бог не адарыў. З такім прозвішчам ды ў паэты – вось быў бы анекдот. А як пры прозе, дык быццам і нічога, і можна цярпець. У спалучэнні з нямецкім імем эклектычна, канечне, ды дзе там той гармоніі на ўсіх набярэшся. Тым больш што і горш у людзей бывае.

## 2.

Прыкмета часу ў літаратуры – неахайнасць пісьма. Нават, здараецца, у вельмі раскручаных, расхваленых пісьменнікаў. Неахайнасць, што не ад характару, адчуваецца, ідзе, не ад унутранай несабранасці, што было б, напэўна, даравальна, а ад элементарнай прыроджанай каструбаватасці пяра і думкі, няўмельства, немайстравітасці. Ад таго, што называецца – "не дадзена чалавеку" або "рукі не з таго месца растуць".

Можа, таму гэтулькі ў нас размоваў пра неабходнасць пісаць "модна" ды празмернага дбання аб пера-

кладах твораў на іншыя мовы дзеля пранікнення хоць якім чынам на замежны кніжны рынак. Зразумела: сатканы з неахайшчыны раман, мабыць, і пры самым кепскім перакладзе не так ужо шмат страціць. Але і ці выйграе – таксама пытанне: валоданне і дзясяткам моваў наяўнасці літаратурнага таленту ў таго ж перакладчыка, як бы ён там сам сябе ні ўсхваляў ды ні рэкламаваў, не гарантуе.

Канечне, патрапіць на тэрыторыю чужое мовы – для любога літаратара мара не з апошніх. Але ж многія літаратары ранейшых часоў такога пранікнення свядома пазбягалі. Тлумачам сумнеўнага ўзроўню на прапановы аб перакладах мелі мужнасць сказаць катэгарычнае "не", і лёс іхняга даробку праз тое ва ўспрыняцці сучаснікаў і нашчадкаў не пацярпеў.

Можна смела сцвярджаць, што негалосная норма ў сённяшняй літаратуры – няўцямнасць. І норма, і ў пэўным сэнсе – зноў жа тая самая мода. Найперш, канечне, норма і мода сярод аўтараў. У адрозненне ад якіх чытачу звыклая прастасць ды зразумеласць пісьма па-ранейшаму абыходзіць найбольш.

Адсюль у немалой ступені і галоўны антаганізм паміж літаратарам і чытачом у выглядзе страты апошнім цікавасці да кніжнага прадукту. Адказнасць за які ў большай ступені, вядома, нясе, як бы ні спрабаваў сябе абяліць ды, наадварот, выставіць у невыгодным святле чытача, літаратар.

Няўцямнасць – прыцемак, да якога часта апелююць нявдары з жадання прыхаваць уласнае няўмельства. Няўцямнасць наогул супярэчыць прызначэнню літаратуры, таму, як бы нам ні хацелася часам збегчы пад яе выратавальныя шаты, яна – шлях у нікуды.

Чытачу зусім нецікава, як, якімі сродкамі, з дапамогаю якіх словаў аўтар выціскае з сябе штосьці. Тым больш калі выціснутае тое – выключна і адзіна пра яго самога. Такое наўрад каго зацікавіць, бо, як казаў Чэхаў, "людзям падавай людзей, а не самога сябе". Ігнараваць

інтарэсы чытачоў — тое самае, што выдаваць хворым сігнатуры лекаў, якія ніколі ім не прыдадуцца.

Чытач — адмысловец спажывання. Яму начхаць на літаратарскія міжсабойчыкі. Ён шукае адпаведнага ўласнаму светапогляду, настрою, перакананням, жыццёвым прыярытэтам.

Падабаецца нам гэта ці не, але пісьменніцкія закіды на адрас адно аднаго, папіканкі бляклым ці, наадварот, захаплянкі бліскучым для яго, аматара, які і на свой адрас, бядак, чаго толькі ад нас жа, інжынераў душаў чалавечых, ні наслухаецца, — пусты гук. І правільна: калі ўжо паходня свабоды выбару, дык і таму ж чытачу няхай у лабірынце літаратурных сутарэнняў спраўна свеціць.

І ў гэткім разе, канечне, самыя зайздросныя перспектывы ў літаратараў — прадстаўнікоў субкультур: цікавасць публікі хоць і не шырокая, аднак жа ўстойлівая.

Вось дай рады зразумець гэтага чытача. Прагне чысціні — а тым часам чытае “нячыстага” Жэнэ. Быццам настальгуе па “чыстым” свеце Распуціна, а перавагу аддае вычварэністым Мілеру або Лімонаву. І не абавязкова гэта нейкі маргінал ці ёлупень, што чорнае ад белага не адрозніць.

Канечне, значна пашырыліся тэматычныя абсягі нашай літаратуры апошнім часам. А школы пры гэтым, шкада, не дадалося. У сэнсе наяўнасці культуры мовы ды элементарнае граматнасці. Часам так груба і неахайна падаецца ў моўным плане неблагі сюжэт, што і адной старонкі тэксту, а то і аднаго абзаца дастаткова, каб адбіць ахвоту чытаць далей. Пры кепскай мове і відавочных правалах стылю — што пераможа ў аўтарынаватары: арыгінальны творца ці, так бы мовіць, Гертруда Стайн мясцовага значэння? Другое, зрэшты, таксама зусім няблага, не кожнаму і гэткі гонар выпадае.

Цікава, што часам відавочна фальшывыя, сюжэтна ды структурна запазычаныя творы падносяцца айчын-

нымі аматарамі дбаць пра будучыню роднай літаратуры як узоры для пераймання. Гладка, складна, тэматычна на хвалі часу, а добра прыглядзецца – кампіляцыя друкаванага ў перакладным расейскамоўным часопісе "Иностранная литература".

Змушэнне да добрага праз узнёслае слова, тым больш з дуляю ў кішэні, – гэткая ж гідкасць, як і беспардоннае навязванне гідкага. Чэхаўскі Павел Васільевіч з "Драмы" гвазданууў навязлівай драматургесе Мурашкінай тэчкаю па галаве – і нічога, апраўдалі дзядзьку ў судзе. І мараль у расейскім грамадстве калі і пацярпела, дык зусім не праз такі яго чалавека(жона-)ненавісніцкі ўчынак. І ўжо ж, канечне, не праз аўтара твора.

Якой бы безумоўнай, якой бы трапнай ні была (ні бачылася) аўтару яго знаходка, калі яна занадта брутальная, твору не будзе на карысць. Адмаўляцца ад такіх знаходак цяжка, але вучыцца гэтаму ўсё-такі варта. Няўменне ці нежаданне рабіць гэта сведчыць не толькі пра адсутнасць у чалавека пачуцця меры, але і пра хібы яго мастацка-эстэтычнага погляду на свет.

А цікава ўсё-такі, хто з беларускамоўных літаратараў здолее ажыццявіць пераканаўчы прарыў у плане выхаду на міжнародную арэну. Можа, з прадстаўнікоў сексменшасцяў хто-небудзь? Наогул дзіўна: больш за тысячу творцаў у краіне, а каб хоць адзін такі прылюдна аб'явіўся. Неяк зусім не ў нагу з сусветнай тэндэнцыяй. Ужо ж калі пераймацца новымі павевамі, дбаць пра тую ж еўрапейскасць, дык і ў гэтым кірунку хай бы былі якія-ніякія крокі.

Набокаў з сарказмам піша ў "Дары", што з усіх гімназістаў Чарнышэўскага на яго пахаванне прыйшлі праз сорак год ці то толькі двое, ці то наогул – не прыйшоў ніводзін. Што быццам бы сведчыць пра непераканаўчасць Міколы Гаўрылавіча ў ролі педагога.

Але ж як часта ўменне настаўніка трымаць вучняў пры сабе да сівой барады – не што іншае, як праява звычайнага эгаізму, у той час як, наадварот, уменне адпускаць іх у вялікі свет без прэтэнзіі на пажыццёвую ўдзячнасць і памяць – сведчанне належнага ўзроўню прафесійнае прыдатнасці.

Ці не тое самае датычыць настаўніцтва ў літаратуры. Дзе, дарэчы, на недахоп яго ў дачыненні да сябе часцей за ўсё наракаюць людзі, самі да настаўніцтва з-за хібаў уласнага характару элементарна няздатныя.

Літаратура факта нярэдка нават больш далёкая ад праўды жыцця, чым расквечаная бурнай фантазіяй аўтара белетрыстыка. Факт накладваецца на факт, а ў выніку праўда калі і атрымліваецца, дык надта ж ужо кульгавая, аднабокая. Чым такая праўда, то лепш ужо складная прыдумка. Тым больш што сучбелліту, як яго абзываюць, відавочна не хапае белетрыстыкі. Затое з каптуром, аж зашмат, – нарысістыкі. Якая, хай сабе і найстыльнейшая, і найвыбітнейшая – аднак жа не мастацкая літаратура, а, хутчэй за ўсё, журналістыка. Эгацэнтрычная і часам адно самім аўтарам і цікавая жвачка.

Да размовы пра тое, што не стае нашай літаратуры аптымізму. А варта б дадаць: аптымізму ў спалучэнні з менш пафасным стаўленнем да жыцця, у тым ліку і да ўласнае ролі ў ім. Вядома, не ў тым сакрэт, каб, напрыклад, сказаць: дрэнь ты, жыццё, яшчэ тая. А ў тым, каб здолець сказаць такое мізантрапічнае з аптымізмам, ды яшчэ і пераканаўча, ды яшчэ і не абразіўшы тонкіх струнаў душы далікатнага патэнцыйнага (калі такі нагогул адшукаецца) чытача.

Залатое правіла дэмакратыі ад літаратуры: “Як добра пісаць не прымусіш, так і кепска не забароніш”.

Што шукаем у літаратуры? Па мне, дык найперш аднадумства, сугучнасці. Бывае, кніжка добрая, прафесійна зробленая, а тэматычна – не твая. Што ж, як

добрая – пэўна, знойдзе свайго чытача. А мне як чытачу ў гэты момант іншая, хай і слабейшая, больш прыдалася б для чытання. Ці не таму і агульныя размовы пра лёс літаратуры – лухта.

### 3.

Калісьці таксама хацелася выгукнуць: "Ай ды Джойс (Пруст, Кафка, Борхес і г. д.)! Ай ды суччын сын!" А сёння ўжо такое эмацыйнае сведчанне прыязнасці да элітарнага аўтара інакш, як жаданне быць залічаным да шэрагу аматараў звышвысокага, не ўспрымаецца. Канечне, у ложку пагартаць перад сном, напрыклад, тыя Леапольдавы дублінскія блуканні няблага, але чытаць ад пачатку да канца – не ўжо, дзякуй. І апошніх акордаў фізіялагічна-занатурлівага патоку свядомасці бздлівай Молі дастаткова. Натуральны працэс ссыхання эмоцый: старасць – не радасць.

Напэўна, ніводнае кніжкі гэтак утрапёна, з гэткаю асалодаю не чыталася, як калісьці, год трыццаць таму, "Кірмаш выхвальства" Тэкерэя. Уранні прачнешся, і першае, што ў галаў прыходзіць, – пра тую даўжэзную, груваcткую чытанку згадка. Да таго дайшло, памятаецца, што, перш чым адкласці фаліянт да наступнае раніцы, непрачытаныя старонкі лічыў: каб жа хоць надалей хапіла, хаця б не скончыліся дачасна, перш чым душа здаволіцца.

А вось сярод твораў літаратуры, якія так і не даў рады асіліць за жыццё, – "Стары і мора". Па мне, што бязвінную антылопу забіваць падчас палявання, што рыбіну на зазуб падсякаць – справы, не вартыя натхнення. Сцверджанне сябе праз перамогу над іншаю, хай сабе і такою бязмоўнаю істотаю, як быдлячына або рыбіна, – зусім не мае. Гвалціць жа сябе, пнучыся не выпасці з шэрагаў так званых гурманаў ад літаратуры, – ці варта высілкаў?

Трывожна-датклівы, як першы снег напрыканцы восені, Варлен Бечык. І чалавек, што безумоўна апярэджвае свой час. Хаця і рэтраграднае месцамі не-не ды і вытыркнецца ў разважаннях. Гэтак, мабыць, выяўляецца ўплыў ідэалогіі тагачаснага грамадства. Крыху гэта часам бянтэжыць, а болей нагадвае пра тое, як гэта аблудна – меркаваць аб учынках людзей выключна з вышыні іншых часавых каардынат, іншай эпохі.

Агулам жа Бечык – аўтар, на творчы даробак якога, на жаль, як і на даробак многіх іншых нашых вартых айчынных дзеячаў, сённяшні патэнцыйны чытач хіба што выпадкова натрапіць.

Згадкі ў "Маладосці" Міхася Міцкевіча (Антося Галіны) пра жыццёвы і творчы шлях Якуба Коласа – даволі хрэстаматыйна, даволі прыземлена. Што ў іх надзённага на погляд сучаснага беларуса? Ды нічога, адкажа які-небудзь прасунуты маладзён і махне грэбліва рукой. І як яму давесці ў эпоху, калі ўсё ў нас да жудасці размыта, а то і наогул навыварат у плане нацыянальнага выхавання, што без разумення грунту ўласнае гісторыі ва ўсіх яе праявах, нават калі тэзы тых праяваў часам недастаткова прывабна выкладзеныя, ніякі рух краіны наперад немагчымы.

Алесь Адамовіч піша ў прадмове да 8-томнага збору твораў Кузьмы Чорнага, што той "надаў новую маштабнасць беларускай прозе", якая заключаецца "яшчэ і ў тым новым пачуцці, з якім беларуская літаратура пачынала ўсё больш смела весці размову з «цэлым светам»".

Але нельга не адзначыць і арганічнасці твораў пісьменніка (найперш ранняга перыяду) у плане адпаведнасці сродкаў мастацкага адлюстравання рэаліям тагачаснага жыцця. Як і таго, што ўсе яны – яскравае сведчанне і аб'ектыўных ці, наадварот, суб'ектыўных (штучных) зрухаў нашай мовы, і велізарных яе стратаў.

Такія творцы, як Андрэй Платонаў, – кожны раз нагода і здзівіцца, і сябе пахваліць. Чытаеш і цешы-

шся, што вось і ты, грэшны, да здзяйснення акта справядлівасці – далучэння да справы аддання належнага таленту, адносна месца якога, незалежна ад таго, цалкам яго прымаеш ці не, ведае яго масавы чытаеш або не ведае, сумневаў не ўзнікае, – хай сабе і ненаўмысна, але ж прычыніўся.

Эдуард Валасевіч арыгінальны быў чалавек. Падымецца, бывала, падчас літвыступлення з месца, зірне сувора на публіку з-пад маднецкіх зялёных акуляраў ды і пачынае чытаць. Не па паперцы, як цяпер многія выступоўцы, а на памяць, аж пакуль аўдыторыя не ляжа, зайшоўшыся рогатам.

Дарэчы, адносна грамадскіх справаў зусім не кандовы быў, нягледзячы на ўзрост, чалавек. “Ну як можа быць такое, што талерак не будзе ў крамах?” – разважаў, вярнуўшыся з прагулянкі ва ўнівермаг ды наглядзеўшыся, як хапае народ падчас дэфіцыту 90-х усё, што ні трапіць пад руку. – Глупства!”

Дзіўны быў студэнт-механік у тэхналагічным універсітэце. Абы зайшла размова пра літаратуру – ён байкі Валасевіча на памяць чытаць. Адну, другую, трэцюю... Аказваецца, бацькі-інжынеры прывілі хлопцу цікавасць. Трапілі аднойчы выпадкова разам на творчую вечарыну паэта, з таго дня і пачалося сямейнае захапленне.

Алесь Асташонак хораша запомніўся. Проста, чалавечна, без навязлівай глыбакадумнасці. Кніжку Сіменона ўласнага перакладу на беларускую мову прэзентаваў. Першую з перакладных на мову, якая ў высокім узроўні прафесійнасці перакладчыка, за выняткам пары сказаў, не пакінула сумневу. Другой такой “Лісце травы” Уітмена ў перакладзе Сіпакова была. З тых, што ў рукі ды на вочы трапілі, вядома.

Першае ўражанне ад прачытання Борхесавай “Эмы Цунц” – недавер. Ці магла Эма не ведаць, што ўсе яе захады пазбегнуць пакарання за забойства – марныя?

Аддалася аднаму, каб прыпісаць згвалтаванне іншаму, — ход цікавы, але ж наўрад дазнаўцы з іх сённяшнім арсеналам медыцынскага аналізу міма такое ляпы пройдуць. То хай бы і быў працяг з мінорнаю канцоўкай, тым больш што менавіта гэткай, як у аўтара, сюжэт і не вымагаў, і не вырашала яна нічога. Апроч, хіба, агульнапрынятага, што зло, маўляў, заўжды павінна быць пераможана.

"Мяхі з соллю" паўднёвакарэйскага празаіка Ку Хёсо — яскравы прыклад таго, што зусім не абавязкова звяртацца ў пошуку годных твораў да імёнаў шырокавядомых. Што і ў нетрах так званых літаратур "малых", недастаткова папулярных, раскручаных можна пры жаданні знайсці тое, што паводле ўзроўню выканання не саступіць шэдэўрам сусветнага гучання.

Быў бы герой Ф. Рота ў "Тэатры Шабата" год на сорак маладзейшы — і, напэўна (ды не факт), куды натуральней і цікавей выглядала б яго сексуальна-вагінальная заклапочанасць. Чытаць, як даймае 68-гадовага старэчу імпэт хоць куды ўсунуць, хоць якую дурніцу перакуліць, — крыху не тое. Нават для мяне, не так ужо ў апісанні любоўных сцэнаў далікатнага.

Сябры-хаўруснікі, відаць, з гледзішча ранейшых заслуг, і прэміяй яшчэ за гэткую фантасмагорыю дарагога калегу ўганаравалі. Што, як не манеўр захаваць цікавасць чытача, якой і без таго чалавек справядліва, з улікам эрудыцыі ды ўмення тую эрудыцыю акумуляваць у творчасці, не абдзелены?

Кавабатаў "Стогн гары" з яго часам да дробязнасці дэталёвымі побытавымі апісаннямі чытаецца з ані не меншым напружаннем, чым які-небудзь дэтэктыў. Як, напрыклад, у Сіменона або ў нейкага іншага майстра гэтага жанру сочыш за працэсам вылічэння забойцы, так тут, у гэтага дзіўнага японца, — за тым, што ж там здарылася ўчора з Кікуко і якія будуць наступствы здзейсненага ёю аборту.

Калі знакі прыпынку – сродак сувязі слоў і словазлучэнняў у сказе, то ў Цвятаевай яны часта – сродак сувязі моўных адзінак і іх формаў, лагічна і сэнсава несумяшчальных. Рамесніцтва найвышэйшага кшталту, якое не на шаманстве грунтуецца, а на бездакорным узроўні моўнае інтуіцыі. Паказчык якой усётакі ў творы – найперш дасканаласць сінтаксісу, а потым ужо ўсяго астатняга.

Лагерны каваль з аповеду В. Шаламава "У стремени" расказвае нашу, беларускую прыпавесць пра тое, як тры паны тры дні і тры ночы запар, без перадыху лупцавалі мужыка, а ён толькі плакаў і крычаў: "А як жа я не еўшы?"

"Да чаго гэтая прыпавесць? – хітравата пытаецца напрыканцы аўтар і сам адказвае: – Ды ні да чаго".

## Яны

Можа, і дзіўнавата, але пры ўсім маім непрыняцці ідэек адэптаў так званага "русского мира" няма на сённяшні дзень для мяне літаратуры больш прыцягальнай, як расейская канца пазамінулага і пачатку мінулага стагоддзяў. Вядома, і Камю з Веркорам ці Бегбедэрам не адпрэчу, але на першым месцы трывала яны, расейцы. Адно што крытэрыі ацэнкі творчых здабыткаў класікаў з часам памяняліся.

Тое, што, напрыклад, у Гогаля калісьці, у маладосці, прачытвалася похапкам, па дыяганалі, сёння ўяўляецца і куды больш надзённым, і куды больш значным за раней упадабанае. Нецікавы год дваццаць таму апавед пра капітана Капейкіна, сцэны вэрхалу ў асяроддзі чынавенства з прычыны падазроных паводзінаў Чычыкава, апісанне пярэпалаху ў горадзе падчас дазнаўства наконт паходжання героя – на цяперашні розум і густ куды больш шэдэўры ў параўнанні са сцэнамі ў Сабакевіча, ці Каробачкі, ці Плюшкіна. Напэўна, узроставае: раней характары больш прываблівалі, цяпер – стыхія пісьма.

Талстому і Чэхаву верыш нават там, дзе іншаму аўтару верыць паводле азначэння было б немагчыма. Такі парадокс: вачам не верыш, а розумам прымаеш. Амаль як у Станіслаўскага, толькі наадварот: "Веру! Веру!" Не пужаюць, а страшна.

Пры ўсёй геніяльнасці Дастаеўскага-апавядальніка нельга не заўважыць пэўнае схематычнасці яго сюжэтаў. Нават часам відавочнае штучнасці, зададзенасці. Гогаль у параўнанні з Дастаеўскім куды больш і стыхійны, і натуральны. І ўплыў ягонае стыхійнасці на мастацка-эстэтычную канцэпцыю Дастаеўскага вельмі адчувальны.

Найбольш недаацэнены са знакамітае кагорты, найбольш пацярпелы ад прадузятасці нашчадкаў – бадай, Тургенеў. Можа, таму, што на першы план не самае моцнае яго сучаснікамі было высунута, можа – няшчасная Муму кепскую службу творцу саслужыла. А можа, і ўласныя рэплікі пісьменніка датычна нязначнасці свайго творчага даробку, на якія шторазу ў ягоным ліставанні з рознымі людзьмі натыкаешся, да таго прычыніліся. Але невялікія аповесці і апавяданні Івана Сяргеевіча, іх моўны і стылістычны складнікі – канечне, узор майстэрства. Нават пры пэўнай расцягнутасці аповеду і месцамі другаснасці сюжэтаў высокай мастацкай вартасці гэтыя творы не губляюць.

Сюжэт талстоўскага аповеду з даволі няўдалаю назвай "Гаспадар і работнік" – увасабленне немудрагелістае спачувальнасці да людства. І нават цабэрак умоўнасці ды каліва дыдактыкі ўражання ад твора не псуюць. Узвышэнне таго першародна-чыстага ў чалавеку, што якімі бясоўскімі хітрыкамі ні намагайся прынізіць, знішчыць, – застаецца.

На фоне шчыраванняў вядоўцаў расейскіх тэлеканалаў на тэму ўкраінскіх падзей шторазу іншыя расіяне ўзгадваюцца. Талстой з яго "Хаджы Муратам" ды прасякнутым спачуваннем да ўдзельніка вызволь-

най барацьбы 1863 года творам “За што?” Антон Паўлавіч з ягонымі добразычлівымі згадкамі пра сялянаў-украінцаў з ваколіцаў Славянска ў лістах да сястры па дарозе ў Таганрог. Арсеннеў з яго паважлівым стаўленнем да прадстаўнікоў далёкаўсходніх малых народаў. І хоць і няшмат такога ўзгадаеш, ды ўсё ж хоць на які градус не такою змрочнай выдае сітуацыя з братамі-расіянамі.

## Чэхаў

*Что? писатели? Хочешь, я за полтинник сделаю тебя писателем?*

А. Чэхаў. З нататнікаў

Гэты пісьменнік для мяне – як хвароба. Ужо, здаецца, да радка, да слова тамы прачытаныя, ледзь не на памяць вывучаныя, а не – зноўку гартаеш, гартаеш... Быццам лек. Такі эфект: чытаеш пра сумнае і праз гэтае чужое сумнае ўласнага суму пазбаўляешся. І пры гэтым – ніякага ўпадніцтва, ніякае роспачы.

А самае дзіўнае тое, што знаходзіш, 60-гадовы, у словах нашмат маладзейшага чалавека супакаенне. Адзіны твор, які цяжка мне прыняць як чытачу ў Антона Паўлавіча, – усёдаравальны “Аповед старшага садоўніка”. Хоць плач, не прымае душа гэткага чалавекалюбства.

Як бы проста ні выглядаў часам Чэхаў, асоба яго на фоне нават такіх няпростых дзеячаў рускай літаратуры, як, напрыклад, Дастаеўскі, – самая няпростая, загадкавая. У такой аграмаднай перапісцы не дае майстар кароткага апавядання зачэпкі для пранікнення ў глыбінныя пласты душы. Пра тое, што елі ўранні, напіша, пра ўласны гемарой – калі ласка. А што за ўсім тым хаваецца – аднаму толькі Богу ды самому аўтару ведама. Такое ўражанне, што староннія – усе, а душа – заўжды па-за кантэкстам да гэтых усіх прамоўленага.

Чэхаў часам грубы, але без брутальнасці, чулы, але – без залішніх сантыментаў. Гэта нашага звыклага да плаксівасці ды шчодра надзеленага прагаю станоўчасці чытача найбольш, відаць, і збівае з тропу. Асабліва раздражняе многіх кароткае, бы між іншым прыпісанае напрыканцы ліста да Суворына абыякава-похаплівае “Будзьце здаровы. Цётка памерла”.

Толькі, бадай, аднойчы нязвыкла чуллівы Антон Паўлавіч – у апавяданні “Нябачныя свету слёзы”. Ну, можа, яшчэ ў аповедзе “У калядную ноч” – пра жанчыну, што, дачакаўшыся з мора нялюбага мужа, не дае сабе рады не выказаць роспачы і тым самым штурхае яго на адчайны крок.

А вось ва ўласных учынках – куды часцей Чэхаў спагадлівы. Што ў стаўленні да хворых, якімі апякуецца падчас эпідэміі халеры, што ў дачыненні да меней удачлівых за сябе калег-літаратараў.

У Антона Паўлавіча нямала відавочна слабых, так званых “прахадных” апавяданняў. Шмат штампаў – і ў мове персанажаў, і ў апісаннях знешнасці, асабліва мужчын, праз аднаго, дарэчы, пляшывых; паўтораў (напрыклад, у іменаслове). Часта паспешлівыя, як абарваныя канцоўкі, пра якія сёння крытыкі сказалі б: слаба. У асобных творах часам зусім ненатуральна гучыць мова дзяцей. А як не пасуюць Чэхаву, як неарганічна выглядаюць яго стылізацыі на замежную тэматыку. Аўтар, вартасць даробку якога не лакальныя ўдачы-няўдачы вызначаюць, а сукупнасць твораў наогул.

Ці быў Чэхаў чалавекам апалітычным, асацыяльным, як яму гэта закідаюць (і часта не без змыслу ўласную адсутнасць грамадзянскай пазіцыі апраўдаць), лёгка праверыць. Напішам твор пра высокага чыноўніка па імені Равуноў-Караўлаў або Прышыбееў, дадамо, што быў ён “старэнькі і заржавелы”, і занясем у якое-небудзь нашае сённяшняе дзяржаўнае выданне. Ці надрукуюць?

Быццам апалітычны, быццам асацыяльны, а насамрэч? Хіба што Салтыкову-Шчадрыну ў імпэце вы-

крывальніцтва саступіць. Чэхаў не шукаў праўды, ён яе ведаў, ілюстраваў бязжаласна, але па-мастакоўску адстаронена, і гэта больш за ўсё людзей у ацэнцы яго грамадзянскай пазіцыі і збівае з панталыку.

(Дарэчы, да пытання пра апалітычнасць, асацыяльнасць літаратара ці, наадварот, занадта актыўную грамадзянскую пазіцыю. Так шмат часам жарсцяў вакол гэтага, а ўсё, здаецца, пустое. У любой справе прычынаю нашага ўдзелу або, наадварот, няўдзелу ў ёй найперш з'яўляецца пэўнасць, дадзена нам гэта або не. Што да выйгрышу ці пройгрышу ад такога ўдзелу ці няўдзелу, дык гэта – наогул асабістая справа кожнага. Бо як нямала ў літаратуры аўтараў, што страцілі праз уласную палітызаванасць, так дастакова і тых, што, безумоўна, набылі. Напрыклад, Пуіг. Якому варта толькі пачаць у "Пацалунку жанчыны-павука" распавядаць пра падзеі грамадзянскага, палітычнага гучання – і ўсё атрымліваецца на галаву вышэй за папярэдняе. Усё залежыць ад умення творцы быць пераканаўчым.)

Дональд Рэйфілд, які, на думку многіх навукоўцаў, з'яўляецца аўтарам найлепшай біяграфіі Чэхава, лічыць Антона Паўлавіча юдафілам. І мне як аматару творчасці Чэхава, што, канечне ж, такіх магчымасцей пазнаёміцца з эпісталярнаю спадчынай пісьменніка, як англічанін, не мае, чытаць пра гэта было нават дзіўна. Дзіўна, бо, відаць, збівала з панталыку жорсткая праўда жыцця ў апісаннях Чэхавым прадстаўнікоў абранага народа. Як гэта характэрна для нас: калі з сімпатыяй – дык абавязкова наўпрост, з фіміямам ды іншымі адценнямі белага.

І раптам такое гучыць з тэлеэкрана з вуснаў не дурнога ж чалавека: "Чэхаў не любіў людзей!"

Не людзей ён не любіў, а тое, што не варта ў людзях любіць. Тое, што не варта, але дзякуючы нашым перакуленым уяўленням аб катэгорыях маральнага – быццам бы ўжо і след.

У фільме француза Р. Ферэ пра Чэхава – што ні кадр, то абдымкі. То з сястрою, то з каторым з братоў, то з сябрам Левітанам, то з сяброўкаю Лікай, то з маці – з кім толькі Антон Паўлавіч у тым серыяле не абдымаецца. І так гэта ўсё не падобна да праўды, так упоперак агульнавядомай яго стрыманасці. І яшчэ адна відавочная недакладнасць у фільме – зварот пісьменніка да маці: *мама*. У той час, як усюды ў яго, што ў дзённіках, што ў перапісцы, – фігуруе выключна *мамаша*. А гэта, як ні круці, не адно і тое. Дробязі, а ўспрыманню ў астатнім даволі дакладна выбудаванага сюжэта замінаюць.

## "Тутэйшыя"

А самы наш галоўны нацыянальны літаратурны здабытак – канечне, "Тутэйшыя". Тут асноўнае: і гісторыя, і метафізіка, і псіхалогія, і калектыўнае бессвядомае, і тэатр абсурду. Люстэрка, у адбітку якога ўсё астатняе, нават самае выбітнае, – усяго толькі варыяцыі, фрагменты мазаікі. Нязручная, мулкая, дакладная ў сваёй непрывабнасці ілюстрацыя коду адсутнасці, дурнога пафасу ад наяўнасці таго, чым хваліцца ніяк не выпадае. І праўда, што многіх раздражняе, бо шанца ступіць у вечнасць праз уласнае даданне чаго-небудзь больш істотнага да агульнай карціны амаль не пакідае.

Усё мяняецца. Вось Зносак купалаўскі, Мікіта. Сёння ён, канечне ж, інакшы, як быў на пачатку мінулага стагоддзя. І мовамі, у тым ліку і сваёй, беларускай, можа куды як дасканала валодаць. І з выгляду быць гэтак упаўне еўрапейцам. І да творчае сферы, напрыклад, да таго ж прыгожага пісьменства, мець сякое-такое, а то і самае непасрэднае дачыненне. А сутнасць – тая самая, несмяротная зносакаўская. Тая, што нават калі і не дэкларуецца чалавекам наўпрост, міжволі з закуткоў душы пры нагодзе вытыркаецца. Так і прэ часам вонкі незалежна ад статусу чалавека ды ад таго, што ён сам пра сябе на ўвесь свет трылузіць.

Ад часоў Зносака гэтулькі люду ў плане нацыянальных каштоўнасцяў – без пэўнага светагляду. Сёння – так, заўтра, глядзіш, – зусім іначай. І ўсялякая лухта абавязкова драбком нейкага ўдаванага гуманізму, нейкага псеўдаагульначалавечага клопату прыпраўленая. І такая яна часам ваяўнічая ў непрабівальнай сваёй слушнасці, што і ўзгадваць лішні раз яе не хочацца.

Вынаходлівасць Купалы ў "Тутэйшых", нягледзячы, што не-не ды і вылузнецца на свет чарговае абвінавачанне аўтара ў просталінейнасці, – феерычная. Да прыкладу, адна толькі такая моўная знаходка, як форма звароту да пана – пане пан, – чаго вартая! Купала – майстар, і не яго віна, што мы праз амаль стагоддзе ўсё яшчэ шалупіння нягегласці сваіх прашчураў з уласных плячэй ніяк не дамо рады стрэсці.

## 4.

І вось яно наша, вельмі, здаецца, для нас характэрнае, – анталогія беларускага апавядання па-... . Упаўне такі сабе мілы міжсабойчык, тусоўка, сваяцкі, так бы мовіць, альбом. Сем'ямі, з жонкамі ці то з цешчамі, "со чады". Частка прэзентаваных аўтараў наогул да жанру апавядання ці мае хоць якое дачыненне.

Праўда, не скажаш, што так ужо ўсё ў тым зборніку не прадумана. Вядомым-уплывовым месца знайшлося, няйначай, для дадання кнізе вагі, хаця майстрамі менавіта апавядання што адзін, што другі, што трэці не з'яўляюцца. Але ж з ласкі ўкладальнікаў раптам сталі, што пры нашым спрадвечным кульце ўганараванасці і зусім не дзіўна.

Міжволі ўзгадваюцца развагі Моэма пра адчуванне адказнасці падчас укладання падобных выданняў.

Вось яшчэ з той жа оперы – звесткі ў энцыклапедыі "Рэгіёны Беларусі" (т. 2, кн. 1, 2010 г. выдання) пра літаратурнае жыццё ў Віцебску. Бессаромная хлус-

ня, пісаная ў разгар кампаніі ўладаў супраць Саюза беларускіх пісьменнікаў.

“В 2000–05 действовало (у Віцебску. – *Ф. С.*) гор. лит. объединение «Ратуша». ...действует (цяпер. – *Ф. С.*) областное отделение Союза писателей Беларуси...”

А пра тое, што плённа “действует”, нягледзячы на тактыку татальнага замоўчвання і ўціску, філія Саюза беларускіх пісьменнікаў, – ні слова. І што да дзейнасці яе цягам трох дзясяткаў год нейкая высмактаная з пальца “Ратуша” не мае ніякага дачынення – таксама.

Аўтар – відаць, спраўны навуковец...

А вось і радасць праменьчыкам у нашае замурзанае непамыснотамі быццё вакенца: блудныя сыны і дочкі, няйначай, патрыятычнымі пачуццямі гнаныя, з тамтэйшага, праўладнага стану на родныя гоні, бы тыя птахі з далёкага выраю, дружнымі клінамі павярталіся. А мы ім тут рукі насустрач, здабыткамі іхнімі творчымі ўражаныя, забыўшыся, што дасягненне ці няўдача – асабістая справа літаратара і, адпаведна, прадметам калектыўнага гонару або, наадварот, смутку не абавязкова быць павінна, радасна-зычліва растапырылі. І хто асмеліцца сказаць пасля гэтага, што такія мы рассякія і што чалавечае нам, літаратарам беларускім, – чужое?

## 5.

Адмоўная крытыка можа быць для аўтара гэтак жа карыснай, як і станоўчая. Але гэта тады, калі і крытык, і аўтар існуюць у прасторы калі не дарэшты, дык хаця б збольшага сугучнай зацікаўленасці. Калі не абцяжарвае ацэнак падзел паводле ліній “свой – чужы”, “маё – не маё”, што, канечне ж, не намі дадзены, не намі будзе і прыбраны. І калі абодва, што крытык, што аўтар, дакладна ўсведамляюць: спадзявацца на станоўчы вынік справы без належных захадаў да ўзаемаразумення – рэч немагчымая.

Выпадкі, у якіх, паводле прыведзенай В. Бечыкам цытаты з артыкула А. Латынінай “Гарсон, кухаль піва!”, нельга лаяць пісьменніка:

а) калі высвятляецца, што ў яго язва (або інсульт/інфаркт);

б) калі ў яго перыяд творчага спаду (крытыка можа справакаваць крызіс);

в) калі ў яго перыяд творчага ўздыму (крытыка можа справакаваць спад);

г) калі яго кінула жонка (навошта раніць чалавека двойчы?);

д) калі ён толькі што ажаніўся (што за падарунак да мядовага месяца?);

е) калі ў яго нарадзілася дзіця (што яно будзе думаць пра бацьку?).

А яшчэ нельга лаяць:

а) пачаткоўца (бо тады можа не выйсці яго першая кніжка);

б) пачаткоўца пасля выхаду першай кніжкі (бо тады могуць не прыняць у саюз пісьменнікаў);

в) неаблаянага (бо яшчэ не акрэп);

г) аблаянага (бо ўжо напакутаваўся).

Пра “Удог”, як толькі быў надрукаваны, калі кепскае і казалі, то толькі ў сэнсе, што, маўляў, “не пра тое”. Год з пятнаццаць таму праз адно гэткае “казанне” нават ва ўніверсітэце прыкрасць меў. Толькі выйшла тады аповесць, як з’явіўся на яе водгук – допіс П. Абрамовіча. А ў тым допісе – фірмовы данос з жывапісаннем жахаў, якімі я, “галоўны апалагет беларускай метафізікі, гуру № 1 для тых сучасьнікаў, якія цярпліва чакаюць надыходу Ўсебеларускага Дня Аўтадафэ”, у выпадку змены палітычнай парадыгмы скрываўлю свае рукі праз рэпрэсіі нязгодных у пытаннях нацыянальнага ўладкавання.

І такіх ужо панапрыпісваў мне сп. Абрамовіч чалавеканенавісніцкіх дзеяў, што тую ягоную пісаніну нехта з маіх “зычліўцаў” у якасці даносу прарэктару ўніверсітэта, дзе я на той час працаваў, у кабінет вырашыў цішком падсунуць. Памятаю, як трос саноўны

дзядзька паперчынай у мяне пад носам ды роў штомоцы: “Аўтадафэ будзеш уладжваць, на вогнішчы будзеш паліць людзей, як вашыя прыйдуць!”

Паўтара дзясятка год мінула, і ўсё на свае месцы стала. Акурат жа, аказваецца, “пра тое” быў мой “Удог”, гэтая, як Абрамовіч піша, “настольная кніга інквізітараў беларускага Адраджэньня”. А як паглядзець на падзеі ва Украіне, дык і вельмі нават, як бы яно каму не даспадобы было, “пра тое”.

Выйшаў у бібліятэцы “Нашай Нівы” “Дзень Бубна”, і дзесьці (ці не ў “Звяздзе”, здаецца) Ганна Кісліцына выказалася, што, маўляў, вось толькі што выйшла кніжка Сіўко – і, глянь ты, ужо не адшукаць яе ў продажы. Дзіўная да смешнага была рэакцыя на гэткі пасаж некаторых сталічных літаратараў. Такое ўражанне складвалася, быццам як асабістую абразу тыя нявінныя словы крытыка ў сталіцы ўспрынялі.

Андрэй Дынько збольшага сумневы наконт такой іх нервовасці дапамог развеяць: маўляў, а што ты, дзядзька, чакаў? Што рукі табе насустрач растапыраць?

У сувязі з гэтым узгадваюцца словы Чэхава пра тое, як ён праз усё жыццё ўсім і кожнаму саступаў, адмаўляючыся мільгаць на публіцы, а яму ўсё адно нене ды і закідалі нясціпласць, папракалі хітрасцю.

Але што Чэхаў, і з меней далёкіх часоў прыкладаў дастаткова. Было, і ёсць, і будзе. У пэўным сэнсе і творчы прыжыццёвы лёс аўтара прыведзенага перафразаванага радка, Караткевіча, як вынікае ўскосна з ягоных дзённікавых запісаў, таму пацвярджэнне.

З дзясятка маіх кніжак, як на ўласны мой погляд, найбольш дасканалая з пункту гледжання кампазіцыйнага ўладкавання – “Апошняе падарожжа ў краіну ліваў”, “Дзень Бубна” ды, мабыць, “Плебейскія гульні”. Усё астатняе – даволі эклектычна. Сведчанне паспешлівасці як выніку і заўсёднае жудаснае занятасці ў школе і ва ўніверсітэце, і няроўнасці тэмпераменту. Усё спехам, прыскакам, з імпэтам зрабіць конча ў пэўны тэрмін.

З узростам усё больш хочацца быць зразумелым. Выказвацца як прасцей, пісаць так, каб ад вачэй чытача словы, склады, літары, бы той гарох ад сцяны, порстка адляталі. Не ў сэнсе – "з цэлым народам гутарку весці", не, на гэткае замахвацца няма ахвоты. А ў сэнсе займення элементарнае зваротнае сувязі ці хаця б ужо, з увагі на татальнае нежаданне людзей чытаць, якога-ніякога душэўнага водгуку.

На жаль, не заўсёды жаданая простасць лёгка даецца. Мабыць, дае аб сабе знаць звычка і ў жыцці ўсё ўскладняць, бачыць праблемы-перашкоды там, дзе іх часам і блізка няма.

## 6.

Да тэмы піетэту да сябе і свайго творчага даробку ў літаратарскім асяроддзі.

Аўтар А.: Мая кніжка.

Аўтар Б.: Мая кніга.

Аўтар В.: Мая кніжачка.

Дж. Фаўлз у дзённіках: "Каб быць пісьменнікам, недастаткова пазбавіцца ад таго, што маецца ў табе кепскага; трэба пазбавіцца і ад таго, што ёсць у табе добрага. (...) Зрабіць гэта нашмат цяжэй, але нічога важнейшага за гэта няма".

Ён жа, Фаўлз: "У шчаслівым свеце мастацтва не будзе. (...) у шчаслівым свеце хопіць і жывога досведу".

Цікава, што найбольш мітуслівыя літаратары найчасцей называюць у якасці ўласных куміраў папярэднікаў-пустэльнікаў. І носяцца з імі, і распавядаюць пра сваю духоўную блізкасць з імі так, быццам вось неўзабаве і самі гэткімі ж пустэльнікамі стануць.

Паэтка Л. на адмову друкаваць яе творы ў альманаху сказала рэдактару: "І хай сабе, не друкуйце. Падумаеш... Затое буду як Ахматава".

## 7.

Каторы раз натыкаюся ў таблоідах на нараканкі калег наконт неўганаравання літаратара Сіўко якой-небудзь прэміяй. Не без удзячнасці за такую спагадлівасць да чужога гора спяшаюся, аднак, зазначыць: годзе, сябры, не варта рабіць з мяне ахвярную казу. Ёсць у мяне прэмія, ёсць. Прэмія імя Караткевіча, якою адзначыў яшчэ ў 2002 годзе кніжку "Удог" ніяк не апяяны мною Віцебскі аблвыканкам.

Калі надта не пераймацца сцверджаннем, быццам усё, што ад улады, кепскае, дык прэмія як прэмія, за іншыя, што дзяржаўныя, што незалежніцкія, калі і не лепшая, дык ані не горшая. Ва ўсялякім разе мне ні за яе, ні за прэміяванае ўласнае выданне не сорамна. Тым больш што тае прэміі і не дамагаўся, парогаў саноўных кабінетаў дзеля яе атрымання не абіваў. Самі вылучылі, самі далі.

І вось, пакуль запіс гэты падцукроўваўся ў чаканні публікацыі, — Алесь Аркуш, дзякуй яму, "Вялесам" маю асобу ашчаслівіў. Ці не зашмат шанцавання? Так, глядзіш, чаго добрага, і з літпрасторы не знікнеш.

Што да чытача, то яго згадкаю пра прэмію надта не прывабіш. Яму твор, назву якога ён без цяжкасці з прозвішчам аўтара суаднясе, падавай. Няма такога твора — і ніякая прэмія не дапаможа.

І. Рэпін: "А галоўнае, я ненавіджу і не цярплю прэмій. Гэта такая фальшывая нажыўка, якая паніжае свабоду духу чалавека".

Фаўлз: "...я ведаў: ёсць месца, дзе можна схавацца ад свецкага жыцця, ад пагоні за поспехам. (...) у маім узросце (на той момант аўтару было сорак год. — *Ф. С.*) трэба вяртацца да сябе, не ганяцца за хімерамі, сканцэнтравацца, абараняць тое, на што нападаюць або не звяртаюць увагі".

П. Чайкоўскі:

“Там, дзе з’яўляецца разам 1000 падобных да мяне шукальнікаў славы (на якую я, між іншым, насраць хачу), я з-за свайго сціплага нораву рызыкую застацца зусім незаўважаным”.

Або:

“Куды выгодней для мяне з’явіцца ў Парыжы не на выставе, дзе кожная жопа будзе са скуры вылузвацца, каб яе слухалі і далі ёй патэнт на сусветную вядомасць...”.

Да тэмы патэнта на вядомасць. Суседка, гаспадыня сабакі, якога, здараецца, хтосьці пачынае кваліць удаваным жаданнем яго прысабечыць, нязменна на такія заходы рэагуе наступным чынам: “Ні ў якім разе! Як вы не разумееце: нам самім трэба”. Усё проста.

Несумненны плюс творчае працы палягае ў непазбежнасці справядлівай ацэнкі яе выніку. Канечне, талент зацерці можна, гэтаксама як і выдаць падробку за вартае. Ды і адно, і другое – да пары да часу.

## 8.

Правялі ў бібліятэцы вечарыну памяці паэта. Шмат было, кажуць, народу. А выступоўцаў – адзін. Мабыць, якой-небудзь крамолы пабаяліся арганізатары, што не далі слова прысутным сябрам нашай пісьменніцкай суполкі, у якую як-ніяк уваходзіў памерлы літаратар. І атрымаўся бенефіс на тэму “Я і ...”. Да такіх бенефісаў і нябожчык, добры, таварыскі чалавек, зямля яму пухам, дарэчы, быў схільны.

Такія даўгія літаратурныя пасядзелкі ў памяць калегі з календара юбілеяў – проста жах. Гадзіна, паўтары, дзве з паловаю... А ўсё, што прамаўлялася, можна было б, калі з розумам, і за трыццаць хвілін сказаць. Потым яшчэ нудотнае, як нядзельнае казанне святара ў швед-

скай кірсе, чытанне твораў нябожчыка. Такім хутчэй адвернеш ад тых твораў, чым навернеш да іх. А скажы — на такое неразуменне сваякоў-сяброў натыкнешся, на такую злосць, што і не раз, і не два пасля пашкадуеш.

Адзін і той жа сон колькі начэй запар: няўрымслівы пры жыцці аматар творчых выступленняў паэт К. З таго свету імпрэзы ў прыцемненай гардзінамі зале з дапамогаю нябачнага пульта ладзіць. Поўнае памяшканне народу, сядзяць, слухаюць дэкламаванне праз дынамік.

Цяжка знайсці сферу, што хаця б збольшага магла зраўняцца са сфераю творчаю ў выяўленні найгоршых душэўных якасцяў яе насельнікаў. Якасцяў часам ажно гэтак згрызотна-агрэсіўных, заюшлівых і нялюдскіх, што нават чалавеку староннямy непазбежна напросіцца на язык выснова: найгоршае ў той жа літаратуры — самі літаратары. Нездарма ж, да прыкладу, Томас Ман, сутыкнуўшыся на пачатку свайго творчага шляху з зайздрасцю, паклёпніцтвам і зласлівасцю калег, міжволі прыйшоў да высновы, што згаданых праяваў супольнага жыцця ў літаратурнай сферы куды больш, чым у якой іншай. Што, зрэшты, пры гэткай канцэнтрацыі жарсцяў ды абмежаванасцю месцаў на літаратурным Парнасе зусім і не дзіўна. Годных месцаў няшмат, перспектывы завалодаць імі — цьмяныя. Па-філасофску ж спакойна, без істэрыкі пераняцца ісцінай аб тым, што 95, калі наогул не ўсе 99 адсоткаў нашых шчыраванняў на творчай ніве загадзя выручаныя на паразу, то-бок — папросту марныя, дадзена далёка не кожнаму. Вынік — займенне мілай хваробы пад назваю неўроз ці, як пішуць у лістках непрацаздольнасці недастаткова ўразлівыя да тонкіх душэўных перажыванняў пацыентаў айчынныя лекары, — неўрастэнія.

Неўротыка чыстае вады ў творчым асяроддзі вылічыш без цяжкасці. Самы вядомы, так бы мовіць, класічны з яго відаў — мітуслівы чалавек з вырачанымі вачыма, з катэгорыі "заўсёды як укакаўшыся, заўсёды

паперадзе планеты ўсёй”, што няведама якім чынам паспявае адзначыцца адразу ў некалькіх месцах, пад усё дае рады своечасова падкласці рукі, заўжды здолее забегчы перад усімі наперад, нідзе не праміне засвяціцца, адзначыцца, мільгануць і г. д. Ідэальная для такога складу дзеяча пазіцыя — уганараванне хоць якой, хоць сабе і безграшоваю, абы на людзях, пасадаю. Менавіта там ён будзе адчуваць сябе як рыба ў вадзе, балазе нарэшце няўрымслівасць ягонае натуры і патрабаванні пратакола аб працоўных абавязках шчасліва супадуць. Дзеля справядлівасці варта зазначыць, што здольнасці творчыя і неўроз не заўсёды выключаюць адно другое, хоць і рэдка, але здараецца і сітуацыя з катэгорыі наадварот.

## 9.

Паколькі амаль усё жыццё, за выключэннем пяці год вучобы ў сталіцы, аўтар гэтых радкоў жыве наводдаль ад яе, варункі існавання і норавы менавіта правінцыйнага творчага асяроддзя больш за ўсё яму і вядомыя. Хаця, напэўна, наўрад яны, тыя мясцовыя варункі ды норавы, так ужо нашмат ад сталічных адрозніваюцца. Найбольш істотнае адрозненне, мабыць, — маштабы жарсцяў: дзяліць у правінцыі, як правіла, няма чаго, адпаведна і градус сварак-звадаў тут ніжэйшы, як у сталіцы.

Што наогул да тэмы дзялення творцаў на сталічных і перыферыйных, дык у гэтым плане ўсё як і дзесяць, і пятнаццаць, і трыццаць год таму. Тут дарэчы будзе ўзгадаць у якасці прыкладу рэпліку Васіля Быкава яго гарадзенскага перыяду жыцця з нагоды прапановы яму стварэння балета паводле аповесці “Альпійская балада”. Ад якой ён, як сам піша ў адным з раздзелаў “Доўгай дарогі дадому”, адмовіўся, бо “не хацеў празмернай папулярнасці, ужо адчуў, як да таго адносяцца мае менскія калегі-пісьменнікі”. Гэта — і тады ўжо прызнаны на абшарах СССР Быкаў, то што ўжо казаць пра асобаў шараговых.

Канечне, статус літаратара сталічнага нейкія перавагі ў параўнанні з тым, хто жыве ў правінцыі, дае. Але затое і абавязвае, мабыць, да большага. Асабліва ў часы няпэўныя, крызісныя – тыя, што сапраўдную грамадзянскую вартасць творцы высвечваюць. Усе гэтыя скокі-пераходы мінчукоў з адной творчай суполкі ў другую, уся гэтая іх кругавая ўсяеднасцьусёдаравальнасць – куды як яскравае сведчанне нязводнага сталічнага апартунізму. На фоне якога непахісная адданасць СБП якой-небудзь падсвільчанкі Марыі Баравік для яго носьбітаў – проста недарэчны, варты пацвельвання рудымент духоўнае ўпёртасці. У той час як, можа, менавіта яна, Марыя Баравік, у дадзены момант для іміджу літаратара і больш важная.

Як розныя паводле характару ды бачання месца ўласнае асобы ў ерархіі творчага асяродку літаратары ў правінцыі жывуць, так, вядома, усялякага дабра па рыдлёўцы ў сталічнай літтусоўцы адшукаецца. Не на ўсялякай казе да каторага правінцыйнага творцы пад'едзеш, гэтаксама не ў кожнага небажыхара сталічнага пры сустрэчы з правінцыялам твар не звузее ў тугой (паводле Маякоўскага) "... слоновости – откуда, мол, и что это за географические новости?"

Ад часоў даўніх, ад пары ўтварэння ў Беларусі абласных пісьменніцкіх філій так у нашых шыротах павялося, што сталічныя літаратары нязменна выкарыстоўваюць правінцыю для сваіх месіянскіх набегаў... І хоць правінцыя як крыніца спажывы не такая ўжо невычэрпная, аднак жа не такая і малая, каб яе ігнараваць. Найперш для тых, што маюць доступ да крыніцаў фінансавання. Усе гэтыя сённяшнія фундатарскія, дабрачынныя ўтварэнні, арганізацыі, кампаніі, падобна, часам дзеля таго толькі і існуюць, каб задавальняць патрэбы абмежаванай купкі сталічных дзеячаў. Чым яны спраўна і карыстаюцца і да чаго чалавека староннягa, нават і тройчы свайго паводле поглядаў, блізка не пусцяць. Можа, і не да месца будзе такое прызнанне,

але, страціўшы ў свой час з-за прыналежнасці да СБП працу, я, ведаючы ўсю гэтую гідкую сталічную кухню, нават заікнуцца пра свой клопат у тамтэйшых колах не паманууўся. Неяк наважыўся пра такі стан справаў напісаць у адну падобную арганізацыю – прамаўчалі ў адказ, зрабілі выгляд, быццам не пачулі. Такое ўражанне было, што нават яшчэ і пакрыўдзіліся.

## 10.

У пераліку сумнеўных родаў чалавечай дзейнасці літаратуры належыць не апошняе месца. І не дзіва, бо ўжо сам факт нашага звароту да асэнсавання ўласнага (або чужога – у залежнасці ад нашых мастацкіх схільнасцяў і прыярытэтаў) жыццёвага досведу як спосабу спасціжэння свету, а разам з тым, незалежна ад таго, маем мы гэта на мэце ці не, і стварэння пэўнага лякала яго ўспрыняцця для іншых – акт хутчэй д’ябальскі, чым Боскі. І справа не гэтак у замаху чалавека на Боскае, як у прэтэнзіі на валоданне тым, чым валодаць немагчыма паводле вызначэння, – абсалютнай існінай. У спробе калі не грунтоўна ўхапіць Бога за бараду, дык хаця б выдзерці з яе шматок шчэці ў якасці доказу ўласнае самасці. Маўляў, глядзіце, людзі, і я чагосьці варты, на штосьці здатны, чымсьці адметны. Не заглыбляючыся ў асобныя прыклады наўпроставага самаатаясамлення асобы літаратара з Богам (такога ў гісторыі сусветнага прыгожага пісьменства таксама даволі), вернемся да нашага азначэння літаратурнага занятку як сумнеўнага. Сумнеўнага з пункту гледжання логікі, затое куды як прыцягальнага з гледзішча спажывы для душы. Таго самага д’ябальскага і Боскага адначасова, што, як бы балюча часам ні апякала сваіх верных служкаў асцюкамі абыякавасці ды няўдзячнасці, назаўсёды застанецца для іх (нас) найпрыцягальнейшым.



# Выспа Дараванне

Заўсёды ў шэрагу топавых тэмаў – вечная тэма даравання. І жук і жаба лічаць ледзь не за абавязак хоць якім чынам, хоць мімаходзь у яе абмеркаванні адзначыцца. У выніку – мноства высноваў, безліч інтэрпрэтацый, процьма непаразуменняў. І, вядома ж, не абыходзіцца без крайнасцяў. Сутнасць якіх калі і не зводзіцца да адмовы прызнаваць дараванне ў якасці катэгорыі вартаснай, што і прыбраць з вачэй ужо, маўляў, было б не грэх, дык і пэўнасці ў вызначэнні ступені яго значнасці не дадае. За выключэннем выпадкаў зусім відавочных, калі сумнеў не толькі недарэчы, а наогул – знаходзіцца па-за межамі здаровага сэнсу.

Як і многія іншыя паняцці маралі, паняцце даравання не выклікае розначытанняў у адной пазіцыі – добраахвотнасці. Якімі б акалічнасцямі, напрыклад, ні былі засмечаныя год трыццаць таму нашыя ўзаемаадносіны з цяпер ужо спачылымі бацькамі, якімі непаразуменнямі ні былі б яны ў свой час азмрочаныя, калі мы насамрэч прагнем хаця б прамінулаю да-

таю заслужыць дараванне, выправіць тое, што зрабіць па маладосці, можа, не хапіла розуму і волі, тады да выпадкаў сваіх правінаў датычна нябожчыкаў мы немінуча будзем раз-пораз вяртацца, у той час як іхнія датычна нас (калі такія былі) пападуцца нам нявартымі ўвагі. І мы пастараемся іх не толькі збольшага забыць, а і вытруціць з памяці раз і назаўсёды.

Кожны, хто хоць крыху сочыць за дыскусіямі на тэму даравання ў айчынных сродках масавай інфармацыі, без цяжкасці адзначыць, што заўсёды яно ў нашым грамадстве — адмысловы культ. У залежнасці ад мэты выказвання — то выконвае ролю паказчыка безумоўнае духоўнае сталасці, то, наадварот, недаразвітасці, хіжасці асобы. Прыклады даравання як праявы ўласнага высакародства можна падкрэсліваць. У дараванне можна гуляць. Дараваннем можна пры нагодзе казыраць. А можна і маніпуляваць, і выхваляцца. Гэтаксама, як і дакараць, папікаць або сарамаціць.

Згодна з няпісаным правілам паліткарэктнасці, гэтак распаўсюджанай сёння сярод пэўнае часткі прасунутых (так яны самі сябе бачаць і атэстуюць) беларусаў, пра здольнасць дараваць ці не дараваць след разважаць не інакш як у сувязі з тэмаю ўзроўню цывілізаванасці асобы, яе інтэграванасці ў сусветную культуру або, наадварот, — дзікае замшэласці, духоўнае занядбанасці, неверагоднае першабытнае ўпёртасці, тупізны, дурасці і г. д. Пры гэтым скочванне да сітуацыі, калі свет a priori пачынае дзяліцца на тых, хто заўсёды дараваць павінен, і тых, каму заўсёды належыць дараваць, як правіла, нікога не бянтэжыць. Маўляў, галоўнае тут — прадэманстраваць волю да даравання, а ўжо як яно там ды што — справа дзясятая.

Корань слова *дараваць — дар*. У сэнсе *дарунак*. Семантычна — *прабачэнне*, якое мы камусьці падносім як *дарунак*. Тое, што, калі нават часам і даецца нам вельмі няпроста, аб'екту прабачэння, згодна з кодэк-

сам ветлівасці, падносіцца, аднак, такім чынам, быццам зусім ніякіх высілкаў дарадаўцу не каштуе. Прабачэнне, пра якое апошні памятаць, канечне, можа, а вось лішні раз прылюдна ўзгадваць без рызыкі быць абвінавачаным у хітраванстве, хлуслівасці, двурушнасці або хіжасці намераў – ні ў якім разе.

Большасць людзей успрымае дараванне як адсутнасць імкнення да помсты (у выніку свядомага яго падаўлення або абыякавасці натуры наогул – не так важна) за нейкі гідкі ўчынак. І калі такая інтэрпрэтацыя даравання пярэчанняў і нязгоды, як правіла, не выклікае, то адсутнасць захадаў да захавання памяці, гэта значыць да працягу стасункаў ахвяры, то-бок даравальніка, з крыўдзіцелем, – наадварот, правакуе часам рэакцыю апошняга (як і яго аднадумцаў – апалагетаў усёдаравальнасці) даволі бурную. Але гэта ўжо, мабыць, праблема не гэтак хібаў светапогляду асобы, як, хутчэй, недахопаў яе ўнутранай культуры. Умець годна перажываць чужую, асабліва калі той чужы яшчэ што-небудзь для цябе значыць, абыякавасць дадзена не кожнаму. Такое ўменне, як вядома, – наканаванне моцных. Яно не прыходзіць да чалавека ўваднначас і часцей за ўсё перадаецца нам генетычна, у спадчыну ад прашчураў.

У Караткевіча ў дзённіку – як выклік не ў меру экзальтаваным прыхільнікам усёдаравальнасці: *"Чорны... памёр у каменных джунглях, змучаны безгрошовасцю, крытыкамі, уціскам цэнзуры, знявечаны фізічна трыццаць сёмым годам – хай гэтаму году і тым, хто рабілі гэты здзек з сапраўдных,– вечная ганьба і... помста"* (падкрэслена мною. – *Ф. С.*).

Магчыма, з гледзішча чалавека іншай эпохі – і занадта жорстка. Разам з тым – упаўне справядліва. Бо амаль заўсёды, за рэдкім выключэннем, мы знаходзімся там, дзе нам і належыць быць паводле светапогляду, перакананняў, схільнасцяў. Так што ўсе нашыя спасылкі на абставіны, усе нашыя спробы апраўдаць імі ўласныя

непрывабныя, ганебныя, бессаромныя паводзіны — лухта. Гэткае ж круцельства, як і, напрыклад, абяцанка нейкага пракудліўца вось заўтра ўсё выправіць ды стаць урэшце чалавекам. Як можна за паўдня стаць тым, да чаго ад нараджэння не маеш паклікання?

Паводле высноваў некаторых сацыёлагаў, найчасцей здольнымі да выпраўлення аказваюцца злачынцы так званыя "сур'ёзныя". Схільныя ж да дробных паскудстваў людзі, аказваецца, выпраўляюцца рэдка. Наадварот, часцей за ўсё тонуць у сваіх паскудствах канчаткова, з галавою. Што лішні раз сведчыць: калі з пакарання карысці мала, ды і з беспакаранасці — не больш.

Часта ў якасці слушнасці тэзы аб дараванні як праяве найвышэйшага чалавекалюбства прыводзяць гісторыю Раскольнікава са "Злачынства і пакарання". А на ўнутраную палеміку пісьменніка з самім сабой, якая так напружана выяўляецца ў заключнай сцэне размовы Стаўрогіна з архірэем Ціханам у "Бесах", чамусьці куды радзей звяртаецца ўвага. Алёша Карамазаў, Стаўрогін, Раскольнікаў — персанажы аднаго ланцуга, сведчанне не дваістасці поглядаў ці ўнутранага разладу аўтара, а, хутчэй за ўсё, яго пастаяннага, беспералыннага пошуку варыянтаў адказу на адно і тое ж няпростае пытанне.

Асобны нюанс развагаў на тэму даравання — узровень іх адпаведнасці хрысціянскім каштоўнасцям. Ніштто не прыўносіць у абмеркаванне гэтае тэмы так шмат неабгрунтаваных, паспешлівых высноваў і рознага кшталту аблудных выракаў-папрокаў, ніштто не спараджае ў нашым жыцці і ў нашых узаемаадносінах аднаго з адным гэтулькі фарысейства, як апеляванне падчас спрэчак аб даравані да Божых прыказанняў.

Сапраўдных знаўцаў Божых прыказанняў — кот наплакаў, добраахвотных жа іх інтэрпрэтатараў — гаць гаці. Вольнае, павярхоўнае тлумачэнне сказанага Богам ці нават прыпісванне Яму словаў, якіх Ён наогул

не прамаўляў, у соцыуме з перакуленым уяўленнем аб сутнасці тых праказанняў – часам бяспройгрышныя варыянты сілавога доказу слушнасці ўласнае пазіцыі. Тым больш, калі сама пазіцыя цьмяная, як передвечаровы восеньскі лес, а апанент дарасці да звычкі прапусціць прадмет размовы праз уласныя глузды ці то не захацеў, ці то не даў рады і цяпер карыстаецца ў якасці лапіка на прарэсе ведаў сумнеўнымі меркаваннямі выдаўцоў прапісных ісцін стогадовае даўніны. У выніку – такая каша ў галаве ў суразмоўнікаў, што і тузін псіхааналітыкаў хоць адно разумнае, рацыянальнае зерне з таго ўсяго цьмяна-невыразнага месіва наўрад вывудзіць.

Сябра В. у Фэйсбуку: *"Ад пэўных каментароў мне, канешне, вельмі балюча... злосці няма, але толькі боль і ўсведамленне сапраўднай праблемы, якая праяўляецца ў тым, што ў нашым народзе выхаваная «талерантнасць» да ўсіх і да кожнага, асабліва да мацнейшых, але ж толькі не да тых, хто сапраўды яе варты"*.

Усё, здаецца, правільна, вось толькі чаму – "злосці няма"? Даніна модзе? Жаданне заставацца ў межах усё той жа ухваленай большасцю народа талерантнасці? Цябе злуюць, а злосці няма – як гэта? Павінна ж штосьці быць і апроч болю, калі ты жывы. А ёсць – трэба пазбаўляцца. Кепскае ў сабе трымаць – гэта ж так нездарова. У пэўным сэнсе тое самае, што сябе забіваць.

Найбольш спрэчак выклікае ў нас праблема недаравання ў паставе смяротнага пакарання. Караць смерцю за цяжкое злачынства (напрыклад, наўмыснае забойства) або не? Калі так, то дзе мяжа, што аддзеліць імкненне да банальнае помсты ад справядлівага аддання чалавеку належнага? Пры ўсёй спрэчнасці абгрунтавання смяротнага пакарання як адзіна магчымага акта справядлівасці нельга не бачыць і ўразлівасці прынцыпу вызвалення ад пакарання перад пагрозаю новых злачынстваў. Дараванне – праява высокасці чалавечага духу ці карт-бланш забойцу на здзяйсненне новых злачынстваў? Што да Божых прыказанняў, дык нельга

забываць: у многіх выпадках і ў Святым Пісьме яны выкладаліся з разлікам на чалавека a priori дастаткова высокамаральнага.

Нядаўна, натыкнуўшыся ў адной кампаніі падчас абмеркавання тэмы смяротнага выраку за жорсткае забойства на катэгарычнае яго непрыманне, спытаў, як жа бачацца маім апанентам праблема справядлівага пакарання. І пачуў у адказ: "Забіваць – нельга ні ў якім разе. Трэба ў вязніцы, падчас адбыцця пакарання, стварыць для забойцы такія ўмовы, каб ён штохвіліны адчуваў тое, што адчувала за імгненне да смерці яго ахвяра". З пазіцыі абстрактнага гуманізму быццам бы справядліва, з гледзішча задач выхавання, пра якое мы быццам бы дбаем, выносячы такі (век жыві – век пакутуй) прысуд, – куды як сумнеўна.

Пярліна з тэлеэкрана на злобу дня: "Пісьменнік ні ў якім разе не можа, не мае права ўхваляць практыкі смяротнага пакарання".

А што, калі не толькі да ўхвалення гэткай практыкі, але і, больш за тое, – яшчэ і да выканання смяротнага прысуду пажадае пісьменнік мець прамое дачыненне? Напрыклад, у ролі прафесійнага ката, дзеля заробку? Вунь колькім, скажа, такое да мяне дазвалялася, то чаму мне – нельга? Вядома ж: дзе дапускаецца хаця б адзінкавае, хаця б і самае абгрунтаванае наўмыснае адступленне ад дэклараванай нормы, заўжды будзе мець месца і недавер да яе, і спакуса яе парушыць.

Як асабіста я абыдуся з тымі, хто мне аднойчы няслаба напаскудзіў? Вядома ж, думкаю аб замаху на іх жыццё не спакушуся. Гэтаксама як і не стану соваць ім голку ці зубачыстку ў замок дзвярэй з мэтаю ўвесці ў лішнія грашовыя выдаткі. Не буду нацягваць ім драціну пры ўваходзе ў пад'езд, каб яны спатыкнуліся аб яе ды паламалі сабе ногі. Але і вызваляць іх з палону грабежнікаў не пайду. І ратаваць ад смерці, канечне ж, такі-сякі помслівец, не пабягу на злом галавы. Ніколі,

ні пры якім надвор'і не стану за іх маліцца, прасіць Бога аб навяртанні да добрага. Проста пастараюся не мець з імі ніякіх зносінаў. Калі атрымаецца, пастараюся так грунтоўна забыць пра іх існаванне, быццам іх ніколі ў маім жыцці не было. Не думаю, што Бог, які стварыў кожнага з нас вольным, мяне за гэта асудзіць.

Эсэ Л. Гіршовіча "Ininstitiam" ("Супраць справядлівасці") у часопісе "Иностранная литература". Дасціпная, як заўсёды ў гэтага аўтара, чытанка, хоць месцамі крыху і цьмянаватая. Да таго моманту прывабная, як пачынаецца навязлівае жаванне тэзы "пакаранне смерцю – гэта, безумоўна, дрэнна". З аднаго боку – быццам аргументавана, з другога – пуста і тхліва, як у парожняй дзяжы з-пад селядца. Так шмат у развагах аўтара чалавекалюбнае слушнасці, і так яна, тая салодкая слушнасць, нагадвае манерaю падачы запабежлівыя разважанні суайчыннікаў пра нафту і газ падчас колішніх апытанак аб лёсе Саюза і роднай мовы, што і ахвота чытаць неяк увобміг знікае. На фоне пастаянных нялюдскіх акцый усяленскага маштабу – і пагатоў.

Часцей за ўсё ў дыскусіях ды спрэчках аб дараванні як маральнай катэгорыі галоўная роля належыць эмоцыям. А, з пункту гледжання вечнасці, што такое нашыя эмоцыі, як не смешная спроба спыніць хаду часу, паставіць у цэнтр сусвету сябе, свае перажыванні і памкненні? Як бы ні намагаліся мы быць паперадзе жыцця, яно ўсё адно нас заўжды хоць на крок, ды апярэджвае. Часам нэндзіць нас, часам ашуквае, поўніць няпэўнасцю, роспаччу, адчаем. І ўсё, што нам застаецца, – гэта пошук таго разумнага, прымальнага, чалавечнага, што не проста нас узвысіць, але, узвысіўшы, дапаможа штодня на належнай вышыні ўтрымлівацца. Чаго пры ўсім збытку эмоцый у падыходзе да такой неадназначнай тэмы, як дараванне, сабе і пажадаем.



# Выспа Смерць

Калі праўда, што жыццё – найвялікшая вартасць, то, згодна з элементарнаю логікай, найвялікшая антывартасць тады, канечне ж, – смерць. Сімвал адсутнасці, на тле якой імгненнасць жыцця аднаго homo sapiens выдае недарэчным вычварэнствам прыроды без каліва мэтазгоднасці і сэнсу – цудоўная падстава для змрочных сентэнцый рознага кшталту цынікаў і мізантропаў, адмысловая глеба для ўзгадавання ў душы і свядомасці таго, што робіць у нашым уяўленні любыя праявы жыцця недарэчнымі, пустымі, марнымі. Але тут, праўда, шмат што залежыць ад нашага індывідуальнага погляду на факт смерці. Вядома ж, што нават самыя, здавалася б, непрабівальныя асобіны з роду людскога, калі справа даходзіць да ўласнае персоны, насамрэч выяўляюцца ў плане стаўлення да перспектывы знікнуць з жыцця аднойчы і назаўсёды далёка не такімі адважнымі, як звычайна сябе падаюць. Найбольш яскрава выяўляецца тое ў хвіліну блізкага скону, калі нават такая мілая рыса нашае натуры, як хранічная нелюбоў да іншых, адыходзіць на другі план пад ціскам невыказнага жалю да сябе. Чо-

вен псеўдаабыякавасці, якім бы непатапляльна-непрыступным ён нам часам ні здаваўся, якімі б прыгожымі тэзамі розных філасофскіх канцэпцый ні прыкрываўся, аб крутыя берагі выспы пад назовам Смерць разбіваецца ўшчэнт.

Тыя з маіх продкаў, чый адыход з жыцця зямнога збольшага памятаю, смерці не баяліся. Магчыма, вера ў жыццё вечнае была таму прычынаю, але хутчэй за ўсё тое, што папросту не мелі на боязь часу. Паміралі, бы дрэва падчас віхуры: узляцеў раптоўна сярод белага дня вецер-вятрыла, вырваў чалавека жывасілам з глебы, і ўсяе мітрэнгі. Гэтак дзед, бацькаў бацька, памёр. Пахіліўся долу, шкрабануў, намагаючыся ўтрымацца на нагах, пазногцямі па шпалеры на сцяне і сканаў. Другі дзед, мамін бацька, праўда, крыху хварэў, ды таксама дарэшты збрыдзець сабе і іншым праз уласную нямогласць не паспеў. Найменей бабулі, бацькавай маці, пашанцавала: аж тры гады адпакутавала нябога. Знерухомленая паляругшам, стукала кійком па рабрыне ложка, брыдка лаялася на дзеда, з якім дагэтуль ніколі не сварылася, бо заўжды дагаджаў, з-за рознае драбязы. Ні нараканняў на пакуты ды боль, ні словаў жальбы – нічога, апроч заўсёднага жадання ўсё рабіць па-свойму, адпаведна негалоснаму статусу галавы сям'і. Калі сканала, бясконца цярплівы дзед надта ж шкадаваў, што не собіў лёс гаротніцы пажыць яму на радасць яшчэ хаця б пару гадкоў.

Бацька ў маладосці, здаецца, не так смерці, як нябожчыкаў баяўся. Ды так ажно, што, калі пачаў канаць дзед Данат, у якога яны з маці і мною, немаўлём, часова кватаравалі на хутары ў Вяце, пакінуў мяне ў зыбцы самнасам са старым (маці дома не было), а сам стрымгалоў выбег з хаты на двор. А тым часам у размовах датычна смерці заўсёды ўдаваў іранічную абыякавасць. "Толькі без слёз мяне праводзьце, – казаў, малюючы нападпітку ўголас сцэну ўласнага пахавання. – Так усё ўладзьце, каб весела было. Ад могілак яшчэ зачынайце танчыць". У апошнія гады жыцця, быццам прымерваючы на сябе

стан нябожчыка, падчас пахавання каго-небудзь са сваякоў ці суседзяў знарок клаўся ўнаначкі пасля адыходу спявакаў у пакоі з памерлым. Можа, боязі гэткім чынам хацеў пазбыцца, не ведаю. А паміраў вельмі спакойна. Быццам і не паміраў, а проста некуды збіраўся адысціся на кароткі час. Але што смерць пры галавах – дакладна, здаецца, ведаў і разумеў. Так пацiснуў сястры, пасля казала, на развітанне руку, быццам штосьці хацеў у спадкі перадаць. Маці, наадварот, турбавалася напрыканцы. Не за сябе – за нас, дарослых ужо дзяцей. З усіх памерлых крэўных яна, бадай, адзіная выказала смерці рашучую нязгоду з часам яе аб'яўлення.

Глыбока ўсвядомленае прыняцце смерці як непазбежнасці на грунце веры ў вечнае жыццё па фізічным сконе робіць адыход чалавека прыгожым у эстэтычным плане. Сведкам такога адыходу пашчасціла быць колькі год таму на пахаванні далёкага сваяка на малой радзіме. Утульна было на тым пахаванні, цёпла – пад рэлігійныя спевы, перагукванні, згадкі-прыпаміны. Амаль не плакалі па нябожчыку, і цётка, ягоная жонка, – ці не менш за ўсіх сумавала. Распавядала, як добра ёй было з яе Чэсем тут, у гэтым жыцці, прыпушчала, якім радасным ды шчаслівым будзе хуткае – навекі ўжо – спатканне з ім у жыцці нябесным. Гаманіла наваспечаная ўдавіца, а такое ўражанне было, быццам высучвае кабеціна нітку *яшчэ тут*, што вось-вось выслізне з рук, ды не парвецца дарэшты, а толькі пераменіцца няўзнак у нітку *там*, дзе і ёй, старой, годнае месца знойдзецца. Якое яна хоць гэтае вось хвіліны гатовая заняць, ды толькі воля Божая на ўсё: як Ён, апірышча і крыніца моцы для слабога чалавека, распарадзіцца, так і будзе. Як ёсць у народзе паняцце культуры жыцця, так ёсць, адпаведна, і – часам неўсвядомленае нават – культуры смерці. І сувязь між імі, мабыць, нашмат больш моцная, чым нам уяўляецца.

Гарадскія паховіны, як старая памрэ (старых мужчынаў штосьці наогул не бачна, ні ў труне, ні па-за ёю):

з два дзясяткі чалавек, з іх ці не палова — бабулькі-суседкі, сяброўкі нябожчыцы. Адна адну праводзяць, аплакваюць пад абыякава-похаплівую мітусню сваякоў памерлай. Дамова такая ў жанчын між сабою: памрэ каторая — астатнія абавязкова павінны прыйсці на пахаванне. Не так, можа, дзеля самога развітання (наразвіталіся ўлетку-ўвосень на лаве пры шматпавярхоўцы), як дзеля надання цырымоніі якой-кольвек прыстойнасці ды падабенства людскасці.

У "Легендзе пра Нараяму" Сёхэя Імамуры старая, нямоглая маці, каб вызваліць сваякоў ад лішняга рота, цішком выбівае сабе ўначы каменем апошні зуб, пасля чаго сын мусіць несці нябогу, паводле звычаю, на гару, дзе яна і спаткае ў абсалютнай самоце сваю смерць. Жорсткая, асвечаная стагоддзямі завядзёнка, у якой паэзія брутальнага, то-бок гіпертрафаванага разумення калектыўнага інтарэсу, як ні дзіўна, і жорсткасць нівелюе, і, галоўнае, глыбіннай логіцы сутнасці нашага быцця, колькі б ні трылузілі мы пра гуманізм ды чалавекалюбства, здаецца, зусім не пярэчыць.

І вось — нашае падобнае, што зусім іначай успрымаецца. Вельмі старая, на сэрца хворая суседка некалькі гадзін памірала, задыхалася, а лекара нявестка і сын, самі ўжо людзі не маладога веку, не паклікалі. Вырашылі, відаць, што, маўляў, хопіць ужо, дастаткова бабуля пажыла. Мама, якая на той момант выпадкова аказалася побач, чалавек далікатны і не звадлівы, не стала ўмешвацца, проста цішком сышла з хаты, дзе жанчына ляжала. Казала потым, што тая пакутлівая агонія старой самым моцным уражаннем за ўсё жыццё для яе была.

Хоць нашы прашчуры смерці і не надта баяліся — да яе, аднак, грунтоўна рыхтаваліся. Вопратку часцей за ўсё, асабліва калі чалавек быў у веку, самі сабе замаўлялі ў знаёмых швачак і паказвалі на ўсялякі выпадак адзін аднаму, дзе што ляжыць. Што апрануць у апошні шлях, як і дзе пахаваць, якую выкапаць магілу, каго паклікаць

на хаўтуры — усё абмаўлялася, узгаднялася са сваякамі загадзя. Калі на пахаванне бабулі Галены прыйшло шмат людзей, дзед, памятаецца, выказаў незадаволенасць на гэты конт: адкуль, маўляў, гэтулькі "пустога" люду? бач, наляцелі паесці-папіці на дармаўшчыну... У асяроддзі людзей, якія прывыклі ва ўсім спадзявацца толькі на сябе, такі рацыянальны падыход да развітання са светам жывых — натуральная з'ява.

Разам з тым колькі забабонаў вылазіць з усіх шчэлак на свет Божы, як чалавек памрэ. Як класці нябожчыка ў труну, як выносіць з хаты, якімі стравамі частаваць людзей падчас хаўтураў, што за чым і з чым падаваць на стол... І ўсё — з лепшых памкненняў, дзеля ратавання душы памерлага ды спрыяння на шляху да яго. Як быццам адзіна праз гэты правільна арганізаваны пахавальны абрад, а зусім не праз годныя ўчынкі пры жыцці, душа чалавека і ратуецца. І заўсёды на ўсё знойдзецца адмысловы знаўца-дарадца. І ўсё ён раскладзе належным чынам, усім дасць рады як след распарадзіцца. Нават і тады, калі не просяць.

Дзіўна, як у часы падаўлення чалавечай асобы адразу ж пачынае ўзрастаць культ працягласці жыцця. Праз сродкі масавай інфармацыі найперш. "Беражыце сябе!" — амаль ва ўсіх дзяржаўных таблоідах у суправаджэнні падрабязных рэкамендацый, як ад хваробаў засцерагацца, як лекавацца, як наогул жыццё падоўжыць... Сад-гарод, травы-лекі, рэцэпты, парады — тэмы не забароненыя... Гэткі інструмент адцягнення ўвагі ад значнага праз выкарыстанне адвечнай нашай прагі заставацца на зямлі як найдаўжэй. Так, глядзіш, пры гэткім дбанні і сродак да несмяротнасці неўпрыкмет вынайдзем. Не хацелася б: на ўсіх не хопіць, самыя нахабныя ды паскудныя скарыстаюцца, і без таго не надта прывабная агульная карціна генафонду чалавецтва рэзка пагоршыцца.

Варажыць, калі напаткае цябе смерць, — справа і рызыкоўная, і неразумная. С. Моэм упершыню напі-

саў пра свае старэчыя адчуванні так, быццам ужо развітваўся з жыццём, у 60-гадовым узросце. А тое ягонае развітанне расцягнулася больш як на дваццаць гадоў. Але гэта, мабыць, калі жывеш не адзін і хаўрусніка, што спахапіўся б уранні, не чуючы гукаў з твайго пакоя, як Моэм, маеш. Для адзінокага ж чалавека смерць (як і многае іншае, зрэшты) – галаўны боль. Тым больш калі месцішся на сёмым паверсе шматпавярхоўкі, і да могілак вёрст дзвесце, і традыцыяй крэмацыі ў наваколлі нават не пахне.

Аднойчы падчас працы пры храме, завіхаючыся з рыдлёўкай на касцельным дзядзінцы, убачыў чалавека гадоў пад шэсцьдзесят, што ў нерашучасці таптаўся пры браме. Разгаварыліся. Аказалася, шукае дзядзька каго-небудзь са святароў, каб з іх дапамогаю ўладзіць справу з уласным пахаваннем. Маўляў, хвароба смяртэльная, заставацца на гэтым свеце ўжо нядоўга, сваякоў не маю, вось і шукаю таго, хто ўзяў бы на сябе клопат годна праводзіць у лепшы свет. Хай без хрысціянскае цырымоніі, але ж каб толькі надзейна, і галоўнае – каб не заляжацца ў самоце па сконе на колькі дзён, а то і тыдняў... І так чалавек, відаць па ўсім, пераняўся тым дробным на староннi погляд клопатам, страхам і пасля адыходу застацца нікому не патрэбным, што нават няёмка было тое па першасці бачыць.

А наогул хаваць нябожчыка, незалежна ад ягонага статусу і даробку на карысць айчыны, павінны сваякі. Уласным коштам (насамрэч, як правіла, ягоным – з ашчаджанага за жыццё, але гэта ўжо неістотна). Перакладаць пахавальна-хаўтурныя клопаты і выдаткі на плечы староннiх людзей або дзяржаўных установаў – праява непавагі як да спачылага, так і да ўласнае сям'і, да свайго роду. Тое самае і з ушанаваннем памяці. Нябожчык нешта пакідае нашчадкам, а тыя з атрыманых спадкаў не дадуць рады зладзіць яму больш-менш прыстойны помнік? Нават чытаць брыдка ўсе гэтыя аб'явы аб чарговых зборах сродкаў на ўшанаванне памяці імярэк. Чала-

век дзве кватэры пакідае дзецям-унукам, а яны, далёка не бедныя людзі, грузяць справу на чужых.

Так доўга папікалі 85-гадовыя бацькі 60-гадовую дачку яе хваробаю, што аднаго разу, адчуваючы ўжо блізкі канец, не вытрымала, на чарговы закід старых, хто ж, маўляў, нас, як, барані Бог, раней за нас памрэш, пахавае, адказала: “А не трэба так доўга жыць!” І іх зразумець можна, і яе асуджаць не выпадае.

Вечарына памяці *дачасна памерлага*, як вынікае з абвесткі ў сеціве, дзеяча. На момант смерці чалавеку было добра за 80. Пра такі ўзрост у народзе кажуць – мартышчын век. І ніякая творчыя здабыткі нябожчыка сітуацыі з успрыняццем ягонае асобы ў згаданым узросце, нават калі стары быў упаўне адэкватных паводзінаў, а смерць яго вось гэткая *дачасная*, не мяняюць. Чалавек ціхамірна адышоў, не паспеўшы, дзякуй Богу, нікому надакучыць, дык што трымаць яго прамінулаю датаю за калашыну?

Дзіўным здаецца Дастаеўскі ў сваіх развагах датычна вядомай перадсмяротнай цыдулы дачкі Герцэна, дзе яна просіць у выпадку няўдалага самазабойства адсвяткаваць яе ўваскрасенне з мёртвых з келіхамі Кліко, а ў выпадку ўдалага – пахаваць, дарэшты ўпэўніўшыся, што мёртвая, бо, маўляў, “зусім непрыемна прачнуцца ў труне пад зямлёю. Надта ж не шыкоўна атрымаецца”. Пры агульнай танальнасці спачування да няшчаснай абурылі пісьменніка згадка пра шампанскае ды слова “шыкоўна”, у якіх убачылася яму штосьці вывертнамярзотнае.

Але што ў тых словах вывертнага? Прачнуцца ў труне пад зямлёю – не паскудства? Застацца жыць, хай сабе і супраць уласнай волі, – хіба не варта келіха добрага напою? Усё згодна з уяўленнямі аб мэтазгоднасці. Крыху, можа, сапраўды цынічна, але гэта яшчэ як паглядзець. Хіба нашае ўпартае чаплянне за жыццё, то-бок імпэт рабіць насуперак законам прыроды, нашы істэрычныя

прэтэнзіі да ўсяго свету падчас нейкай няўдачы, нашы енкі пры набліжэнні апошняе хвіліны, іншымі словамі — гружэнне ўласных праблем на плечы і галовы як блізкіх, так і старонніх, — больш ухвальныя?

Як жыццё — справа невылечная, так і думкі пра смерць — непазбежныя. Пра фізічную пакуту, што, магчыма, Бог пашле напрыканцы, каб зрабіць акт твайго адыходу не такім роспачліва-ўсвядомленым. Пра дзядулю і бабулю, маму і тату ды іншых блізкіх асобаў, з якімі спаткаешся *там*, а спаткаўшыся, будзеце штодня хадзіць, равеснікі, адзін да аднаго ў госці ды меркаваць-варажыць, хто ж там наступны заявіцца і як ён будзе выглядаць.

Нараджэнне — таямніца, якая дзверы адчыняе. Смерць — таямніца-інтрыганка. Яна ўваход у свае пакоі вартуе так надзейна і дзверы ў іх зачыняе перад нашым носам так спрытна, што ўявіць, што там далей, за тымі таемнымі дзвярыма, — рэч не толькі нерэальная, а нават, з увагі на слабасць чалавечае натуры, — шкодная. Яно і не дзіўна: выспа ж — на тое і выспа, каб існаваць асобна.



# Я пешкі, мама!

Сон быў кароткі і абрывісты, як брэх баязлівага сабакі, збянтэжанага нечаканым з'яўленнем у двары больш дужага суродзіча. І разам з тым ён быў так пранізліва рэальны, што, калі я прачнуўся, не ён, той сон, а, наадварот, сама ява падалася мне недарэчнаю відзежай. Ці дзіва, што не адна хвіліна прамінула, перш чым шпалера на сцяне збоч канапы зноў набыла ў маіх вачах колеры звыклай будзённасці, а малярванка пры дзвярах з пакоя ў калідор і гадзіннік над ёй перайначыліся з суцэльнае расплывістае плямы ў знаёмыя рэчы, кожную з якіх можна без асаблівае напругі зроку ўспрымаць паасобку.

"*Ты* прыехаў?" – гэта былі адзіныя словы з нашай віртуальнай размовы ў сне, што я даў рады ўзгадаць пасля, лежачы на канапе ў атачэнні слоўнікаў шведскай мовы, за якую міжволі давялося ўзяцца з мэтаю хоць збольшага кампенсаваць аніякае валоданне ўсюдыіснаю ангельскай. І гэта быў першы мой сон пра маці, хоць з дня яе адыходу ў лепшы свет прамінула без малога чвэрць стагоддзя. Два словы – амаль нічога, калі не

лічыць у дадатак бязгучнага дыялогу вачэй напрыканцы, пры расстанні ля брамы з турнікетам кшталту тых, што аддзяляюць бальнічны калідор ад пакоя для наведнікаў ці пляц перад касамі ад гандлёвай залы ў краме.

Але сам сон быў такі лагодны, такі поўны абяцання на працяг стасункаў у месцы з прывабным, хоць і не дарэшты вольным ад сумневу ў імавернасці існавання таго месца назовам "вечнасць", што наракаць на хуткаплыннасць яго ці на невыразнасць адбітку ў памяці нават не прыйшло мне ў голаў.

"*Ты* прыехаў!" – так яна сустракала мяне ў юнацтве, падчас маёй вучобы ва ўніверсітэце, і пазней, калі ўжо працаваў, кожнага разу вылучаючы націскам першае слова без увагі на тое, быў то прыезд загадзя вядомы ёй ці, наадварот, неспадзеўны. І двух гэтых прамоўленых у звыклым, хоць крыху, папраўдзе, і счужэлым інтэр'еры сялянскае хаты словаў было мне заўсёды дастаткова, каб адчуць: я – дома, мяне тут чакалі.

"*Ты* прыехаў?" – сказала год трыццаць з гакам таму ў дзень майго прыезду пасля развітання з універсітэтам і, памаўчаўшы хвіліну, дадала: "Нешта ж надта сумны, штосьці не так?" – "Пешкі ад цягніка з Друі ішоў, стаміўся", – не схільны да звычкі дзяліцца кепскім з асабістага жыцця, салгаў тады і ўбачыў, як нязгодна павяла вачыма: не дала веры.

"Ты *прыехаў*?" – з удаванай бясстраснасцю казала кожны раз пасля таго майго нявіннага падману, абражаная інтанацыяй адстароненасці, справакаванай сынавай далучанасцю да недасяжных тут, у глухім куце, дзе ўсё жыццё пражыла, даброт цывілізацыі. І заўжды потым, нават тады, калі было відавочна, што не прыехаў, а прыйшоў, і не так ужо здалёку, быццам наўмысна ўзводзіла нябачную сцяну між сабою і сваім дарослым дзіцем, націскала знарок на "прыехаў". Маўляў, *ты прыехаў, а мы вось тут усё больш пехатой, пехатой…*

"*Прыйшоў*, мама, – папраўляў яе і лавіў сябе ўпотай на думцы, ці так ужо яна не мае рацыі ў сваёй прыхаванай за ўсмешкаю вясёлай паняверцы: – Ты ж ведаеш, як падабаецца мне *хадзіць*". Думаю, менавіта тады



*Роздум*



*Школьнік*



*Баба Ганна і дзед Юзаф*



*Баба Галена і дзед Юльян*



*Студэнт*





*З сястрою Ірынай*



*Брат Генадзь*



*Бацькі маладыя. Стэфанія і Янка*





*Сваякі*

ўпершыню пачаў адкрывацца мне глыбінны сэнс гэтага слова — *пехатой*. Пехатой (пешкі) — гэта калі ўсё, што ў жыцці ні займеў добрага, дарэшты аплачана і нічога ніколі не атрымана дарма ці нават хаця б авансам.

*

Звычку і любоў да хаджэння пехатой прышчапілі мне абставіны: школа знаходзілася за шэсць, і то калі ісці напрасткі, а не кругам, дзе лепшыя сцежкі, вёрстаў ад хаты. Да таго ж у мяне заўсёды здараліся непярэліўкі з падручнымі транспартнымі сродкамі. У восьмым класе бацькі купілі мне ровар, які я паламаў праз тыдзень, узбіўшыся на патарчаку пры пераездзе праз ручай. У дзявятым яны справілі мне ўзімку новенькія, нятанныя па тых часах лыжы, але іх напаткаў лёс ровара, толькі не праз тыдзень, а значна хутчэй — у той дзень, як іх купілі.

Сам лёс быццам скіроўваў мяне да хаджэння пешкі. У выніку я налаўчыўся хадзіць так хутка, што перад апошнім класам дзесяцігодкі пераадольваў свае шэсць вёрстаў да школы менш як за сорак хвілін. І палюбіў хадзьбу на ўвесь астатні век. Сёння мне, на пяцьдзясят сёмым годзе жыцця, не зразумець чалавека, які наракае на тое, што сонца, маўляў, гэткае пякучае, а яму яшчэ ісці ды ісці, скажам, ажно пяць вёрстаў з гакам. Калі той чалавек, вядома, не невылечна хворы. Або калі мае 17—18-гадовыя студэнты, бегучы за мною па сходах, натужліва, быццам на іх узгрузілі няведама які цяжар, сапучы, кажуць: “Ну, ведаеце, вас не дагнаць”.

*Пехата* — добры настаўнік. Асабліва ў сэнсе гартавання адказнасці за сябе і за стан сваіх справаў. Не пакрутаеш — спознішся; калі прыйдзеш — тады і пад’ясі; не прыйдзеш увогуле — застанешся там, дзе быў дагэтуль, — спіс стацыяў можна доўжыць бясконца, бо ўсё ў нашым жыцці так ці іначай завязана на ўменні паспяваць, то-бок з’яўляцца своечасова ў належным месцы.

Гэта была добрая школа, хоць, папраўдзе, на той час — не без каліва патаемнае надзеі, што гэтак вось —

з дня ў дзень праз пераадоленне хранічнае фізічнае стомы, у вечным клопаце не спазніцца – будзе не заўсёды. І мая тонкая, далікатная маці і тое, і другое выдатна бачыла і разумела. І (так зараз мяркую), можа, крыху сябе за сёе-тое, напрыклад, за неабачлівы выбар месца на сталае жыццё, бо меліся ж, напэўна, па шлюбе з бацькам і нейкія іншыя, больш зручныя з пункту гледжання будучыні дзяцей варыянты, і дакарала.

*

Яна памерла ў пяцьдзясят шэсць, акурат ва ўзросце мяне сённяшняга. Гэта быў удар, моц якога напоўніцу можна асэнсаваць толькі з часам. Але гэта быў не толькі ўдар, а і навука, якую падаюць дзецям фактам свайго адыходу заўчасна памерлыя бацькі. Дачасная смерць бацькі або маці, хоць і з'яўляецца жорсткім урокам, як нішто іншае нас загартоўвае, робіць больш трывалымі ў дачыненні да стратаў, што чакаюць у прышласці. Прымушае па-новаму зірнуць на сябе, а ў пэўным сэнсе – і скарэктаваць, наколькі гэта магчыма, свае жыццёвыя прыярытэты. Гэта, так бы мовіць, – удар лёсу прэвентыўны. Падчас якога канцэнтрацыя болю такая вялікая, што ўсе наступныя ўдары ў параўнанні з ім выдаюць бяскрыўдным дзіцячым тумаком.

Хваробу яе мы прагледзелі. Як дактары, што аказаліся не ў стане дыягнаставаць рак на ранняй стадыі, хоць сімптомы і былі, здаецца, навідавоку, так і мы, яе дарослыя дзеці. А калі спахапіліся, было позна. І мы з сястрою ды братам не знайшлі лепшага выйсця, як рабіць выгляд, што нічога асаблівага не здарылася: усё, маўляў, добра, мама, усё абыдзецца. Такі падман дорага каштуе. Але яго сапраўдную вартасць пачынаеш асэнсоўваць толькі тады, калі непазбежнае становіцца відавочным, а павуцінне хлусні, якім аплятаў, хай сабе і з лепшых меркаванняў, свядомасць блізкага чалавека, міжвольна пачынае аблытваць цябе самога. Мы хавалі

ад маці праўду на працягу года. Не ўпэўнены, што, калі стан яе рэзка пагоршыўся, яна не ўспрыняла гэткія нашы паводзіны як здраду.

Нават пры ўсёй любові да блізкага чалавека напачатку вельмі цяжка пазбавіцца ў асабістых стасунках з ім грэблівасці да яго хваробы. Тым больш, калі хвароба тая слаба вывучаная і чаго толькі пра яе ні наслухаешся. Жахліва: хворая маці рыхтуе абед, а цябе не пакідае сумнеў, ці здолееш ты яго есці. Унікаеш тых прысмакаў, да якіх дакраналіся яе рукі, і цябе ні на хвіліну не пакідае думка, як спрытней ды праўдзівей патлумачыць такое неспадзеўнае — ты ж дагэтуль ніколі кепскім апетытам не вылучаўся — стэнафагства[1]. Унікаеш ды вучышся быць “гаспадарлівым”: наступным разам “ні з таго ні з сяго” возьмеш, руплівец, які і бульбіны ніколі дагэтуль у роднай хаце не абабраў, клопаты па прыгатаванні харчу на сябе.

Адзін з урокаў, які яна паднесла нам падчас сваёй хваробы, — урок стаўлення да жыцця як да вялікага дару. Ні разу яна, нават у хвіліны самага нясцерпнага болю, не сказала, што не хоча жыць ці што хацела б як мага хутчэй усё скончыць, пазбавіцца пакутаў праз смерць. Наадварот, вера ў добры зыход да апошняе хвіліны не пакідала яе, і хаваць яе яна не лічыла патрэбным. З утрапеннем дзіцяці верыла ў моц малітвы і... грошай. Напярэдадні аперацыі дала мне сотню рублёў і загадала прэзентаваць доктару. Гэта быў мой першы досвед давання хабару, які, дарэчы, так і скончыўся нічым. Доктар не быў упэўнены ў станоўчым выніку аперацыі і грошай не ўзяў. І мне, каб не выклікаць лішніх падазрэнняў ды сумневу з яе боку, нічога не заставалася, як пакінуць тую сотню сабе.

На тле нашэптванняў прыхільнай да Бахуса суседкі, як нішто ёй не цікава на гэтым свеце (жанчы-

---

[1] Антыпод усяеднасці.

адасобіцца ад не ў меру схільных да размоваў суседзяў па купэ.

Апошнім штрыхом утомнага ваяжу сталі тры піражкі ў будынку мінскага вакзала, якімі я не даў рады не спакусіцца з-за неймавернай іх (у параўнанні са шведскімі коштамі на прадукцыю падобнага кшталту) таннасці. Якія тут жа, нягледзячы, што былі тыя піражкі каляныя, бы глыжы, похапкам і праглынуў: дома, вядома, і салома ядома.



# Пан мабільніка і камп’ютара

## Я-іпастасі

*Я-грамадзянін.* Упёрты стратэг са схільнасцю да глабальнага ладу мыслення. Дзе б што на свеце ні дзеялася — заўсёды буду найперш пра лёс чалавецтва дбаць. Па шыю ў гуане буду сядзець, горамі смецця зарасту, а тым часам усё пра газ і нафту (і не толькі для сябе, але і для блізкіх і не надта блізкіх суседзяў) — нездарма ж гуманіст-дабраслівец! — напярэдадні чарговых выбараў думу думаць. Да ўсяго жадаю прыкласці рукі згодна з уласнымі ўяўленнямі аб карысным/ідэальным. Гатовы прасякнуцца агульнаю справай нават тады, калі і грошы за гэта не атрымліваю. Лёгка купляюся на абяцанкі сяброўства, у тым ліку і вечнага. Чым больш ніякі ў гаспадарчых справах, тым больш да стратэгіі і развагаў пра яе схільны.

*Я-сем’янін.* Дзеталюб. Ва ўсім, што ні раблю, кіруюся выключна меркаваннем мэтазгоднасці з пункту гледжання забеспячэння выгодаў для дзяцей і ўнукаў. За што яны часта плацяць мне чорнаю няўдзячнасцю, выцягваючы ўпотай з сямейных схронаў ды падполаў

сталовае начынне (патэльні, плошкі, фужэры, шклянкі і інш.) ды здаючы яго ў пункт другаснай сыравіны дзеля атрымання капейчыны на выратавальнае зелле пасля перапіву.

*Я-выхавальнік*. Роспачлівец. Убачыўшы на экране тэлевізара барадатую жанчыну, пужаюся і тут жа пачынаю наракаць ды скардзіцца, як цяжка было мне ўчора падчас сямейнага прагляду той тэлеперадачы растлумачыць няпоўнагадоваму сыну (пляменніку, унуку, праўнуку) факт гэткае ейнае вычварнае барадатасці.

*Я-працаўнік*. Працаголік-патрыёт. Часткова – хітраван. Гатовы хадзіць на службу да дзевяностатрохгадовага ўзросту і ўсё – з меркаванняў быццам бы вышэйшых, маўляў, дзеля квітнення ды мацавання айчыны.

*Я-маёмаснік*. Распешчаны супергурман. Ем на ноч бульбу з мясам, а на рэкамендаваныя спецыялістамі да ўжывання рыбу ці селядзец і глядзець не хачу.

*Я-спажывец*. Ахвотнік да добрага, але пажадана таннага. Кепскае нятаннае абыходжу за вярсту. На нятаннае добрае – аблізваюся ў чаканні: а раптам заўтра патаннее. Зрэдку, набраўшыся мудрасці, што жыць напоўніцу варта ўсё-такі не заўтра, а сёння, – у рэшце рэшт прынаднае нятаннае набываю.

*Я-мінак*.

1. Хамула-калектывіст: “Гэй, мужык, *слыш*, дай закурыць!” або: “Гэй, мужык, *слыш*, дакладзі капеек – не хапае”.

2. Калектывіст – тонкі псіхолаг: “Гэй, мужык, *слыш*, можна ў цябе спытаць?..”

*Я-начальнік*. Спецыяліст шырокага профілю, два ў адным – сама меней. І вытворчасць “выцягну”, і собскую кішэню, як магчымасць надарыцца, “пагрэю”, і грамадзянскай пазіцыяй падначаленых грунтоўна пацікавіцца

за лішні клопат не палічу. І шмат што іншае з няпісанага начальніцкага кодэксу не адпрэчу. У астатнім – звычайны оябун[1], жывое ўвасабленне выслоўя “ты начальнік – я дурань; я начальнік – ты дурань”.

*Я-сусед*. Спачувальнік-дабраслівец. “Суседка казала: паехала дачка ў Кіеў, а яны, гэныя хахлы, уяўляеце, майдан у сябе, сволачы, пасярод горада ўладзілі... І як там цяпер быць беднай дзеўцы? Вось што ёй рабіць, скажыце, га?”

*Я-каханак*. Чуллівец. Закохваюся куды часцей, чым дазваляе ўнутраны, аслаблены радыяцыяй і празмернаю схільнасцю да моцных напояў эмацыйны рэсурс. Пры першай няўдачы ў амурных справах плачу, адчайна шукаю вяроўкі ці хоць якога шнура ды пагражаю начным праменадам пад мост – быццам бы з мэтаю засіліцца. Натыкнуўшыся на абыякавасць аб’екта закаханасці да такіх захадаў або не знайшоўшы вартага начыння, лёгка мяняю кірунак вандроўкі і замест моста сунуся ў бліжэйшую забягалаўку.

*Я-сябра грамадскага таварыства*. Вынаходлівы хамелеон-мімікрыст. Упісаўшыся, напрыклад, у якую-небудзь антыалкагольную суполку, рэзка мяняю звыклы лад жыцця і бяру за ўзор паводзіны персанажа з байкі Эдуарда Валасевіча: “Ён ноччу піў пад коўдраю гарэлку, а днём – мінводы на пахмелку”.

*Я-медыяпрацаўнік*. Чалавек-шарык. У сітуацыі санкцыяванай і недвухсэнсоўнай – кругла брашу, у несанкцыяванай двухсэнсоўнай – спадцішка, але ўсё гэтак жа кругла падбрэхваю.

*Я-аб’ект/суб’ект навукова-тэхнічнага прагрэсу*. Сучасная, але дазвання аддадзеная ладу жыцця і памяці продкаў асоба. Карыстаючыся найноўшага выпуску

---

[1] Начальнік (японск.).

мабільным тэлефонам і камп’ютарам, здольны напоўніць маніпуляцыі з імі такім зместам, быццам усё гэта – толькі саха ды каса, адно што мадэрнізаваныя.

*Я-інтэрнаўт.*

1. З колеру шаліка, камізэлькі, ботаў, валасоў ды інш. магу быць які заўгодна: і чырвоны, і жоўты, і руды, і бялявы. Светапоглядна найчасцей – з адценнямі натуры зялёнага чалавечка. Сутнасць выяўляю ад хвіліны, як пачынаю пісаць каментары да артыкулаў на інтэрнэт-форуме.

2. Адмысловец на варце чужога сумлення. Вельмі пераймаюся тым, як паглядзяць, напрыклад, суседзі-ўкраінцы ў вочы маткам з Растова, Калугі або Пензы, чые дзеці-найміты пакалечыліся ці загінулі падчас антытэрарыстычнай аперацыі ў чужой краіне.

3. Схільны да звады, неймаверна відушчы персанаж. Няма той блыхі, якую б не здолеў убачыць без мікраскопа. Пра мяне – у показцы з “Дуліны ад Барадуліна”: “Такі жыгун і ў смаляной кабылы выпрасіць, і мёрзлай сучцы ўцісне”.



# Прымхі і прыхамацці

Хоць два гэтыя словы сэнсава адно ад аднаго і далёкія не менш, як, напрыклад, патэльня і патыліца або гузік і гузак, разам з тым маецца ў іх і штосьці агульнае. Магчыма, гэта – уяўнае значэнне прыналежнасці, што дасягаецца ў абодвух праз аднолькавасць гучання часткі кораня ў адным і прыстаўкі ў другім, магчыма – ледзь улоўнае, справакаванае спалучэннем адных і тых жа, толькі змешчаных у адваротным парадку, зычных гукаў адценне адмоўнасці абазначаных імі паняццяў. Апошняе яскрава пацвярджаецца сінонімамі: *прымхі – забабоны, прыхамацці – капрызы*. Ды, як бы ні было, абодва гэтыя словы калі і не ўплываюць на фарміраванне нашага светапогляду, дык збольшага характарызаваць нас здольныя дакладна.

Сказаць прылюдна пра ўласную схільнасць да нейкіх прымхаў – значыць прызнацца, што мы – як усе, што, як казалі старажытныя, нішто людское нам не чужое. Прызнацца ў сваіх прыхамацях, наадварот, азначае вылузнуцца з абалонкі агульнага ды выставіць на суд

іншых, далёка не заўсёды зычлівых да нас людзей даволі інтымныя і часам не так ужо прывабныя, каб імі ганарыцца, рысы характару. Іншымі словамі – рызыкнуць іміджам дзеля якой-ніякой праўды пра сябе, што найперш нам жа самім, нашаму вечна няўрымсліваму ego і абыходзіць.

То і пачнем.

Ita[1], прымхі, прыхамаці...

Адмалку пераследуе цот-няцот. Лічба, што прамаўляецца мною ўголас, ці пішацца, ці проста ўзгадваецца ў памяці, каб быць спрыяльнай, абавязкова павінна быць няцотнай. Пры гэтым велічынёй не меншай за пяць. Напрыклад, пяць, сем, дзевяць, адзінаццаць... Звязаная гэткая прымха, відаць, з няцотнай колькасцю чалавек у нашай сям'і, якіх было пяцёра. Лічба цотная і меншая за пяць азначае ў маёй падсвядомасці штосьці імавернае кепскае датычна сваякоў. Гэтаксама, як азначае нядобрае і любы цот: шэсць, або восем, або дзесяць і г. д. Вось і ў назве раздзела запісаў у гэтай кніжцы – "Сем бочак арыштантаў" – фігуруе менавіта няцотная лічба, большая за пяць, а не, напрыклад, тры, што куды часцей сустракаецца ў складзе такога фразеалагічнага словазлучэння, ці, скажам, сорак або сто.

Адну з кніжак назваў "Асіметрыя", а ўсё жыццё маю прыхільнасць да самай строгай сіметрыі. Калі ў школе падчас урока здаралася азірнуцца праз плячо на дзверы класа, то тут жа лавіў сябе на думцы, што павінен тое самае зрабіць і праз другое плячо, іначай – будзе асіметрыя (тады, праўда, і слова такога яшчэ не ведаў). А гэта значыць – чакай якой-небудзь непрыемнасці. Настаўніца геаграфіі заўважыла гэткія выкрутасы і зрабіла заўвагу: "Што ты ўвесь час то цераз адно плячо азіраешся, то цераз другое?" Звычка засталася на ўсё жыццё, але заўваг, апроч той уніклівай настаўніцы,

[1] Такім чынам; дык вось (лацінск.).

ніхто больш ніколі не рабіў: не заўважалі. Так спрытна навучыўся прыхоўваць сваё нявіннае дзівацтва.

Баюся пажараў. Бацькоўская хата ў Міжрэччы згарэла з-за няспраўнай элетраправодкі. Брат жытла праз вогнішча пазбавіўся. Кожнага разу гашу, бы тая кабецiна з твора Вірджыніі Вулф, запалку пад кранам. Неўпрыцям выкінуўшы ў сметніцу агарак без такой маніпуляцыі, расшукваю яго там і гашу ў вадзе. Гэта, мабыць, як і з цотам ды няцотам, падсвядомае – з гадоў дзяцінства. Калі з суседскімі дзецьмі кідалі запалку ў пуні на кладню сена або лёну, а затым, як толькі яны займаліся полымем, куляліся на яго і гасілі ўласным целам. На шчасце, заўсёды гэта нейкім чынам зрабіць удавалася, але ўсведамленне магчымых наступстваў ад такой гульні ўсё адно перарасло з гадамі ў трывалы страх.

Як магу пазбягаю алкаголікаў. І ўсё адно ліпнуць, быццам мёдам для іх намазаны. Яны і яшчэ так званыя "камізэльшчыкі" – фірмовае насланнё. Як правіла (за рэдкім выключэннем) – людзі даволі злыя, нервовыя, успыхлівыя. Часта – з прэтэнзіяй на выключнасць разумовых здольнасцей, хаця ў размове ніколі пра тое наўпрост не прызнаюцца. Наадварот, будуць усяляк удаваць прыніжанасць, нагаворваць на сябе. Аднак крый Бог іншаму сказаць пра іх што-небудзь кепскае. Часта – эгаісты з эгаістаў. Да сябе ўвагі патрабуюць велічэзнай, а варта суразмоўцу нагадаць у іх прысутнасці хаця б мімаходзь пра нейкі свой клопат – увобміг быццам глухнуць, страчваюць цікавасць да размовы. На спробу перапыніць стасункі рэагуюць вельмі зласліва.

Не люблю і ўнікаю капрызлівых людзей. Аднаго толькі ўяўлення, што давядзецца кантактаваць з імі, мне дастаткова, каб адмовіцца ад любое, нават самае выгоднае справы. Лічу капрызлівасць вынікам завышанай самаацэнкі чалавека. Цікава, што некаторыя жанчыны падаюць гэтую рысу як праяву сапраўднай жаноцкасці і пры нагодзе ахвотна ёю казыраюць.

Валодаю дзіўнай інтуіцыяй. Калі вельмі хачу займець нейкую рэч, магу натрапіць на яе ў самым нечаканым месцы. Напрыклад, пераняўшыся па дарозе з кірмашу жаданнем конча знайсці на ходніку двухрублёвую манету ды так таго жадання на дварэ і не спраўдзіўшы, натыкнуся на яе дома ў пакунку з толькі што набытымі на тым кірмашы семкамі. Узяўшы ў голаў мару пра нейкую рэдкую кніжку мастацкай літаратуры, назаўтра знайду яе ў кнігарні на паліцы з выданнямі тэхнічнага накірунку. Быў выпадак, калі, пашкадаваўшы ў краме грошай на адну дэкаратыўную рэч з прычыны таго, што нятанную тую рэч трэба было для ўжытку рэзаць на кавалкі, па дарозе з крамы ўзбіўся на гэткую ж, ці то выкінутую кімсьці наўмысна, ці то няўрокам згубленую, наўзбоч ходніка.

Змест чужога твора, калі рабіць гэта бязмэтна, без цяжкасці магу ацаніць і прааналізаваць. Але варта пачаць рабіць гэта мэтанакіравана — і ўжо стоадсоткава нічога не атрымаецца. Звыш меры заарганізоўваюся і заблытваюся тады ў нераце боязі выпусціць з поля зроку штосьці істотнае, важнае. Гэтаксама атрымліваецца, напрыклад, і з малітвай. Варта падумаць у касцёле падчас супольнага адмаўлення ружанца, што, крый Бог, забудуся, прылюдна прамаўляючы, першую частку з “Ойча наш”, як гэткае нялюдскае акурат і здарыцца.

Кепска ўспрымаю стан замкнёнае прасторы. Варта падумаць уначы, што не ў пакоі сплю, а, напрыклад, у якой-небудзь скрыні, як тут жа пачынаю ўвадначас задыхацца. З гэтае прычыны не выношу, напрыклад, баракамеры. Тое самае — у цягніку, асабліва ў купэ. Часам больш гадзіны мушу стаяць падчас паездкі ў калідоры, чакаць супынення мандражу. І ведаеш, што глупства, а рады сабе даць не можаш. Выключэнне — купэ, населенае мужчынамі. Бо мужчыны, як правіла, храпуць — і гэтага, відавочнае людское прысутнасці, бывае дастаткова, каб заставацца больш-менш спакойным.

Гэтаксама кепска ўспрымаю вялікія аўдыторыі з грамабойнымі аратарамі. Год дзесяць таму падчас выдатнага выступу Ніла Гілевіча ў актавай зале Віцебскага дзяржуніверсітэта дзесяці хвілін у першым радзе было мне дастаткова, каб стаміцца. Гэта – ад гадоў студэнцтва. На другі дзень вучобы ў БДУ збег, памятаецца, з лекцый у актавай зале ды кружляў ці не гадзіну наўкола корпуса на Чырвонаармейскай. Кружляў ды маркоціўся з-за перспектывы ажно на паўдзясятка год стаць пастаяннаю ахвяраю гэткае невыноснае выкладчыцкае грамабойнасці.

Да зубнога болю люблю парадак. Адкуль гэткая заарганізаванасць побытавая – не ведаю. Конча каб усё да ладу было даведзена, ды каб усё як след, гарманічна. Бывае, які пасак шпалераў паўдня па кірмашах ды крамах шукаеш, пакуль дзе не натыкнешся. І ведаеш, што нявартае, а спыніцца не можаш. Але затое ўжо як зробіш – тады поўны супакой. Да наступнага разу, да іншага якога-небудзь падобнага клопату. Гэткі педантызм – магчыма, ад гадоў настаўніцтва. Рыса мулкая, бо заўсёды дадае клопату і не дазваляе расслабіцца нават тады, калі патрэба ў раслабленні – відавочная.

У ежы да ўсяго магу прызвычаіцца, апроч аднаго: датычнасці да прыгатавання стравы мужчынскіх рук. Як бы ні было смачна зроблена і прыгожа пададзена – есца мне будзе тое смачнае мужчынскае праз сілу. Нават і квашанае-марынаванае, хай сабе і год таму па слоіках распханае. у гасцях часам даводзіцца бязбожна маніць ды круціцца, прыдумляючы розныя прычыны гэткае "няешчасці".

Муляюць чужыя рэчы ў доме. Асабліва ж кніжкі. Быццам штосьці іншароднае пракралася ў жытло, і трэба ад яго як хутчэй пазбавіцца. Што паспяхова і раблю. Ледзь паспеўшы дачытаць часопіс, тут жа мчуся ў бібліятэку яго вяртаць.

Месяцамі не магу наважыцца разгарнуць выданне з надрукаваным сваім. Часопіс “Нёман” з перакладзенай Ліліяй Кудравец на рускую мову прыпавесцю “Удог” асмеліўся ўзяць у рукі дзесьці толькі праз год. Калі ж удаецца перасіліць сябе і, напрыклад, той жа часопіс усё-такі разгортваю, пачынаю чытанне з таго, што змешчана як найдалей ад уласнага.

Запамінаю і ўсё жыццё потым памятаю такія дробязі, на якія іншы чалавек і ўвагі не зверне. А нейкія значныя рэчы, наадварот, так грунтоўна забываю, што без чужое падказкі ніколі потым і не ўзгадаю. Напрыклад, як школьнікам суседку, што пад лёд правалілася падчас коўзання на тонкім лёдзе сажалкі, выцягнуў з вады. Ці як адабраў у сваяка нож, з якім той кінуўся ў хвіліну заюшлівае злосці на сужыцеля сваёй маці. Яны праз дзесяцігоддзі распавядаюць пра тое, а ў мяне ў памяці – адно выявы цьмяных, як успышкі прыгашанага шэранню вогнішча ўдалечыні, дэталяў. Быццам і не са мною адбывалася.

Іван Штэйнер, які пра мае опусы піша кампліментарна і якога я за гэта, канечне ж, люблю, і Ганна Кісліцына, якая таксама калі-нікалі пра іх піша, і не толькі кампліментарна, за што я люблю яе, аднак, не менш, за Штэйнера, неяк ва ўнісон выказаліся, што майму літаратурнаму лёсу шкодзіць залішняя сціпласць.

Але гэта хутчэй не сціпласць, а маладушнасць у стасунках з людзьмі, няўменне, так бы мовіць, браць быка за рогі. Што можна чакаць ад чалавека, які, прапрацаваўшы ў сістэме творчай суполкі паўдзясятка гадоў і ведаючы ў твар амаль палову яе сяброў, падчас пошуку ў сталіцы рэкамендантаў да ўступлення ў тую суполку так і не даў рады іх знайсці, вярнуўся дахаты з тым, з чым ад’язджаў, – ні з чым. На шчасце, у “Маладосці” знайшліся тады добрыя людзі ў асобах Уладзіміра Дамашэвіча і Генрыха Далідовіча, падставілі плячо, напісалі тыя злашчасныя рэкамендацыі.

Адсюль, ад усведамлення такой мілай собскай хібы характару, такой слабіны – мабыць, і поўная адсутнасць імпэту да спаборніцтва. Што карысці напружвацца ў спаборніцтве, калі дакладна ведаеш: пазіцыйная барацьба не па табе, ты яе заўсёды, пры любым раскладзе прайграеш. І хоць пройгрыш гэты – зусім не той, які штосьці па вялікім рахунку ў лёсе чалавека вырашае, лішні раз на яго асцюкі натыкацца не надта хочацца.

Схільны да комплексу староннасці, чужасці. Усё жыццё асцерагаюся назаляць людзям, падацца навязлівым, быць "не ў пару", "не да месца". У спалучэнні з пададзенай у папярэднім запісе такой асаблівасцю натуры, як залішняя надумлівасць, рыса характару з шэрагу не надта зручных.

Як правіла, людзі не любяць павукоў. Напрыклад, у жыццяпісе Бергмана – пра боязь гэтых прадстаўнікоў членістаногіх, нянавісць да іх. Прыкладна тое самае – у Одэна: "Павукоў баяўся, (...) гэта мая асабістая фобія, на якую я пакутую ўсё жыццё..."

А для мяне павук не тое што не жудаснае, а наадварот, у адрозненне ад назолы мухі ці гэткага агіднага прыжывалы, як прусак, – найсімпатычнейшае хатняе стварэнне. Бо – майстравітае, працалюбнае, вынаходлівае. Мабыць, таму і пачуваюцца вольна павукі ў маім доме, што ведаюць: у гаспадара кепскае ім зрабіць рука не падымецца. Ва ўсялякім разе, як няўрокам трапіш у слізкую ванну ды не дасі рады сам з яе выкараскацца, – абавязкова дзядзька паспагадае, падсобіць вызваліцца з палону. Складаней з павуціннем па кутках, ды пры жаданні і тут можна неяк паразумецца, прыстасавацца да сітуацыі без лішняе крыві.

Згодна з першым Божым прыказаннем, прымхі, забабоны – рэчы адмоўныя. І таму, канечне ж, не Боскія. Прынамсі ад тае пары, пакуль, дазвання палоненыя імі, мы не пачынаем іх такімі ўяўляць. А наогул, калі ўлічыць, што іншым людзям яны часам зусім не

на шкоду, – і даволі ўсё-такі бяскрыўдныя. Зусім не тое – прыхамаці. Тут ужо з’ява іншага ўзроўню ўплыву як на стасункі паміж людзьмі, так і на стан маралі ў грамадстве ўвогуле. А вось як мы ставімся да тых і другіх у сабе і сваіх блізкіх – асабістая справа кожнага з нас. Хочам існаваць абавязкова ў суладдзі з да сябе падобнымі – будзем уважлівыя не толькі да сваіх, але і да іхніх патрэбаў. Не хочам – Бог нам суддзя. Аднаасобна, наўзбоч ад усіх, як і талакою, супольна з іншымі, нікому жыць не забароніш.



# Сволач паводле Брэма

Сволач – той, хто свядома чыніць зло іншым. То ці можна назваць сволаччу жывёліну? Вядома, не. Бо калі яна і робіць што-небудзь на шкоду субратам сваім або чалавеку, дык не з нейкіх подлых памкненняў, а выключна дзеля справы выжывання. Прычым, у адрозненне ад нас, людзей, у межах жорстка рэгламентаванага выкарыстання дадзеных ёй дзеля гэтага прыродаю сродкаў: капытоў, рогаў, зубоў, джала, сліны, атруты і г. д. Таму, якой бы хцівай і крыважэрнай жывёліна нам часам ні здавалася, мярзотніцай, то-бок сволаччу яе не назавеш. А вось аналогій у яе і ў нашых звычках, калі давяраць такому бясспрэчнаму аўтарытэту ў галіне фаўны, як Брэм, больш чым дастаткова. Іх канстатацыяй і абмяжуемся.

Ёсць сволач, што чыніць сволачнае дзеянне, і ёсць – што сваімі паводзінамі рыхтуе глебу для гэткага чыну. Як бык і птушка *нанду*. Першы выбівае падчас чысткі скуры целам у глебе яміну, другая – выкарыстоўвае тую гатовую ўжо яміну ў якасці асновы для свайго гнязда.

Сволачы няведамыя прынцыпы. Яна лёгка мірыцца з абставінамі і памяняе меркаванне нават тады, калі ад яе гэтага і не надта патрабуюць. Як *амёба*, што можа ўваднначас рухацца з месца ў любым кірунку.

Сволач плодная. Яна множыцца, сеючы наўкола сябе семя сволачнасці, незалежна ад перападаў атмасфернага ціску і тэмпературы паветра. Як *кольчаты чарвяк*, размнажэнне якога адбываецца шляхам простага, незалежнага ад знешніх чыннікаў распаду цела на некалькі частак.

Сволач усяедная. Як *сцярвятнік-пухнач*, што ахвотна харчуецца абы-чым, нават фекаліямі. Ці як згаданая птушка *нанду*, што без ваганняў зжарэ ўсё, на што ні натрапіць на шляху.

Сволач – майстрыца гуляць у шашкі паводле ёю ж самой прыдуманых правілаў. У выніку чаго хоць ноч навылёт з ёю гуляй, хоць дзень – усё адно цябе перайграе-перахітруе. Як *гарнастай* труса ці зайца, што загіпнатызуе нябогу ўласнымі скокамі-выкрутасамі і тут жа раздзярэ, незаўважна наблізіўшыся, на дробныя шматкі.

Сволач наднацыянальная. У яе зазвычай не адна радзіма, а сама меней дзве, а то і тры адначасова. Два, тры ў адным – у адпаведнасці з попытам. Затое мова ў сволачы, як правіла, – адна, і найчасцей гэта – мова хамства. Як мозг *паўзуна*, што складаецца з трох – пярэдняй, сярэдняй ды задняй – частак, але ўсё адно агулам мянуецца мозгам. Ці як голас рапухі, які, што ў ставе, што ў багне, што ў ручаі, што ў каляіне, – усюды кваканне.

Сволач небяспечная кепскім уплывам на моладзь, якую яна нястомна разбэшчвае ўзорам бесцырымоннасці і непавагі да чалавека. Як любы *драпежнік*, што вучыць дзіця найперш прыкладам уласных паводзінаў.

Сволач бывае буйная і бывае — буйная. Нярэдка здараецца, што і разам — два ў адным, так бы мовіць, у сімбіёзе — тыя якасці сустракаюцца. Як сволачнасць буйнога страуса *казуара*, вялікага аматара буйнасць сваю і злосць без аніякай на тое прычыны перад староннімі дэманстраваць.

Абавязковы экзістэнцыйны варунак існавання дробнай сволачы — поўная залежнасць ад сволачы буйной. Прычым часта — на тле паталагічнай нянавісці да апошняй. Як у *шакала*, што харчуецца аб'едкамі з ільвінага стала, а пры выпадку з'еў бы і яго самога, ды — не па зубах.

Няма такой сволачы дробнай, якая не жадала б стаць буйной, і няма такой буйной, якая пнулася б стаць дробнай. Як няма *гніды*, што не марыць стаць праўдзівою *вошаю*, і як няма *вошы*, што, наадварот, марыла б вярнуцца ў стан *гніды*.

Габарыты сволачы не заўсёды прапарцыйныя яе разумоваму патэнцыялу. Што, аднак, не замінае ёй займаць высокае месца на сацыяльнай лесвіцы. Як у некаторых *прыматаў*, дзе становішча асобіны сярод суродзічаў вызначаецца не колькасцю звілін у мозгу, а выключна памерам цела і вастрынёй зубоў.

Калібернасць сволачы амаль заўжды прапарцыйная яе пасадзе. Чым вышэй пасада, тым заўважней наяўнасць сволачнасці. Як у *скарпіёна*, ступень атрутнасці джала якога ўзрастае прапарцыйна ўзрастанню камфортнасці месца бытавання.

Сволач моцна трымаецца за крэсла. Як плод *павука* за шкарлупіну яйка, з якой ён так моцна зрастаецца, што яны ўяўляюць разам суцэльную, непадзельную субстанцыю-абалонку.

Сволач вёрткая. Як птушка *анхінга*, што ўскідвае падчас палявання галаў так хутка, што гэта можна

параўнаць з выпадам гадзюкі. Ці як *каршун*, што лёгка скрадзе з-пад носа ў грыфа кавалак падлы і, перш чым той паспее зрэагаваць на крадзеж, уцячэ з ім у хмыз. Або як *рачная гідра*, што, нават вывернутая навыварат, бы палец пальчаткі, без цяжкасці прыстасуецца да жыцця ў новым становішчы.

Сволач жывучая. Яе хоць у бездань марскую кінь, яна ўсё адно выплыве, і не проста так, а з рыбінай у зубах. Як *рабак*, яйка якога, пакладзенае, напрыклад, у алкаголь ці ў хромавую кіслату, не толькі не загіне, а, наадварот, пачне вокамгненна развівацца ў праўдзівую аскарыду. Або як аплодненая самка *клапа*, што, змешчаная на паўгода ў пушку без аніякага харчу, не толькі выжыве, але і паспяхова ў той пушцы разродзіцца нашчадкамі.

Сволач любіць паразважаць на сімпатычныя тэмы, напрыклад, пра ўласныя захады на карысць іншых. Як падманліва сімпатычны з выгляду *скунс*, не толькі жывое цела якога, а нават закапаныя ў глебу парэшткі распаўсюджваюць такі смурод, што месца захавання і праз колькі месяцаў не ўяўляе цяжкасці па тым смуродзе адшукаць.

Сволач не гідлівая і ўсё, што ні стрэне на шляху, без ваганняў скарыстае дзеля дасягнення сволачнай мэты. Як лічынка *жука-магільшчыка*, што пры ператварэнні ў кукалку два тыдні запар можа без аніякага-якога харчавацца падлаю. Або як *жук-калаед*, для якога найбольшая асалода – адкласці яйкі ў гной, што адначасна становіцца для яго і стравай.

Сволач валодае прымітыўнымі інстынктамі, таму лёгка прыжываецца на любой глебе.

Як завезеная з Еўропы ў Амерыку *гесенская муха*, што, паспяхова адаптаваўшыся да ўмоваў на новым кантыненце, можа ўвобміг спустошыць там цэлае поле культурных пасеваў.

Сволач валодае фенаменальнай здольнасцю да мімікрыі, то-бок прыстасоўвання. Як аса *crabronidae*, што знешне падобная да мухі, на якую яна палюе.

Сволач крывадушная. Яна засыпе абшары зямныя газетнаю хлуснёй, а скажа, што гэта святая праўда і што ім, абшарам тым, толькі такая праўда і патрэбная. Як каторы *сабака*, што пазычае вочы каму заўгодна без выключэння, а потым дзівіцца, чаму гэта яго, такога добрага, у адным шэрагу з нейкай сволаччу згадваюць.

Сволач баіцца і ўсялякімі спосабамі пазбягае галоснасці. Ніводная сволач прылюдна не прызнаецца, што гэта яна загадала "не згадваць" і "не пушчаць", і напусціць на справу такога туману, што ніякі дазнаўца не дасць рады праз яго прадрацца. Як *жук-лізун*, што выкідвае з сябе жоўты камуфляжны пыл, каб ім жа прыкрыцца.

Сволач подлая. Яна выканае загады якога-небудзь цэрбера "не згадваць" ды "не пушчаць", а пасля запытаецца: "Чаму гэта вас быццам няма?" Як *гіена*, што зжарэ жывасілам апошнюю гну, а потым будзе прылюдна наракаць, што савана, маўляў, без дай прычыны дарэшты абязгнунела.

Сволач не любіць праўды і заўсёды камуфлюецца пад прыстойнасць праз дэманстраванне чыста вымытых рук. Як ястраб *гарпія*, што, перш чым праглынуць здабычу, кідае яе спачатку ў ваду, каб ачысціць ад бруду, і толькі пасля гэтага пачынае есці.

Сволач двурушная. Яна ўславіць словам таго і гэтага, а назаўтра ўчынкам напаскудзіць на іх магілкі. Як *павучыха*, што з'есць падчас каітусу бацьку сваіх будучых дзяцей, а ўсім будзе даводзіць, што гэта – для іх жа, нашчадкаў, шчасцейка.

Сволач схільная да карпаратыўнасці, але ў крытычны момант абараняе найперш собскі інтарэс. Як *белы сін*, што гарбузуецца ў зграю са сваякамі адно падчас кармлення, а як толькі акт сумеснага паглынання ежы мінае, тут жа на іх забываецца.

Хоць сволач і індывідуалістка, пры патрэбе яна лёгка хаўрусуецца з іншай сволаччу і робіцца калектывісткай. Як аднаасобнік *цвыркун*, што дзеля выжывання часта гарбузуецца ў стаі з да сябе падобнымі.

Сволач вераломная. Заблудзіўшыся сярод трох хвояў, яна не праміне звінаваціць у гэтым іншых. Як *выдра*, што зжарэ ў рацэ ўсю рыбу, а ўсім скажа, што гэта зрабіў бабёр.

Сволач не любіць, калі пры ёй разважаюць пра вытокі сволачнасці. Усялякую праяву сволачнасці ўласнай яна мянуе не іначай як цвярозым паглядам на жыццё, то-бок неабходнасцю харчавацца. Як пальмавая кошка-канібалка *музанг*, што пры выпадку не пагрэбуе падсілкавацца ўласнымі кацянятамі.

Неад’емная рыса сволачы — непераадольнае жаданне навязаць іншым уласныя правілы гульні. Як тое робіць *расамаха*, што, пазбаўленая мажлівасці супрацьстаяць сабаку ў пазіцыі на поўны рост, кладзецца дагары на дол, пасля чаго хапае знізу ворага кіпцюрамі і загрызае ўсмерць. Або як *гіена*, што заганяе спачатку буйвала ў багну, а потым жарэ, бездапаможнага, жывасілам.

Сволач схільная да пісання даносаў. Гэткім чынам яна сцвярджае сваю самасць, а разам — адданасць сволачы ўладнай. Як *жывёліна*, што яшчэ не нарадзілася і ніколі, мабыць, не народзіцца, бо фаўна на такое вычварэнства, здаецца, папросту не здольная.

Сволачы дзяржаўныя інтарэсы не абыходзяць. Яна лёгка выдаткуе дзясяткі мільёнаў на лухту пад гры-

фам сацыяльна значнай. (У жывёльным свеце няма аналагу.)

І сволач мае сваю ахілесаву пяту: святло, праўда для яе – што адсутнасць мінімуму сонечных прамянёў для кактуса. Як *барсук*, якога, каб забіць, дастаткова як след квэцнуць па носе.

Сволач – заразная. Як трапічны *сцынкавы гекон*, аднаго толькі дотыку якога да другой істоты дастаткова, каб на целе апошняй засталіся рэшткі ягонае скуры.

Нязменнае і галоўнае апраўданне сволаччу ўласнае сволачнасці – абавязак здабывання харчу для дзяцей і ўнукаў. Што, як правіла, у адрозненне ад нашчадкаў любой жывёліны, не проста галодныя, а – галаднейшыя за ўсіх іншых.

Лек ад бацылаў сволачнасці – у іх нейтралізацыі праз стараннае, хай сабе і да ванітаў, пераджоўванне. Як лек ад укусу *скарпіёна*, што гатуецца на сумесі правансkага алею і цэлаў змешчаных у тым алеі скарпіёнаў.

Сволач – паскудства, але і яна дзеля чаго-небудзь можа прыдацца, напрыклад, для палохання дзяцей з мэтаю выпрацаваць у іх імунітэт супраць сволачнасці. Як сырны клешч *акар*, фекаліі і скура якога, ператварыўшыся ў сыры ў пыл, становяцца кампанентам улюбёнага гурманамі прадукту. Або як тля, высушаныя парэшткі якой у тры разы пераўзыходзяць тлустасць гамбургера і з’яўляюцца, як сцвярджаюць навукоўцы, выдатным начыннем для бутэрброда.

Не тое дзівіць, што ёсць сволач, а тое, як шмат тых, хто гатовы пры нагодзе ёю стаць. Але, можа, гэта якраз і няблага. Было б яе мала ці наогул не засталося б – адкуль бралі б мы крытэрыі ацэнкі вартасцяў і ўчынкаў адно аднаго? Казаў той, птушачак шкада, канечне, ды што зробіш, калі жыццё такое – сво... цудоўнае.



# Дзе далячынь нагадвае мора

## Дзень у Рыме

Дзень у Рыме – стаерская дыстанцыя даўжынёю ў музейную ходку, духоўны стыпльчэз з навязліваю асцярогаю кудысьці не паспець, штосьці не ўгледзець, да нечага не датыкнуцца. Вандроўка з відарысам праз параджу стэрэатыпаў, што, як ні намагайся, – не жадаюць саступіць яве ў растузаных усё новымі і новымі ўражаннямі глуздах. Каларытны нацюрморт з дэкорам з ватыканскіх станцаў Рафаэля, незлічоных копій скульптурных выяваў, золата базілік – усяго, што, безумоўна, ускалыхне душу, але сярэдначы табе, стомленаму дзённаю гарачынёй і мільгаценнем уваччу, занадта прыўкраснае, занадта каларытнае, – наўрад сасніцца.

Нават з-пад купала сабора святога Пятра, з больш як статрыццаціметровае вышыні, Рым так сабе, без дай прычыны не адкрыецца. Грудаю ружаватых муроў Форуму ды няяснымі абрысамі тэрмаў Каракалы ці Калізея ўдалечыні пацешыць вока хвіліну-другую і замкнецца зноў у сабе, унурыўшыся ў покрыва са смугі і старых, як

свет, як наросты цвілі на мугутных калонах-дазорцах, што абкружаюць плошчу пры саборы, міфаў. Міфаў, сюжэты якіх дарэмна ты будзеш імкнуцца ажывіць у памяці з дапамогаю выпадковага суразмоўцы: міфы ў праніцаным імі дарэшты месцы — не лепшая тэма для размовы.

Рым, Вечны горад, калыска вечнасці. Пазачассе, спрасаванае са згадак летапісцаў, што даўмеліся ўчасна давесці іх свету дзеля сцвярджэння самасці — сваёй, свайго народа, сваіх нашчадкаў.

Горад-міф, дзе ўсё, што ні сталася вартым увагі наступнікаў, — даніна павагі хрысціянскай традыцыі і толькі потым ужо — жыццяпіс эпохі і шляху асобнага, хай сабе і найвыбітнага, чалавека. Дзе і магіла знакамітага творцы пад нагамі — частка яго, міфа, а для некага тым часам — і нагода датыкнуцца да вечнага, а то і, глядзіш, — чаго не здараецца на свеце! — здабыць шчаслівы квіток да чыннага ўдзелу ў ім.

Горад-прынада — для прагных да славы, што не ведаюць супакою ў вярэдлівым памкненні пакінуць хоць што па сабе, хоць якою зарубкаю, хоць шнарам на носе П’еты адзначыцца на скрыжалях пакручастай яго, спярэшчанай узлётамі і падзеннямі, гісторыі.

Горад-мроя — для тых, хто з усіх ведамых чалавечай істоце фобіяў ды страхаў найбольш падуладны адной — фобіі небыцця, страху смерці, хто і ў хвіліну скону не перастае песціць надзею на жыццё вечнае.

Горад-старэча, чый узрост нястомна падкрэсліваюць старажытныя надпісы на не менш старажытных арках — сведчанні велічы ды славалюбства служкаў люду і веры, узор эгаістычнай дальнабачнасці для валадароў усіх часоў і народаў.

Горад-музей тысячы і адной, патрэбных і не надта, выкшталцоных і не вельмі, рэчаў.

Горад-Эльдарада — для кішэннае справы адмыслоўцаў, злодзеяў дробнага і markedly рознага іншага фармату.

Горад-хамелеон, увасабленне сімбіёзу высакародства паставы — і жулікаватасці жэстаў, пампезнасці Алтара Радзімы — і красамоўнай сціпласці Мамерцінскай

вязніцы, вусцішнай змрочнасці замка Святога Анёла — і боскасці крылаў белых паставаў на аднайменным мосце перад ім, шматгалосся ўзнёслай малітвы пры галоўнай святыні — і немай роспачы Кабірыі ў забытым Богам завулку, нялюбасці адрынутага памяццю ўласнае гадоўлі валадара, Нерона, — і прынятага дзеля вечнага супачыну героя чужога, суайчынніка твайго, Язафата.

Горад-кравец, адмысловец духоўнае апраткі сучаснікаў у іх адвечным жаданні калі не ўзняцца вышэй за продкаў, дык хоць — стаць тоеснымі, адпавядаць крытэрыям дыхтоўнага зрэбнага куцюру апошніх.

Горад-фірмовы знак плебейскай сутнасці неарэалізму, выпхнутага эстэтамі ў купку люду ля дармовага латка пры краме гандляра-філантропа.

Горад злагоднага перазову дзённага пурытанства, узмоцненага блізкасцю дома Бога, і вакхічнае бессаромнасці прыцемку паблізу знакамітага на ўвесь свет фантана-суценёра.

Горад-выспа памяці ў акіяне бяспамяцтва.

Прастора Рыма — квадратура над- і падзямелля, перапляценне вуліц і катакомбаў, двуадзінства аджылага і жывога. Дрэва-аўтахтон з коранем-рэліктам, сімвал адвечнае перавагі зместу над формай.

Рух на вуліцах Рыма — барометр тэмпераменту, не сапсаванага празмерным дбаннем нашчадкаў імперыі пра імідж сённяшні.

Голас Рыма — нізкі шэпт пажылой (не без слядоў колішняй прыгажосці, вядома) гараджанкі, крыху сіпаты, крыху грубы — водгулле велічы прамінулай, цяжар клопату заўтрашняга.

Сімвалы Рыма — няўлоўнасць водару, прыглушанага пахам ладану, няпэўнасць колеру дыванка, звешанага з вакна сабора ў гадзіну звароту чарговага наступніка апостала Пятра да шматтысячнага натоўпу пілігрымаў.

Такі ён, Рым, горад, якому хвіліны даволі, каб назаўжды паланіць тваю памяць.

Такі ён, дзень у горадзе, куды вядуць усе дарогі і толькі адна, незалежна ад размяшчэння зорак на небе і твайго жадання, заўсёды — з.

## Горад-прывід з каменю і попелу

Трапіць у Італію і не ўбачыць Пампеяў – тое самае, што не спаткацца ў Вечным горадзе з Папам. Ні першае, ні другое нашай прытомленай лекцыямі групе, на шчасце, не пагражала. Больш за тое, так сталася, што з ласкі нашых апекуноў абедзве падзеі мелі адбыцца ў адзін дзень, з невялікім перапынкам. Ажно занадта, ды хто зазірае ў зубы доранаму каню?

Гэтая досвітная хвіліна пачатку вандроўкі да нязведанага! Яшчэ драбнаваты вясковы спадкаемца насельнікаў колішняй імперыі ледзь даў рады раскласці свой адмысловы сялянскі тавар у намёце збоч уваходу на тэрыторыю нашага часовага жытла і магнолія пры вокнах страўні не паспела як след атрэсці кроплі ранішняе імжы, як мы, абцяжараныя пакункамі "сухога" харчу ды тэчкамі з "горшым" (пампейская лава занадта ўедлівая, папярэдзіў гід) абуткам, паспяхова ўнікнуўшы агромністых шышак паўднёвае хвоі, што раз-пораз падаюць з дрэваў на пляц пры Доме Яна Паўла ІІ, выпрушаем аўтобусам у няблізкі шлях.

Італьянская дарога – момант спраўджвання ісцінаў з падручніка прадаўняе гісторыі.

Вось белавата-шэрым прывідам эпохі брутальнае распусты вымкнецца з хмызу пры шашы і схаваецца зноў у яго чэпкіх абдоймах выкінуты ўзлаванымі месцічамі за межы горада саркафаг нядобрай памяці Нерона.

А вось пляцоўка з шыхтамі элегантных падробак – скульптурных выяваў рымлянаў часоў росквіту антыкі – мільгне прад вачмі і асядзе глыбока ў глуздах пацвярджэннем растыражаванага з лёгкае рукі спадара Раселіні міту аб адкрытасці вечнага горада.

Апіеў бальшак, па якім увайшоў у Рым апостал Пётр, – узрушыць і пакіне ў разгубленасці ад здагадкі, што ўсё гэтак блізка, амаль побач, у выяўным суседстве.

Утульныя, больш падобныя да казачных гарадкі ды мястэчкі выплываюць насустрач аўтобусу з просіні надгор'я і растаюць па-за часам, ускалыхнуўшы душу

вярэдліва-пакутлівым пачуццём (даруй, Божа!) зайздрасці.

Чысцюткія штучныя ставы ды басейны, падманлівае ўвасабленне экалагічнага раю, пацешаць вока хвілінудругую і, нібыта не жадаючы браць удзел у бессаромным ашуканстве, саступяць месца за вакном брудна-жоўтым стужкам рэчак і раўчукоў.

Адметная рыса ранішняга апенінскага відарысу – бязлюддзе на тле ўпарадкаваных, неверагодна акуратных (і калі паспяваюць людзі ўрабляць?) палеткаў.

Чародка козаў пасярод неапалітанскага краявіду – яскравы напамін, адкуль яно ўсё.

Завеса марыва над затокаю, такога густога, што, колькі ні ўзірайся, так і не ўгледзіш услаўленага безліччу пёраў ды пэндзляў зваблівага аквамарыну.

Бясконцы, як размовы беларусаў пра лёс роднае мовы, Геркуланум з выглядам на Везувій – сімвал заўсёднае рызыкі і наканаванасці.

Урэшце яны, Пампеі, горад-прывід з каменю, лавы і сонца, горад-напамін, што ўсё на свеце – апошні раз.

Шлях ад Марское брамы да ўскраіннай забудовы Пампеяў – прагулянка ў вечнасць працягласцю ў тры-чатыры гадзіны. Вадаправодчык-вынаходнік, архітэктар, пекар ці проста аматар карцінак фрывольнага зместу – кожны знойдзе сярод руінаў сваё, тое, што абраў за прыярытэт на шляху ў вечнасць.

У Пампеях вечнасць, між іншым, – рэч цалкам датыкальная. Мазаікі і фрэскі, узрост якіх сягае пад амаль два дзясяткі стагоддзяў, мармуровыя балеі, што помняць цяпло сцегнікоў і спінаў старажытных аматараў камфортнага купання, белыя каменьчыкі ў бруку, што свяцілі па начах не аднаму пакаленню палкіх мясцовых донжуанаў падчас шпацыру да ложка каханкі, малюнкі з выявамі сабак перад уваходам у жытло, ахайна абчасаныя плескачы пасярод вулкі – праезд забаронены! – усё можна пакратаць, памацаць, агледзець з усіх бакоў.

І – лава, лава, лава... Яе так шмат усюды, што яна яшчэ доўга па вандроўцы будзе нагадваць пра сябе шараватым налётам на чаравіках. Попел, пасланы Богам

(існуе і такая версія) жыхарам дваццацітысячнага горада дзеля пакарання за легкадумнасць і парушэнне Яго запаветаў.

Трынаццаць злепкаў целаў патрыцыяў і іх рабоў, атрыманых у выніку маніпуляцый рэстаўратараў з гіпсам і пустотамі, што ўтварыліся з цягам часу ў лаве на месцы тых целаў праз стагоддзі пасля таго, як яна накрыла Пампеі, – бы трынаццаць апосталаў падчас апошняй вячэры Пана, дакладная ілюстрацыя катастрофы лета 79 г. н. э. і адначасна – напамін аб хуткаплыннасці жыцця і нікчэмнасці таго, што мянуецца грамадскім ці якім іншым статусам чалавека.

Пампеі – мудры дарадца, што дапамагае кожнаму, хто меў шчасце дакрануцца да яго жудаснай мінуўшчыны, хоць на нейкае імгненне пазбыцца ўсяго таго дробязнага і неістотнага, што перашкаджае жыць.

Пампеі ўзрушаюць і – узвышаюць. Гнятуць і разам з тым – ачышчаюць, высвечваючы сапраўдны, а не ўяўны кошт слова, рэчы, учынку.

Пампеі – узор паважлівага стаўлення люду паспалітага і яго правадыроў да ўласнае этнакультурнае спадчыны. Схаваны ад вока чалавечага цягам больш як паўтары тысячы гадоў пад покрывам смерці тоўшчаю пяць-шэсць метраў, рэстаўраваны, наколькі гэта было магчыма, горад стаўся не толькі ілюстрацыяй прыроднага катаклізму (каго сёння ім здзівіш?), але і сведчаннем памкнення народа да захавання сваёй гістарычнай памяці.

Зрэшты, Пампеі – гэта не толькі руіны старажытных муроў. Ледзь пакінуўшы царства смерці, акурат трапіш у горад сучасны, што раскінуўся побач, – ажыўлены, шматлюдны, заняты сваімі штодзённымі клопатамі, адзін з адметных цэнтраў рэлігійнага жыцця Італіі.

Як Рым – горад вечны, так Пампеі – горад вольны. Вольны перадусім праз наяўнасць невымернае трагедыі – чынніка самадастатковасці, праз адсутнасць неабходнасці дбання аб дні заўтрашнім – складніка волі найвышэйшай, даступнай адно жабракам ды бадзяжным паэтам.

Горад-абярэг, што, вандруючы ў аднойчы прыручаным часе, засмучаны тваім духоўным занядбаннем і празмернаю прыхільнасцю да зямных спакусаў, неие ды і сыпне ў вочы дзеля напаміну пра існае жменю ўедлівага везувійскага попелу.

## Асізі, сімвал духу

З рэчаў, што засталіся ў спусцелай дзедавай хаце па ягоным сыходзе з жыцця, — а было там нямала і цікавых, і нават зусім нечаканых, — чамусьці найбольш заманулася ўзяць адну — асобнік выдадзенага ў 1934 годзе варшаўскімі капуцынамі Катэхізму трэцяга закона святога Францішка з Асізі. Ці то любы майму воку балацяны колер вокладкі рарытэта паланіў, ці то інтуіцыя што падказала, але кніжачка тая пры ўсёй маёй непрыхільнасьці да рознага кшталту старызны назаўжды прапісалася ў асабістым архіве. Шляхі ж Боскія нявызнаныя: крыху больш за дзесяць гадоў прамінула з таго часу, і вось я на радзіме святога, у месцы, дзе, паводле Рэпіна, далячынь “з тэрасы ... падасца морам”. Неспадзянка тым больш прыемная, што яшчэ і ў дзень ад’езду на Апеніны пра вандроўку ў Асізі анічога не было вядома.

Што праўда, вандровак з Рыма ў італьянскую правінцыю ў той не надта каб спякотлівы для тамтэйшых шыротаў чэрвень не бракавала. Але асізская, насуперак неадэкватным для такое значнае, прынамсі для мяне, падзеі паводзінам у аўтобусе спешчанай дарункамі лёсу амерыканскае моладзі, з якою собіла патрапіць у адну групу, сталася ці не самаю запамінальнаю.

Цяпер, калі б ізноў выпала такая мажлівасць, я б, пэўна, нават метры таго эскалатара, што падняў ад падножжа гары да першае асізскае пляцоўкі, палічыў, тады ж... Тады, на тле ледзь не штотыднёвых наведзінаў то Арвіета, то Пампеяў, то Монтэ-Касіна ўсё падалося наўздзіў будзённым, шараговым. Да гэткае ступені шараговым, што я нават, маючы ў кішэні на дробныя выдаткі сякія-такія грошы, не палічыў патрэбным на-

быць дзеля памяткі выяву ўкрыжавання, з якога Хрыстос прамовіў да святога Францішка ў Сан-Даміяне. Пра што дасюль шкадую, уяўляючы зрэдчасу, як файна выглядала б яна на дыванку над ложкам пры запаленых свечках у які-небудзь святочны, прыкладам, Калядны ці Велікодны, вечар.

З тэрасы пры Ніжнім касцёле асізскія ваколіцы, сапраўды, нагадваюць мора. Два моры: упобачкі, за спінаю – людское, вірлівае і гаманкое, што час ад часу радзее коштам аматараў паласавацца марозівам у ціхім утульным бары збоч вулкі; унізе, дакуль сягае вока, – прыроднае сіняе, спярэшчанае плямамі смарагдавага, сатканае з сакавітых красак Умбрыі. Гэткае ж амаль, без канца і краю, толькі зусім бязлюднае, пашчасціла пабачыць пасля яшчэ аднойчы – улетку з гары пад назовам Маяк на Браслаўшчыне, куды неспадзявана трапілі разам з Сяргеем Панізнікам і Вольгаю Іпатавай пасля літаратурнае імпрэзы.

Дзе б ні ступіў у Асізі, усюды натрапіш на напамін, што тут – калыска слыннага святога. Мястэчковага бэйбуса ды забаўніка, затым – ваяра падчас вайны з Перуджаю, яшчэ пазней – заснавальніка манаскага ордэна, асобы, якой лёсам было наканавана стаць апекуном усяе каталіцкае Італіі. Улюбёнага персанажа Джота, што падоўгу жыў у Асізі і пакінуў пасля сябе ў Горнім касцёле, менаваным у гонар Францішка, адмысловую галерэю сюжэтаў з ягонага жыцця. Зараз, мабыць, ужо адноўленых пасля згубы падчас не так даўняга землятрусу: італьянцы, у адрозненне ад нас, беларусаў, кошт помнікаў сваёй мінуўшчыны ведаюць добра.

Базіліка святога Францішка, збудаваная, між іншым, у гістарычна найсмутнейшым кутку горада – на ўзгорку, дзе ў даўніну выконваліся смяротныя прысуды і дзе завяшчаў пахаваць сябе Францішак, – з тых месцаў, што неяк вокамгненна поўняць цябе святлом. Святлом, што не пакідае і праз гады, успыхваючы няўзнак у памяці, вяртае да таго існага, чым ёсць вера і яе пастулаты ў шырокім, агульначалавечым сэнсе. Святлом, што і само, па вышэйшым рахунку, ёсць тое існае.

Другая выбітная асоба, якая ў немалой ступені прычынілася да ператварэння правінцыйнага Асізі ў цэнтр хрысціянства сусветнае вартасці і праз тое назаўжды засталася ў аналах яго гісторыі, – паплечніца святога Францішка Клара. Паслядоўніц яе, сёстраў-кларысак, можна пабачыць у касцёле па-за кратамі падчас збору ахвяраванняў. Пабачыць – умоўна: кларыскі не адкрыюць твару, нават і рук староннняму чалавеку ні пры якой нагодзе. Таемнасць побыту звычайных учора яшчэ жанчын, ад усведамлення трагедыйнасці якога да высновы, што і горай табе, чалавеча, магло стацца, як ёсць, а ці мо і станецца яшчэ, як у гэтую во сённяшнюю скрушлівую хвіліну, – адзін крок.

Асізі – аазіс для душы. І філасофія, для таго, вядома, для каго пошук адвечных ісцінаў не пусты гук. Яшчэ ж – дарунак лёсу, што пасылаецца Богам-айцом ці то дзеля ўзнагароды за дабрадзейства, ці то дзеля скіравання да выкуплення граху.

Асізі – з тых мясцінаў, якія хутчэй узновіш у памяці агулам, чым узгадаеш драбніцамі. І ўжо аніяк не месца, з якога – “усё злое”.

Каляды. На падстаўцы пры дыванку палае свечка, жагнае зырклівым агнём вольнае месца, што чакае запаветнае выявы Збаўцы, замоўленай сябру, які выпраўляецца днямі – шацунчык! – у вандроўку да тае самае тэрасы, адкуль далячынь нагадвае мора.



# Сем бочак арыштантаў

## Запісы

У выхаванні горшых дарадцаў, як пагардлівасць, надзьмутыя шчокі і пантоўскія звычкі суб'екта выхавання, няма. Нават недастатковая дасведчанасць у прадмеце выхавання так педагагічнаму працэсу не шкодзіць, як шкодзяць згаданыя хібы падыходу да яго ажыццяўлення. Вось чаму дзеля прывіцця маладым людзям пачуцця нацыянальнай самасвядомасці як неад'емнага складніка светапогляду важна працаваць не толькі мэтанакіравана, але і далікатна, без дурнога сцёбу і напышлівасці.

Зразумела, для фарміравання светапогляду патрэбная воля рабіць высілкі. Якраз тое, чаго нам, самазваным выхавацелям ад творчых прафесій, часта бракуе. Пра што мы ў хвіліны прасвятлення, асабліва калі справа пачынае датычыць нейкага нашага асабістага інтарэсу (праблема з распаўсюдам уласнае "прадукцыі", адсутнасць спажыўца нашых "несмяротных" твораў і інш.), спахопліваемся, ды ўжо позна.

Праблема не ў тым, што занадта шмат злых, а ў тым, што замала моцных, якія былі б здатныя супрацьстаяць

злу. Наогул падзел людзей на добрых і злых з гледзішча магчымасцей уплыву нашых учынкаў на стан маралі з'яўляецца, відаць, не зусім правільным. Мабыць, найперш варта было б казаць пра падзел на асобаў занадта ўвішных, актыўных і занадта рахманых, пасіўных. На тых, што пры любым надвор'і будуць папeрадзе ўсіх, і тых, для каго перспектыва такога перадкавання цалкам непрымальная.

Людзі не саромеюцца называць самі сябе інтэлектуаламі, і гэта выглядае часам і недарэчна, і смешна. Сапраўдны інтэлектуал пра сваю інтэлектуальнасць не тое што крычаць прылюдна — згадваць наўрад будзе. Інтэлектуалу ад Бога менеджары на службе сцверджання і папулярызацыі ягонае інтэлектуальнасці не патрэбныя.

Толькі цяпер, калі самому перакуліла на сёмы дзясятак, пачынаеш дарэшты ўсведамляць усю жахлівасць паднявольнага стану землякоў-заходнікаў пачатку савецкае эры. Асабліва маладзейшых, тых, што толькі-толькі пачыналі, як, напрыклад, бацькі мае і іх аднагодкі, на той час убірацца ў сілу.

Прыйшлі чужаніцы, панакідвалі людзям на шыі хамуты, ператварылі ў рабоў. Спадзяванні, мары, дзедаўскія-бацькоўскія звычкі і традыцыі — усё на злом, на шальмаванне, у сметніцу. Узамен — мацюкі, хамства, п'янства.

Дык і не дзіва, што ў цесным куточку суседніх з Міжрэччам вёсак, бывала, што ні год — самазабойцы-вісельнікі. Сыход пад ціскам безнадзейнасці, у тым ліку і гэткі во, быццам бы на першы погляд добраахвотны.

І. Рэпін у лісце да У. Чарткова: "А ўсіх людзей Бог стварыў жарстлівымі і даў ім розум для рэгулявання жарсцяў, а не для перараблення геніяльнага стварэння — чалавека. (...) Я люблю прыроду ўсю, як яна ёсць".

І. Рэпін у лісце да А. Жыркевіча: "Усё лета я чытаў маленькую газетку «Мир» і мяркую, што болей і не варта марнаваць часу на газету".

У. Х. Одэн у інтэрв'ю М. Ньюмену: "Асабіста я не разумею, як культурны чалавек можа глядзець тэлевізар і нават проста набыць яго".

У выдадзеным у 1938 годзе па-польску нумары каталіцкага календара для вернікаў лявонпальскай парафіі (цяпер Мёрскі раён) з допісаў на тэму стаўлення тагачаснага польскага грамадства да габрэяў вылучаецца адзін з такою назваю: "Габрэйства хоча запанаваць над светам". Лейтматыў – дамінаванне габрэяў у сферы даваеннага польскага гандлю.

Да лявонпальскай парафіі пасля таго, як яе адлучылі ад парафіі друйскай, адносілася Вята, вёска пражывання сям'і маёй маці. І жыхарам Вяты, каб мець уяўленне пра тое, што праўда ў такіх артыкулах, а што не, чытаць іх было зусім неабавязкова. Асабліва ўвосень, у пару збыту вырашчанага па гаспадарках збожжа, калі ў выніку змовы перакупшчыкаў-габрэяў аддавалася яно сялянамі практычна за бясцэнак.

Што, аднак, на стаўленне большасці вяскоўцаў да суседзяў габрэйскага паходжання, якія часам цярпелі ад супляменнікаў не менш за астатняе насельніцтва, не ўплывала. Уплывалі абумоўленыя пражываннем на адных землях няпісаныя правілы добрасуседства.

Пярліна ад Фаўлза: "Усё адно што мануцца падняць сябе ўласнымі рукамі". Тут "падняць" – у наўпроставым значэнні. А як шмат людзей мануцца падняць сябе – у сэнсе дадаць вартасці ўласнай асобе ў вачах іншых. Ды ўсё часам марна, бо ці мала што нам жадаецца.

Разважаць пра шляхі, формы і метады ўкаранення ў грамадстве дэмакратычных каштоўнасцей у святле чалавекалюбства сусветнага разліву – рэч у параўнанні з узняццем тэмы нацыянальнага ўладкавання ў вачах нашых уладаў заўжды даволі бяскрыўдная. А калі яшчэ і пад прыправаю развагаў аб дэмакратычных свабодах і правах чалавека падаецца, як часам робяць гэта нашыя некаторыя калегі-літаратары, то і цаны ёй, зразумела,

няма. На першы погляд – самая-рассамая Еўропа, а насамрэч – прыхоплены ніткамі паліткарэктнасці варыянт зносакаўшчыны на тле імітацыі дбання пра агульначалавечае. Той самай паліткарэктнасці, ад якой да ідэалогіі з усімі яе вычварэнствамі – адзін крок і якой, як правіла, усялякае цемрашальства звычайна і прыкрываецца.

Ледзь-ледзь адпусцілі ідэолагі лейцы, ледзь-ледзь заірдзеўся далягляд у водсветах кволенькага чарговага "пацяплення", як тут жа паперла з людзей вальналюбства. Так порстка з многіх учора яшчэ гэтак памяркоўных ды абачлівых паперла, што сапраўды вальналюбных неяк умомант тым бурапенным струменем волі на ўзбочыну адціснула. Цікава, колькі з ліку першых застанецца паперадзе, як раптам прыйдзе ўладзе ў голаў гэткае неспадзеўнае вальналюбства спыніць?

У нашай беларускай справе, каб не расчаравацца, важна ад самага пачатку ўсведамляць і ўважаць за належнае, што працы – на гады-дзесяцігоддзі, калі наогул не на стагоддзі. І менавіта працы, а не яе падмены гойсаннем па вярхах. Зрэшты, і расчараванне, калі сілы і жаданне штосьці рабіць не на зыходзе, – таксама неблагі рухавік.

Што значыць быць абкладзеным з усіх бакоў у горадзе абласнога ці раённага маштабу? Штодня бачыць, як учарашнія добрыя знаёмцы круцяць пры выпадковай сустрэчы духамі... Як нядаўнія калегі адводзяць убок позіркі... Як дружбакі пры сякіх-такіх пасадах, днямі яшчэ гэтак зычлівыя, прыязныя, сёння таропка абмінаюць, каб як хутчэй растварыцца ў натоўпе. Панад усім – собская твая горыч уперамешку з жаданнем не кідацца ў роспач, не зважаць ці хаця б рабіць выгляд, што табе гэткія іх паводзіны зусім не абыходзяць, што ты імі абсалютна не пераймаешся.

У Стэндаля – быццам між іншым: "...мой бацька... памірае, здаецца (тут і ў наступнай цытаце падкрэслена мною. – *Ф. С.*), у 1819 годзе...".

Або:

“Я страціў дзеда, калі быў у Германіі, не памятаю дакладна, у 1807 ці 1813 годзе”.

Як знаёмая гэтая прыблізнасць памяці датычна датаў...

У таго ж Стэндаля: “Я адчуваў нейкую непрыязнасць да бацькі, і мне было праціўна яго цалаваць”. Мне свайго цалаваць праціўна не было, бо не давялося. Затое непрыязнасці, нават падчас апошняга развітання, было аж занадта, з каптуром. А цяпер, з гадамі, што праўда, — усё меней ды меней.

Галоўны мінус халасцяцтва — адсутнасць магчымасці параіцца з блізкім чалавекам у няпэўную хвіліну. Той самы адзіны мінус, які, здараецца, здольны закрэсліць усе плюсы-перавагі. Нават часам даволі агрэсіўная людская падазронасць, што нярэдка спадарожнічае адзінокім людзям, на яго фоне — не вартая ўвагі дробязь.

На экране самыя жудасныя эпізоды з жыцця варшаўскага гета — з дзецьмі-сіротамі, што сядзяць пры ходніку ў надзеі: а раптам хто-небудзь раздобрыцца ды што-небудзь дасць? Якім і не можа ніхто ўжо памагчы і якія, мабыць, ужо, целам знясіленыя, душою знявераныя, на тую помач надта і не спадзяюцца. Вырачанасць пяцігадовага дзіцяці на пакуту не знайсці спачування ў іншым, так падобным з выгляду да найдабрэйшага бацькі, дзеда, брата, чалавеку, — што можа быць страшней?

Кожны народ мае слабасць чымсьці выхваляцца. Мы, беларусы, любім выхваляцца ўласным нігілізмам адносна нацыянальных каштоўнасцей. Цікава, што ступень такога нігілізму ні ад месца працы чалавека ў нас не залежыць, ні ад таго, у якую грамадскую, дзяржаўную ці недзяржаўную, суполку ён уваходзіць або нават якіх палітычных поглядаў прытрымліваецца. Не дзіўна, што

і спосабы яго (нігілізму) апраўдання, як правіла, у нас мала адзін ад аднаго адрозніваюцца.

Талачыстыя мы людзі: ледзь не штодня ў нас — нейкія збіралаўкі. То на падарунак камусьцці да дня народзінаў або юбілею, то на хаўтуры, то на помнік, то на сняданак, то на падвячорак, то яшчэ на нейкую трасцу. Канечне, бываюць сітуацыі, калі і не шкада, і след чалавеку памагчы. У выпадку нейкага стыхійнага бедства, напрыклад, або хваробы. Але ж не гэтак ужо, як зараз у нас: куды вокам ні кінь, усюды вольнага ад жабрацтва месца — як бабе сесці.

У Варлена Бечыка цытата: “Здольны, вельмі здольны, здольны на ўсё”. Шыкоўна, адно што лепей са шматкроп’ямі, відаць, было б: “Здольны... вельмі здольны... здольны на ўсё...” А вось ужо са “здольны да ўсяго” (што было б па-беларуску, мажа, і больш правільна) штосьці істотнае ў характарыстыцы чалавека відавочна страцілася б.

Як доўга помніцца добрае. Да прыкладу, тое, як год трыццаць пяць таму, плацячы адной вельмі беднай віцебскай сям’і за пакой мізэрныя грошы, яшчэ і мусіў ад тых бедных людзей літаральна адбівацца, адмаўляючыся ад дармовае вячэры ці абеду.

І даволі шмат такога ў жыцці было. І яно, вось такое бясхітрасна-добрае, часам усё, што ні здараецца з намі ў жыцці кепскага, калі і не нішчыць у памяці дазвання, дык значна прыцямняе, робіць не такім страхавітым.

Якія мы былі палахлівыя ў сваім Міжрэччы. Фельчарка прыйшла ў вёску зрабіць малым нейкія прышчэпкі, дык мы па прырэчным хмызе пабеглі ад яе хавацца... Сядзім сярод арэшніку, дрыжым, бы тыя зайцы. А трэба ж было пасля, як падраслі, неяк пазбывацца страху перад праявамі знешняга свету. Кожны па-свойму тое рабіў, але ўсе — самастойна. Заціснутым абцугамі адвечнае некальніцы бацькам не да таго было.

Мы ж, выцяўшыся лбамі раз і другі аб асцюкі людское незычлівасці-несправядлівасці, і не прызнаваліся ім пра гэта ніколі. І не таму, мабыць, што нам ужо, узброеным сякімі-такімі ведамі, нашмат лягчэй было, як ім, а таму, што давала знаць аб сабе неўпрыкмет узрослае на глебе дачаснае самастойнасці іранічнае стаўленне да старэйшых. Да бацькоў і іхняе апекі, да іхніх наіўных, заснаваных на спрадвечных сялянскіх уяўленнях аб маралі павучанняў – таксама, на жаль.

Згадкі гараджанаў пра гады ўласнага маленства для іх вясковага аднагодка – карціны іншасвету. Два лады жыцця, дзве абсалютна розныя яго выявы ва ўлонні аднаго і таго ж дзяржаўнага ўладкавання. Але ці варта гэткую велізарную рознасць спісваць на адно толькі ўладкаванне? Што наракаць на хібы ўладкавання, калі чалавек жа іх прычынаю і з'яўляецца.

Старэла Друя паціху, бязлюдзела, мізарнела, як бязлюдзее-мізарнее дачасна пакінутая насельнікамі сядзіба. І вось дзякуючы ксяндзу Сяргею Сурыновічу і на Друю мода, здаецца, зноў пачалася. Мастакі, літаратары – бадай, цягам стагоддзяў гэтулькі творчага люду запар Друя не бачыла, як сёння бачыць.

Апошні раз быў у Друі, месцы свайго з'яўлення на свет, калі з бацькам помнік на магілу маці ў аднаго друйскага дзядзькі замаўлялі. Праз раку – Піедруя, стрыечныя сёстры, цёткі Яніны, якая 63 гады таму везла цяжарную маму на падводзе ў друйскую лякарню мною разраджацца, там жывуць. Да хаты сваякоў, здаецца, рукою падаць, а ўжо, як раней, у госці напрасткі не пойдзеш: мяжа.

Памятаецца, помнік замовіўшы, у адведзіны да Марыі Мікалаеўны, якая ў Міжрэччы ў пачатковай школе разам з мужам Антонам Феліксавічам, выпускніком Друйскай гімназіі, нас вучыла, а па смерці мужа на радзіму, у Друю, з сынам-выпівохам вярнулася, пайшоў.

Сумам старэчае беднасці-неўладкаванасці патыхала тое апошняе спатканне і з яшчэ даволі рухаваю на той час Марыяй Мікалаеўнай, і з Друяй.

Так тады думалася, што апошняе. Аж не, не апошняе было. Днямі, падчас пахавання на прыдруйскіх кладах брата Генадзя, пабачыў з латвійскага боку ўскраіну мястэчка паўз спрэс зарослы баршчэўнікам бераг Дзвіны. А наведацца ў Друю, каб зірнуць на месца, дзе ўпершыню піскнуў, зноў не атрымалася. Ды, папраўдзе, не надта і карціць. Ну, нарадзіўся там, і што з таго, калі сэрцам прырасці да месца не было наканавана?

Вярнуўшыся дадому, у Віцебск, замовіў касцельнаму прэзасу[1], друйскаму мальцу (друіду, як жартам яго клічу) Пётру Глоду, здымак той самай лякарні — і на тым пакуль што ўся настальгія і скончылася.

Такое бессаромнае занядбанне памяці.

Абыходзіцца ўласнымі сіламі і спадзявацца ў кожнай сітуацыі толькі на сябе — вось правіла, якое след ад маладых гадоў засвоіць творцу-правінцыялу. “А што так камплексаваць, напішы ў якую-небудзь няўрадавую арганізацыю заяўку на стыпендыю ды едзь сабе ў замежжа”, — параіў на поўным сур’ёзе адзін не дурны чалавек у пару піку маіх дзесяцігадовае даўніны непрыемнасцяў, звязаных з тузанінай вакол нашага пісьменніцкага саюза ды пагрозаю страты працы. Такім яму ўсё простым здавалася: напісаў, здабыў, паехаў... Быццам толькі і мараць у тых няўрадавых сталічных арганізацыях, каб як-небудзь пасунуцца ды табе даць дарогу.

Падзея: сталічныя мысляры едуць у правінцыю з намерам далучыць абарыгенаў да каштоўнасцей вольнага свету. Прышчапіць ім, так бы мовіць, цывілізаваны погляд на жыццё. Ці хаця б ужо якую-ніякую шырыню погляду наогул. Зрэшты, дзесьці і нас, творцаў абласнога маштабу, гэтак жа недаверліва-перасцярожліва жыхары яшчэ большай глыбінкі-правінцыі ўспрымаюць. Натуральная з’ява горадацэнтрычнае эпохі.

---

[1] Старшыня парафіяльнага камітэта.

Практыка вытоптвання культурніцкае прасторы асобнымі, як правіла, аднымі і тымі ўвішнымі дзеячамі, з'явілася ў нас не сёння і мае ўжо даволі ладную гісторыю. Пачынаецца яна ад савецкіх часоў, ад пары афіцыйнага, на дзяржаўным узроўні, гуртавання творцаў. Што зусім не дзіўна, бо, як вядома, любое гуртаванне – першая падстава для нараджэння іерархіі. І не абавязкова на грунце валодання творчымі здольнасцямі. Якраз часцей за ўсё іншымі якасцямі – гучным голасам, дужымі плячыма ды неадольным імпэтам чалавека кожную хвіліну быць наперадзе ўсіх. Ну і, вядома ж, заўсёднымі іх спадарожнікамі: драбком пракудлівасці, жменькаю запабежлівасці, каліўцам хітрасці.

Як пагартаць каторы зборнік айчыннага фальклору, дык і блізка нашы прашчуры на такую немач, як залішняя чуллівасць, не хварэлі. Наадварот, што ні казка, напрыклад, у хрэстаматыі 1970 года выдання пад рэдакцыяй Глебкі, то штосьці страхавітае, што дзецям на ноч і не заўсёды добрыя матка ды бацька рызыкнуць распавесці.

Бо адзін персанаж тых казак – са стрэльбаю. Другі, глядзіш, – з жудаснай даўбнёю. Трэці папа пугаю да крыві лупцуе. Чацвёрты царкву падпальвае. Пяты – баба злая: усердзілася на дзеда ды давай яго качарэжкай біць; забіла небараку да смерці і пахавала пад загнетам. Шосты – сусед паганы, намаўляе маладзёнаў, каб старога, нямоглага бацьку дабілі, бо, маўляў, толькі хлеб дарэмна нягеглы старэча есць. Сёмы каменем войту чэрап разбівае, ды так спраўна, што той і асвяжаецца (так і пададзена ў тэксце, быццам пра якое свінчо – асвяжаецца) увадначас. Восьмы – ліса-мазахістка – з жывата ахвяры кручком кішкі выцягвае. А яшчэ ж коцік ёсць, што лісіцу ды дачок яе дубцом бязжаласна забівае. А яшчэ ж мужык, што сякераю мядзведзя засякае... І г. д. і да т. п.

Словам, што ні казка ў тым згаданым выданні, то калі не мора крыві, дык лужына – дакладна. І калі і плача хто з персанажаў, дык хіба што ад злосці. Ну,

можа, ад крыўды яшчэ, за якую конча, кроў з носу, згодна з народным уяўленнем пра гонар і годнасць, без лішніх рэфлексій-сумневаў на тэму чалавекалюбства папомсціцца трэба.

Як не пазайздросціць некаторым людзям: п'юць усё без разбору, што ні трапіць на вока. А тут іншым разам само ў рукі плыве, а не дасі рады сябе прымусіць глытнуць. Бывае, паўдня праходзіш, песцячы думку, што вось зараз жа, нарэшце, вернешся дахаты з прагулянкі і прычасцішся... А не – пустое, не лезе ў горла пітво, хоць жывасілам лі. І гэта пасля студэнцкіх колішніх непрасыханак. Як здольны памяняцца чалавек. І вось жа невядома яшчэ – ці да лепшага.

Стары на дарослых сыноў скардзіцца. Маўляў, сякія-такія, ніякае павагі на адрас ягоны не выказваюць. У адведзіны завітаўшы, не тое што пляшкі гарэлкі – бутэлечкі піва ніколі з сабою бацьку не прынясуць.

Чычыкаўскае пра Сабакевіча, калі той на ўласнае добрае здароўе пачаў наракаць, узгадваецца: "Эк его, на что вздумал пенять!"

Бессэнсоўна і неразумна дакараць чалавека за адсутнасць любові. Можна толькі наракаць на гэткі факт, ды і то лепш за ўсё – употай, моўчкі.

Уражанне ад бібліятэчнае імпрэзы неўзабаве па вяртанні са Швецыі. Пяцігадовы шкет дзве гадзіны бегаў сюды-туды па зале, тупаў, крычаў, перашкаджаў сарака дарослым людзям слухаць выступоўцаў. Чужыя спрабавалі абурацца, апеляваць да бацькоў малога, ды, убачыўшы, што ўсё, на што тыя здатныя, – гэта бездапаможна развесці рукамі, змірыліся з наканаванасцю, сціхлі. У тых жа шведаў, напэўна, такое немагчыма было б. Прынамсі за месяц на Готландзе не чуў на дварэ гэтулькі прарэзлівага, капрызліва-патрабавальнага дзіцячага енку, колькі штодня чую ў Віцебску за паўгадзіны.

Э. Уілсан у лісце да У. Набокава: “Мяне вельмі пацешыла яго (Жэнэ. – *Ф. С.*) заўвага, якую ён, кажуць, адпусціў на адрас Жыда: «Ён чалавек сумнеўнай амаральнасці»”. Соль не ў факце сумневу, а ў тым, *што* сумневу падлягае.

У таго ж Э. Уілсана ў іншым лісце да У. Набокава: “...жонка Сцівенсана... перлюстравала яго рукапісы і разам з некаторымі яго сябрамі пасля яго смерці стварыла міф пра...”. Сястра Чэхава Марыя гэтаксама абышлася з эпісталярнаю спадчынай брата. І сястра Лоркі таксама. Многія сваякі знакамітых творцаў прыклалі руку да лакіравання ды скажэння іх абліччаў, стварэння салодкіх міфаў пра ... .

Смаленская пісьменніца Ніна Сямёнава, аўтарка вядомай у свой час п’есы “Печка на колесе”, жанчына дазвання савецкіх поглядаў, напрыканцы фундаванай год пятнаццаць таму фондам Сораса пачосткі для вузкага кола ПЭН-цэнтраўскай публікі падчас наведання палацава-архітэктурнага комплексу ў Бешанковічах сказала: “Ну, Сорас – няблага, вядома, ды трэба і дадому збірацца. Забавіліся, а ў гародзе, мабыць, за гэты час і свой сорас вырас”. Усім не спадабалася. А жарт, як ні круці, – дасціпны.

Віцебск са сваім неўтаймоўным імпэтам здзівіць свет падчас імпрэзы “На сямі вятрах”. Імпрэза быццам паэтычная, таму, мабыць, амаль што ў кожным другім вершыку ля мікрафона пры лялечным Пушкіне – кабеціна ў небе на ўзор шагалаўскай. Сінеча, крылы, подых вятрыска, ілюзія палёту – усё як мае быць, вось толькі руху пры гэтым у тых неверагодна ўзнёслых вершыках, за выключэннем аўтараў дзесяці (агулам жа ці не за сотню лік удзельнікаў сягаў), ні на пядзю. Затое таго, што Чэхаў называў “бабьим вздором”, – аж праз край. Дзівіцца застаецца, адкуль у менш як паўмільённым горадзе гэтулькі славалюбных людзей.

Прорва паміж прадстаўнікамі ўладнага бамонду і іхнімі расейскамоўнымі палітычнымі, нават і самымі, здавалася б, непрымірымымі, апанентамі не такая ўжо велізарная, калі глядзець на яе ў пэўным ракурсе. Агульную светапоглядную рысу — глыбіннае русафільства — што першых, што другіх, нягледзячы на прылюднае дыстанцаванне апошніх, — з вагаў не скінеш. Гэта найперш і менавіта тое сутнаснае, што дае падставу нават не самым упёртым нацыяналістам не лічыць ні тых, ні гэтых за сваіх. *Не свае*. Калі і не дарэшты чужыя, дык усё адно — *чужаватыя*.

Лакейства — гэта не толькі перад уладаю поўзанне. Але і перад любою сілаю, перад нахабствам, перад угаараванасцю таксама. Перад апошняю — асабліва брыдкае, бо, як правіла, — добраахвотнае. Прыроджанае. Магчыма, спадчыннае, магчыма — выхаванае, але гэта ўжо не так і важна.

У падрабязнейшым вікіпедаўскім жыццяпісе расейскай акторкі Алісы Фрэйндліх: “...неаднойчы выказвалася, што добразычліва ставіцца да прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна”. Дзеля чаго ажно гэткі вернападданніцкі пасаж, як не (прабачаюся за цынізм) дзеля забеспячэння месца на прэстыжных кладах? Пэўна ж, ніхто адмыслова да гэткага цалавання прэзідэнцкіх пятаў не змушаў.

Караткевіч у адным з дзённікавых запісаў 1966 года: “...Так праходзілі дні. Кожны, чорт яго бяры, як крыж. Пэўна, здохну (тут і далей падкрэслена мною. — *Ф. С.*) раней часу ад разліцця жоўці або інфаркту”.

У сувязі з гэтым узгадаліся словы блізкага сябра пісьменніка, актора коласаўскага тэатра Андрэя Лабанка падчас аднае літаратурнае імпрэзы: “Ваярыў-ваярыў Уладзімір Сямёнавіч за гістарычную праўду, аж пакуль не здох дачасна!”

Як гэта тады ўсіх уразіла-ўскалыхнула! Такое сказаць пра Караткевіча: здох! Але ж ведаў сябрук, што казаў,

і ведаў, што ўзгадваць такое – не абраза памяці, не святатацтва, а толькі выраз належнага, з прысмакам горычы, шкадавання.

Дабрыня – як патрыятызм: і дурною можа быць, і кваснаю, і, наадварот, высокаю, годнаю. Вось старая маці спаляругшанага, ды збольшага ўжо паднятага лекарамі на ногі 40-гадовага сына ў цягніку дадому з санаторыя вязе. Анёл-ахоўнік, інача́й не скажаш – гэтулькі датклівае, ледзь заўважнае старонняму воку самаахвярнасці ў кожным жэсце жанчыны.

Адзінае, што дарэшты выдае стан яе душы, – водбліск трывогі ў вачах, калі памагае даросламу дзіцяці ўсторкнуць на ногі тапкі, праводзіць паглядам да тамбура, а потым чакае, наструніўшыся ўсім целам – а раптам здарыцца штосьці дрэннае па дарозе? – калі ж яно ўрэшце вернецца ў купэ.

Як знячэўны ўдар пад дых – купка маміных півоняў наўзбоч зараслага быльнягом, ды вербалоззем, ды выросткамі-самасейкамі сліваў папялішча. Наўкола хмыз, трава ў рост чалавека, бязлюддзе і раптам – такое. І горыч, і радасць, і здранцвенне. І ўсё-такі радасці куды больш. Як прывітанне з іншасвету, як доўгачаканая вестка пасля трох дзесяцігоддзяў маўчання.

Не так тое цікава, як цяжка было чалавеку ў сітуацыі прыніжанасці, як тое, што сталася прычынаю метамарфозы, калі ён, на пядзю ўзняўшыся па слізкай службовай лесвіцы над іншымі, сам пачаў іншых прыніжаць. Як тыя, што з затурканых выбіліся, самі больш безабаронных туркаць пакрысе-памалу прызвычайваюцца. Вось тут, мабыць, вартая ўвагі ды пяра псіхалогія і пачынаецца.

Неблагія хлопцы – пакуль на адлегласці ад улады. А як толькі трапяць ва ўладныя калідоры, так і пачынаюць ператварацца ў пачвараў са свінскімі замашкамі. І не дзіва: належаць да чагосьці і адначасова не быць яго часткаю немагчыма. Нялюдскага, свінскага, якога

адвеку так шмат у нашым грамадскім уладкаванні, — у тым ліку.

У прыналежнасці да д'ябальскага атачэння ніхто прылюдна прызнацца не хоча. Нават калі па вушы ў тым атачэнні захрас. Нават калі даўно ўжо не тое што вухам ці вокам або языком — рогам унтэр-прышыбееўшчыны да ганебнага хаўрусу прычыніўся. Быць часткаю сілы, нават і відавочна гнюснай, — з задавальненнем, вось толькі каб як-небудзь незаўважна, бокам, быццам ненаўмысна, з-пад палкі, з-пад прымусу. Быццам няўцям даросламу чалавеку: кожны знаходзіцца там, дзе яму след быць. Мілая асаблівасць калектыўнае свядомасці сучаснага суайчынніка.

Дачка знаёмай мастачкі, пераняўшыся беларусацэнтрычнымі развагамі маці пра паходжанне народаў свету, кажа: “Мама, цябе паслухаць, дык атрымліваецца, што ўсе людзі на зямлі ад нас, беларусаў, пайшлі”.

Мастачка — мая колішняя студэнтка, адна з тых, прафесійнаму ўзрастанню якіх нязменна радуюся, знаёмствам-сяброўствам з якімі ганаруся. Але такога яе, хай сабе нават і жартоўнага, прыпушчання — усе і ўсё ад беларусаў! — штосьці прыняць не хочацца. Гэта ж такая кіслая памяркоўнасць, такая нудотная звышабачлівасць запанавала б тады на свеце, што і схавацца ад яе, мабыць, не знайшлося б дзе.

У гарадской ратушы падзея: прэзентацыя выдадзенага нашым творчым саюзам літаратурнага альманаха. Людзей аж зашмат, а журналістаў з дзяржвыданняў — каб хоць адзін дзеля разводу. І зразумець іх можна: напішаш, а рэдактар не ўхваліць, не пусціць у друк на падставе, што саюз жа, маўляў, “не той”, апазіцыйны.

У рэдактара дзеці, на паборы з людзей падчас падпіснай кампаніі гадаваныя, унукі, што з голаду, мабыць, пухнуць і сваёй чаргі на дабрачыннасць памяркоўных гараджанаў чакаюць. Там, глядзіш, праўнукі з'явяцца — іх трэба будзе ўсім народам, талакою падымаць. У про-

стыя ж карэспандэнты рэдактаруісці, дарма што год восем ужо, калі не болей, паводле ўзросту пенсіянер, зусім не хочацца.

Так і працуем грамадою на тых згаладнелых начальніцка-перастаркаўскіх нашчадкаў. Дзеці ды ўнукі ва ўсіх народаў ёсць. Але, напэўна, ні ў аднаго народа факт іх наяўнасці не з'яўляецца сродкам спекуляцый ды апраўдання паскудных учынкаў у такой ступені, як у нас, беларусаў.

Ва ўсіх без выключэння выпадках страты людзьмі працы паводле ідэалагічных меркаванняў — звычайнае быдляцтва тых, хто пры ўладзе. Злачынства, якое безумоўна падлягае пакаранню. Бо менавіта гэткія дзеянні найбольш разбалансоўваюць ва ўспрыняцці людзей катэгорыі маралі, спрыяюць росту настрояў усёдазволенасці.

І ніякая псіхалогія тут ні пры чым. Корпацца ў псіхалогіі такіх дзяржаўных дзядзькоў і цётак — тое самае, што шукаць чалавечнасці ў алігатара або, як казала Како Шанель, дбаць пра космас замест таго, каб пастарацца забяспечыць усіх больш-менш прыстойнымі прыбіральнямі. Як і дарэмна шукаць вышэйшых меркаванняў ва ўчынках асобаў, што перад такімі алігатарамі прагінаюцца. Які сэнс дашуквацца таго, што і без росшуку — на паверхні?

Начальніца з майго апошняга месца працы толькі праз колькі год прызналася, што з трэцяга заходу рэктар згадзіўся мяне аформіць на месца шараговага карэктара ва ўніверсітэцкім выдавецтве. І то з вунь якою перасцярогаю. Замест таго каб правесці ім жа ўведзены абавязковы ўрок лікбезу ў форме агіткі за курс улады падчас традыцыйнага субяседвання пры прыёме на "пасаду", памятаецца, крутнуўся ды і ўцёк некуды, перадаверыўшы размову свайму памяркоўнаму, ветліваму намесніку.

У дзённіку за 1896 год Чэхаў узгадвае Фета, які, праязджаючы ў Маскве па Махавой, апускаў у карэце акно

і пляваў на ўніверсітэт. Маўляў, “харкне і плюне: цьфу!” Фурман так прывык да гэтага, што кожны раз, едучы міма ўніверсітэта, знарок спыняўся.

А я падобнае чуў год дваццаць таму ў Віцебску датычна будынка аблвыканкама. Толькі не пляваў чалавек на той будынак, а адварочваўся ад яго. Такая, маўляў, гіда, такое паскудства гэты выканкам, што вочы б яго не бачылі.

Напэўна, няблага быць запабежлівым. Але ж, мусіць, і складана такім людзям: пад усё, як той казаў, рук не падкладзеш, усяго не прадугледзіш, усюды сам сабе не падсцеліш. Ад расчаравання ж ці няспраўджанага намеру да неўрозу – рук лекацення ды вырачаных вачэй – адзін крок.

Падчас украінска-расейскага канфлікту частка нашай уладнай эліты аказалася куды больш лаяльнай да ўкраінскіх нацыяналаў, чым яе паддадзеныя, ёю ж самою ў непрыязнасці да ўсяго нацыянальнага выхаваныя. Ваяўніча выказвацца апошнія на гэты конт да часу асцерагаюцца, але як толькі адчуюць кан’юнктуру, тут жа ў абарону “зялёных чалавечкаў” дружнымі шарэнгамі і выступяць, пачнуць брахаць.

Зяленіва моцна ў нас праз вярхоўнае дбанне карані пусціла. І не дзіва: як можна выхаваць чалавека ў павазе да свайго, калі з дня ў дзень тое сваё мэтанакіравана, апантана бэсціць і зневажаць.

Цынізм – гэта калі ставішся аднолькава цынічна як да іншых, так і да сябе. І найперш, можа, – менавіта да сябе. Бо скіраваны на іншых людзей цынізм і назоў іншы мае – зласлівасць. Ганаровае званне цыніка без дай прычыны, за прыгожыя вочы не даецца – яго заслужыць трэба.

Ледзь не штодня перадачы пра праблему дажывання зорак кіно ці эстрады: самотныя, адзінокія смерці, беднасць, нястача, няўвага людская. Быццам з жадан-

нем памагчы, ды ўсё – лухта. Як кожны сам сваё жыццё будуе і пражывае, так і хвіліны дажывання сам кожны прадвызначае – жыццём папярэднім.

Тое самае і пра невясёлыя гісторыі дзяцей і ўнукаў колішніх высокіх урадоўцаў можна сказаць. Усё тая ж нязводная звычка грузіць чыёсьці жыццё ды "мілыя" недахопы ўласнае натуры на чужыя плечы. Ні ў адной рэлігіі гэткай дурной дабраслівасці ніводзін Бог не вучыў.

Калі з кім і можна прадэманстраваць уласную дабраслівасць, то гэта – не з бязногай Валечкай з Шуміліна. Бо Валечка такога папросту нікому ніколі без крайняе патрэбы не дазволіць. "Што? Памагчы мне злезці з каляскі? Ну, не! Адзін раз паможаце і сыдзеце, а мне потым, да помачы вашае прывыкшы, як рады сабе даваць?" Міжволі ўзгадваюцца нашы нараканкі на жыццё.

У вёсцы, што ў вярстах чатырох ад Віцебска, могілкі на ўскрайку, упрытык да апошняй хаты. Вузенькая, метры ў чатыры, паласа паміж сцяной жытла і агароджаю кладоў, і адразу ж за ёю – захаванні, крыжы, пастаменты. Уявіць толькі: у хаце гаспадар на ложку, побач, амаль што ўстыч, парэшткі нябожчыкаў у трунах.

Якія нервы трэба мець, каб з дня ў дзень, з году ў год вытрымліваць гэткае суседства. Ды яшчэ ў дадатак да ўсяго спажываць з гародчыка ў ежу садавіну-гародніну. А ці яшчэ лепш: панесці тую гародніну на кірмаш, прапанаваць людзям на добрае здароўе ўсё тое амаль што на могілках вырашчанае.

Украінцы і самі, без нашае падказкі ведаюць, што імі задуманае, у сэнсе намеру перакуліць свет ды зрабіць яго не тое што дазвання, а хаця б збольшага людскім, – марнае. І разумеюць, мабыць, тое, і пра расчараванні, што наперадзе чакаюць, не могуць, канечне ж, не здагадвацца.

І ўсё адно не можа не выклікаць павагі гэткая прага ісці насуперак цемры. Як выспа сапраўднага, адзіна вартага на фоне нашых штодзённых айчынных енкаў аб

вартасці жыцця ды клопату пра тое, як бы яго хоць на якой, хоць на самай фальшывай ноце, але затрымаць, прадоўжыць, працягнуць.

Па звальненні з універсітэта, падчас працы прыбіральшчыкам пры храме, дзве рэчы асабліва прыгняталі: грэблівае стаўленне людзей да фізічнае працы і, адпаведна, праявы пагарды да чалавека, што ёю займаецца. Але найбольш – непрыкрытае часам дэманстраванне перавагі перад такім чалавекам. І з боку тых жа святароў, Божых служкаў, між іншым, таксама.

А вось для каго такое стаўленне не характэрнае, дык гэта для дзяцей. Яшчэ не выхаванае праз наследаванне ўчынкаў ды паводзінаў дарослых.

Меса ў храме – як секс: штодня адно і тое ж, з нязначнымі, вызначанымі імшалам адступленнямі.

Скажаш, што ў касцёл на літургію ходзіш, і заўважаеш, як адразу выраз твару ў суразмоўцы мяняецца. Ого, маўляў, молішся, вечнага жыцця прагнеш. Не будзеш жа тлумачыць кожнаму стрэчнаму нюансы сваіх няпростых стасункаў з Богам.

Напрыклад, што смяротнага прысуду ў якасці пакарання за забойства не адмаўляеш, што мараторыя на эўтаназію не падтрымліваеш і г. д. І што, як бы часам ні ішлі твае погляды ўразрэз з Божымі запаведзямі ды прынцыпамі так званай паліткарэктнай большасці, цвёрда перакананы: уласнымі ўзаемаадносінамі з Богам, як і ўласным жыццём, без пасярэднікаў-падказчыкаў маеш права распараджацца. Якіх сярод дабраслівых, зычлівых, памяркоўных, але часам вунь як злых, ды зайздрослівых, ды напышлівых беларусаў больш чым дастаткова.

Што такое мая вера? Вось сядзеў у бальнічнай палаце напярэдадні выпіскі ды й думаў: “Як не сорамна табе: Бог колькі разоў цябе шкадаваў, даваў шанц, а ты? Хоць бы курыць кінуў у знак падзякі, ці што...” Думаў гэтак, думаў – і надумаўся: кіну!

Адыходзячы з лякарні, папрасіў у чалавека, якому перад гэтым аддаў пачак цыгарэт, адну, але ўжо дакладна ведаў: кіну абавязкова. Кінуў. З боязі. Бога баяцца – хіба кепска?

Слова Бібліі – дэкларацыя аб намерах. А з улікам двaістасці асобных яе пастулатаў – і не надта выразных намерах. Да таго ж Святое пісьмо часта супярэчыць самому сабе. Напрыклад, у плане павучанняў датычна непрымальнасці асуджэння. Бо любое ж павучанне само па сабе – ужо асуджэнне. Дык ці дзіва, што пры гэткіх пярэчаннях кожны інтэрпрэтуе тэксты Бібліі так, як яму ў гэтую хвіліну выгодна.

У Евангеллі ад Мацвея: "Дык не клапаціцеся аб заўтрашнім дні, бо заўтрашні сам будзе клапаціцца пра сябе..." Не ведаю, які бацька ці якая матка будуць выхоўваць сваё дзіця паводле гэткага павучання. І што станецца вынікам такога выхавання?

Любіць чалавека? Лепш спачуваць. Хаця б за тое, што любові нявартыя.

Такая звычка ў нас, творчых людзей: бегаць бегма, цягнуць у аўдыторыі свае дзівацтвы ды комплексы. А калі яшчэ і кепскі пах з рота, і зубы так сабе, і дыкцыя не з лепшых... Неэстэтычна, неэтычна. І негуманна: раптам дзеці ўбачаць, спужаюцца. Ды і нервы і час дарослага чытача (слухача, гледача), якога і без таго ў нас кот наплакаў, напэўна, варта было б паберагчы.

Год восем таму знаёмы студэнт патэлефанаваў – параіцца, што рабіць, як паводзіць сябе. Пакуль сядзеў хлопец на занятках ва ўніверсітэце, прыйшлі ў інтэрнат спецслужбоўцы, перакулілі ў пакойчыку ўсё дагары нагамі, шукаючы нейкае крамолы.

Год праз пяць – гэткая ж з другім прыгода. Тут "круцей" абышліся. Патэлефанавалі, сказалі коратка: "Заткніся, шчанюк!"

Летась з трэцім – крыху ў іншым ключы гісторыя. Так апрацоўвалі, агітуючы на супрацоўніцтва, што шкада глядзець было на дзецюка. Груба, бесцырымонна, пасвінску. Ад імя дзяржавы, вядома.

А днямі знаёмая біблятэкарка пра ўласны досвед сутыкнення з тымі самымі органамі распавяла.

Выклікалі жанчыну з нагоды нейкага неабачлівага кроку на апазіцыйным сайце ў сеціве яе непаўналетняй дачкі і спакойна, быццам пра штосьці зусім звыклапаўсядзённае, спыталі: “А вы не баіцеся, што ў горадзе машыны вельмі хутка ходзяць?”

І запомняць хлопцы ды дзяўчаты дзяржаву *такой* – паскуднай, нахабнай, варожай. І скідкі на тое, што, маўляў, выпадкова *туды*, у органы, такія кадры трапілі, рабіць не выпадае. Уяўляю, колькі б дзён з гэткім стаўленнем да людзей далі б мне ў свой час у сістэме адукацыі папрацаваць.

У цэнтральнай бібліятэцы, ды яшчэ калі яна, напрыклад, імя Леніна – вось гэта мерапрыемства! А дзенебудзь у аддаленай ад цэнтра горада чытальні ці ў якімнебудзь, крый Бог, прыстасаваным памяшканні – зусім ужо, маўляў, не тое. Шык не той, а без шыку – што за кураж? З такімі меркаваннямі пазбавіцца комплексу правінцыйнасці нам наўрад калі-небудзь удасца.

Уражанне пра адсутнасць айчыннай карупцыі таму, мабыць, жывое, што надта ж яна ў нас дробная. Як правіла, на ўзроўні побытавым: ты мне, я – табе. Дробная, але паўсюдная і невыводная. Дробнае і заўважыць цяжэй, і змагацца з ім няпроста. Асабліва як і жадання тое рабіць – кот наплакаў.

Што（разу гасціна дык гасціна: каваю з печывам гаспадары ўчастуюць, гарэліцы нальюць, яшчэ штонебудзь пад адыход у тэчку пакладуць. Усё б добра было ў гэтай хлебасольнай хаце, калі б не псавалі ўражання вечныя вяроўкі і шпагаціны з майткамі ды бялізнаю праз увесь калідор, ад сцяны да сцяны. І сказаць нель-

га: пакрыўдзяцца. Бо датклівыя, як-ніяк інтэлігенты не ў першым і нават не ў другім калене.

Для шараговага чытача, слухача, гледача, нязвыклага ўспрымаць постаць літаратара, музыкі, мастака ва ўсёй яе шматстайнасці ды супярэчлівасці, вынесеныя на шырокую публіку непрывабныя бакі яго натуры — шок, расчараванне. Для рэпутацыі творцы ў вачах грамадскасці — заніжка маральнага ўзроўню, у пэўным сэнсе нават — дыскрэдытацыя асобы. Для лёсу творчае спадчыны — шанц падтрымання цікавасці публікі. Для гісторыі — акт справядлівасці. Што важней — кожны сам для сябе вырашае.

Маладым людзям, якія збіраюцца стаць журналістамі, трэба да паступлення ў ВНУ метадычна даводзіць, якая гэта свінская прафесія. Пра непрывабныя рэчы, што ёй спадарожнічаюць ці наогул уваходзяць у джэнтльменскі набор абраных імі на ўсё жыццё службовых абавязкаў. Кажам жа мы прэтэндэнтам на працу мыйшчыка ў трупярні, чым яны будуць там займацца. Тым больш што, у адрозненне ад прафесій іншых, ахвотных авалодваць азамі журналістыкі заўсёды знойдзецца больш як дастаткова.

Такое ўражанне бывае пасля сустрэч са знаёмымі ў горадзе, быццам я адзіны тут, у гэтым амаль паўмільённым Віцебску, шчаслівы чалавек. Усім кепска, усе пры сустрэчы скардзяцца, на штосьці ці кагосьці наракаюць. Тое самае па тэлефоне: жальбы, жальбы, жальбы... Матор аўто не цягне, ныркі хібяць, яешня прыгарэла, піва занадта горкае, цешча (свякрова) зноў свінню падклала і г. д.

Крыху падсаладжваюць карціну масавай роспачы самадзейныя паэты. Жаліцца, жаліцца чалавек, а напрыканцы і агарошыць знячэўку тым, дзеля чаго, відаць, і патэлефанаваў: “А давайце вам вершы пачытаю! Хочаце?”

Ну што за пытанне! Канечне ж — “хочаце”, асабліва калі заспелі цябе спрасоння ці калі з-пад душа на званок

выскачыў і стаіш басанож мокры на халоднай падлозе са слухаўкаю ў намыленай руцэ.

А іншым разам слухаеш, слухаеш жальбы ды, збіты дазвання з панталыку бясконцым патокам словаў на тым канцы праваду, чакаеш: ну калі ж? калі?

Доўгі, як дарога да святасці, маналог пра бедыняшчасці, уздых, усхліп, хвіліна маўчання, і вось яно, нарэшце, доўгачаканае-жаданае, галоўнае — наконт вершыка: ”А хочаце..?”

Не, ёсць-такі адно, на што часам скарджуся. Воля воляю, а як лета на падыходзе, дык і чакаеш яго з напругай: што, як занадта будзе гарачае? Вокны кватэры — на поўдзень, у спякотныя дні тэмпература на балконе пад 50. Таму ўвечары расчыніць з пакоя дзверы на яго можна сама раней а восьмай, калі сонца схаваецца за дахам суседняй шматпавярхоўкі. І то не заўсёды. Нагрэтыя за дзень сцены астываюць павольна, дык у асобныя дні і к поўначы ледзь-ледзь надарыцца палёгка. А то яшчэ камар, быдлячына бязрогая, заляціць з Лучосы, ашчасліваць на ўсю ноч дадатковым клопатам. І атрымліваецца, што з 24 гадзін сутак добра калі 4-5 для нармальнага існавання прыдатныя.

Просценькі гарнітур Віктара Астаф’ева ў фільме пра наведанне пісьменнікам родных мясцін — проста царскі строй і адначасна пляма дысгармоніі на фоне татальнага вясковага расейскага бязладдзя, безгаспадарчасці. Рэзруху, на якім нават староннямy воку спыняцца ніякавата.

Здараецца такое пры чытанні, што міжволі захочацца працягнуць радок. Напрыклад, такім чынам:

*Матушка возьмёт ведро, молча принесёт воды... Я — калгасніца маладая, жыву весела, ані дбаю...*

Любім трымаць іншых за дурняў. І нярэдка, забавіўшыся такой нікчэмнай гульнёю, страчваем нюх да цвярозай ацэнкі здольнасці гэтых іншых аналізаваць прыхаваныя матывы ды паводзіны нас саміх.

Нейкі ўсё больш зычлівы робішся дзень пры дні. Вось грыбоў сёлета шмат па лясах, дык сядзіш і варожыш з чалавекалюбства: хаця б прымаразкі заўчасна не пачаліся ды паспелі людзі набраць апенак пад завязку. А то прымарозіць няўрокам – і бывай тады, грыбны парадыз.

Дзе-небудзь у глухім лесе, здараецца, прыгнешся падняць грыб, аж глядзь: побач з тым грыбам букет штучных кветак у глебу ўторкнуты. Хтосьці памёр тут, няйначай, ці, мабыць, забілі каго-небудзь гэтым месцам, ці сам чалавек, можа, засіліўся.

Пакінеш каштоўную знаходку, далей пойдзеш. у прыгарадным жа Лучоскім ляску, спрыхаду, і наогул падчас ціхага палявання адно пад ногі глядзі. Бо што ні крок, то магілка, кветкамі ды крыжыкам упрыгожаная: сабачыя клады.

Ноўкаўскі лес – зусім прыгарадны, вярстах у шасці ад Віцебска. Між тым месцамі глухі да вусцішы: яры, яміны, гушчар. Асабліва ў бязлюднае будзённае ранне страхавіты. І грыбны, як ні дзіўна. Асабліва там, дзе дзікамі акупаваны-развораны. На разворах тых заўсёды што-небудзь ды знойдзеш. Не баравік, дык польскі грыб падымеш, не падасінавік, дык сушонік. Груздоў шмат, пярэстых індыкоў (парасонаў) таксама.

Паходзіш па вепручыных сцежках, і няўзнак кошык з сяго-таго і набярэцца. І ўдала, і не самотна: хоць якая, хоць вепручыная, але ж жывая душа побач. А сёлета – каб след жывёліны ў лесе. Выбілі ўвадначас дзічыну з-за пагрозы эпідэміі чумы, і адразу спусцеў неяк, зрабіўся няўтульным, нежывым прыгожы Ноўкаўскі лес.

Дзеці на двары пры снегавіках — сведчанне адвечнага імкнення чалавека да стваральнага пачатку. Лепяць і не думаюць параймацца меркаваннем нейкае там адцягнена-абстрактнае мэтазгоднасці. Лепяць, ахопленыя імпэтам штосьці вартае пабудаваць уласнымі рукамі, — немудрагелісты, як сама прырода наўкола, занятак.

## Цётка, ды не тая…[2]

Цётка-чужаніца, асоба з саламяным німбам вакол цемя і неўтаймоўнай схільнасцю да скаргапісання, паклёпаў, даносаў і іншых неэкзатычных відаў к*а*кання ў чужы кампот, чытае вершыкі і з уздымам распавядае пра тое, як днямі на лецішчы, у перапынку паміж шынкаваннем капусты і прыбіраннем з градак цыбулі, разрадзілася ў выніку творчага азарэння яшчэ і рыфмаваным прадуктам.

Затым ненавязліва, бы між іншым, распавядае пра намер супрацьстаяць ганебнай практыцы не пускаць літаратараў у аўдыторыі. Як такі намер будзе ажыццяўляцца – невядома. Бо толькі ўжо зусім сляпы і глухі не ведае, колькі менавіта сама цётка разам са сваімі хаўруснікамі панаторквала калегам на шляху да тых самых аўдыторый асцюкавіння ў выглядзе негалосных і галосных забаронаў.

У змаганні з апанентамі галоўныя цётчыны фішкі, якімі яна карыстаецца дзе і як толькі можа, – самаўсхваленне і гульня ў бязмежны, без берагоў і краю, патрыятызм. А найзапаветная яе мара, як вынікае з падсалоджаных крывым усмехам рэплік, – пра тое, каб людзі тэрмінова кінулі ўсе справы ды заняліся чытаннем яе «несмяротных» опусаў.

А найбольш абыходзіць кабеціне тое, што пры гэткай высокай канцэнтрацыі ў тых опусах духоўнага пачатку, якога, маўляў, так катастрафічна нестае сучаснаму свету, хоць ты расперажыся, – не выяўляе паскудны свет да іх ніякай цікавасці.

Цётка запоўніла сваёю груваасткаю постаццю тутэйшыя літабшары і топчацца па іх, як апоеная брагай свіння. Куды ні паткніся, – скрозь яе аздобленая пукам штучнага валосся галава. І каму, апроч самой цёткі, увесь гэты дурны псеўдатворчы аргазм патрэбны, – аднаму д’яблу вядома.

---

[2] Варыянт урыўка з твора “Плебейскія гульні”.

## Ах, спадару гендар…

Набокаў у лісце да Э. Уілсана: "...І наогул, да жаночай прозы я стаўлюся з недаверам. Пісьменніцы належаць да іншай літаратурнай катэгорыі". У Чэхава скрозь у лістах – гэткае ж, дзе больш, дзе менш прыхаванае, а то і зусім наўпроставае, меркаванне.

У Стэндаля: "Тое, што жанчыны-аўтары вельмі рэдка дасягаюць велічы, у той час як самыя нязначныя іх лісты поўныя харства, адбываецца таму, што заўсёды яны наважваюцца быць шчырымі толькі напалову; стаць шчырымі для іх тое самае, што выйсці з дому без карункавай хусціны. Няма нічога больш звыклага для мужчыны, як пісаць выключна пад дыктоўку ўласнага ўяўлення, не ведаючы, куды гэта прывядзе".

Агулам не маючы нічога супраць жаночае эмансіпацыі, Фаўлз зазначае:

"Яны (жанчыны. – *Ф. С.*), канечне ж, павінны быць роўнымі з намі, але ім прапаноўваюцца толькі нашы спосабы існавання, мужчынскія ўяўленні (у сацыяльным і кар'ерным сэнсе) аб роўнасці. Таму ў выйгрышы аказваюцца толькі жанчыны з мужчынскім складам характару, якія ў стане дзейнічаць па-мужчынску. Што да астатніх, то яны падобныя да птушак у клетках, апынаюцца ў становішчы, калі не могуць паклапаціцца пра сябе".

У Одэна: "Мужчынам і жанчынам наканавана змагацца з рознымі складанасцямі. (...) Мужчынам след пазбягаць эстэтызму. (...) Жанчыне трэба пераадольваць эмоцыі. (...) Калі б мужчыны даведаліся, што жанчыны кажуць пра іх адна адной, род чалавечы вымер бы". І далей такое: "Мужчыны павінны выраблять механізмы і станкі, а жанчыны вырашаць, якія менавіта. Жанчыны больш разважлівыя за мужчын. Яны нізавошта не ўкаранілі б рухавік унутранага згарання або зброю масавага знішчэння".



# Змест

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**СІЎКО Франц**

**ШТРЫХКОДЫ**

Зборнік эсэ




Адказны за выпуск *Зміцер Вішнёў*
Карэктары *Францішак Дубраўскі, Ліда Наліўка*
Мастак *Уладзіслава Юрчанка*
Вёрстка *Алена Барышава, Алена Трушко*

Падпісана да друку 30.08.2017. Фармат 84×108/32.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 9,03. Ул.-выд. арк. 7,05.
Наклад 300 асоб. Замова 2689.

Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства “Галіяфы”.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных
выданняў № 1/48 ад 03.10.2013.
Пр. Партызанскі, 77А, 220107, Мінск.
E-mail: vish@bk.ru
www.halijafy.by

ТДА “НоваПрынт”.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных
выданняў № 2/54 ад 25.02.2014.
Вул. Геалагічная, 59, корп. 4, каб. 10, 220138, Мінск.